УДК 929.52
ББК 63.3(4БЕИ)
К90

*У кнізе выкарыстаны здымкі з архіваў рэспандэнтаў, збораў Руслана Кулевіча, калекцыянера Фелікса Варашыльскага, гісторыка Андрэя Вашкевіча і сайта oldgrodno.by*

**Кулевіч, Р. Ч.**

К90 Гісторыі з гродзенскіх вуліц: Гродна 1930–40-х вачыма жыхароў. Працяг / Руслан Кулевіч. – Гродна : ЮрСаПрынт, 2019. – 236 с.

ISBN 978-985-7134-87-8

Кніга змяшчае ўспаміны дваццаці сямі гродзенцаў пра перыяд 1930–1940 гг., а таксама фотаздымкі з іх сямейных архіваў і выявы тагачаснага горада. Героі распавядаюць гісторыі свайго дзяцінства і юнацтва, апісваюць падзеі пры зменах улады і штодзённае жыццё гараджан. Польскія назвы ў кнізе пададзены згодна з нормамі сучаснай беларускай мовы.

Адрасуецца шырокаму колу чытачоў.

**УДК 929.52**
**ББК 63.3(4БЕИ)**

**ISBN 978-985-7134-87-8**

# ЗМЕСТ

# ПРАДМОВА

Гісторыя Гародні (Гродна / Grodno) мае шмат аблiччаў. Найчасцей у цэнтры ўвагі гісторыкаў была Улада. Адпаведна пісаліся кнігі пра “польскі”, “расейскі” ці “савецкі” горад. Іх аўтары, якія больш нагадвалі прыдворных летапісцаў, звычайна канцэнтраваліся на нейкім адным перыядзе, адпраўляючы ў нябыт усе іншыя. У выніку гісторыя нашага горада больш нагадвала старажытны палімпсест. Толькі ў апошнія гады беларускія даследчыкі пачалі пісаць пра Гародню як пра шматканфесійны і шматнацыянальны феномен, у якім не павінна быць знішчаных і забытых старонак. Аб’ектам навуковай цікавасці стала жыццё звычайных гараджан, іх штодзённыя клопаты, надзеі і расчараванні, а таксама нязбыўнае памкненне быць свабоднымі і жыць у вольным горадзе. Аднак ва ўсе часы за вольнасць даводзілася змагацца, і не заўсёды гэтае змаганне было паспяховым. Паразы ператваралі Каралеўскую Гародню ў правінцыю. Але горад працягваў жыць, і новыя пакаленні гарадзенцаў напаўнялі ўласным жыццём старонкі ягонай гісторыі.

Гісторыя горада – гэта таксама жыццёвыя гісторыі яго жыхароў, якія з’яўляюцца галоўнымі аўтарамі амаль тысячагадовага падарожжа Каралеўскай Гародні ў часе, і якія здаўна чакаюць магчымасці распавесці пра яго. Вусная гісторыя якраз дазваляе гэта зрабіць. Яе галоўная каштоўнасць у тым, што яна ў пэўным сэнсе вяртае гісторыю да звычайных даляглядаў чалавечага жыцця, ператварае яе ў “жывы арганізм” і даносіць да сучаснікаў подых мінулага, пазбаўлены ідэалагічных і палітычных сімпатый. Сведкі гісторыі ацэньваюць мінулае з пазіцыі агульначалавечых каштоўнасцяў і арыенціраў, сярод якіх адным з галоўных з’яўля-

ецца каштоўнасць самога жыцця і ягоная адпаведнасць Божым запаведзям.

Брытанскі даследчык Пол Томпсан, які стаяў ля вытокаў вуснай гісторыі ў Еўропе, у кнізе “The Voice of the Past. Oral History” (1978) сцвярджаў, што вусная гісторыя “напаўняе гісторыю жыццём і пашырае яе маштаб, дазваляе знайсці герояў не толькі сярод правадыроў і лідараў, але таксама сярод невядомай большасці, дапамагае найменш абароненым людзям, асабліва старым, адшукаць годнасць і ўпэўненасць, […] спрыяе ўзаемаразуменню паміж сацыяльнымі класамі і пакаленнямі, […] дапамагае людзям адчуць сябе людзьмі. Не менш важна, што вусная гісторыя кідае выклік агульнапрызнаным гістарычным міфам, аўтарытарнасці суджэнняў, закладзенай у навуковай традыцыі, і спрыяе радыкальнаму пераўтварэнню сацыяльнага сэнсу гісторыі”.

Пры гэтым вусныя ўспаміны не толькі адчыняюць дзверы ў мінулае, адначасна яны дазваляюць лепш зразумець сучасную эпоху і сучаснага чалавека. Усё ж памяць – гэта заўсёды пэўны сінтэз мінуўшчыны і сучаснасці, у якім свядомасць аўтара ўспамінаў істотна ўплывае на факты гісторыі ды іх інтэрпрэтацыю. Атрымліваецца, што распавядаючы гісторыю горада, гарадзенцы распавядаюць таксама пра сябе.

Памяць непасрэдных сведкаў мінулага абмяжоўваецца пераважна XX стагоддзем, калі гісторыя значна прыспешыла свой ход. Колішняя Каралеўская Гародня неаднаразова змяняла сваю дзяржаўную прыналежнасць. У гэты час яе гараджане былі падданымі Расейскай Імперыі, жыхарамі акупацыйнага Ober-Ost, сустракалі на сваіх вуліцах урад Беларускай Народнай Рэспублікі і прадстаўнікоў Літоўскай дзяржавы, былі грамадзянамі ІІ Рэчы Паспалітай, перажывалі “першых саветаў” (1939–1941) і нямецкую акупацыю ў складзе ІІІ Рэйха, аднаўлялі жыццё горада ў пасляваенным СССР (БССР) і, нарэшце, сталі грамадзянамі Рэспублікі Беларусь.

Кніга журналіста Руслана Кулевіча – гэта яшчэ адна важная і цікавая спроба распавесці гісторыю апошняга стагоддзя Гародні праз аўтабіяграфічныя аповеды яе жыхароў. Кніга стала праца-

гам аўтарскага праекта збору вусных успамінаў. Яго першая кніга "Горад адзін, успаміны розныя. Гродна 1930–40-х вачыма жыхароў" выйшла з друку ў выдавецтве "ЮрСаПрынт" у 2018 годзе.

Руслан Кулевіч удала працягвае традыцыі вуснай гісторыі ў Гародні, якія нараджаліся яшчэ на пачатку стагоддзя. Варта прыгадаць першы выпуск краязнаўчага альманаха "Горад Святога Губерта" (2002), дзе былі змешчаныя ўспаміны Клаўдзіі Несцярэнкі (1926 г. нар.), Станіславы Рой (1922 г. нар.), Крысціны Жулегі (1934 г. нар.), Генадзя Каршакоўскага (1931 г. нар.), Баляславы Куцэвіч (1924 г. нар.) ды іншых. У 2017 годзе ў Гародні выйшла з друку кніга Андрэя Вашкевіча і Таццяны Касатай "Зусім іншы горад. Гродна і гродзенцы ў вусных успамінах". На яе старонках былі змешчаныя ўспаміны пра штодзённасць Гародні міжваеннага часу, падзеі Другой сусветнай вайны, сацыяльныя і палітычныя змены пасляваеннага часу.

З кожным годам сведкаў гарадзенскага мінулага застаецца ўсё менш. Адыходзяць людзі, і разам з імі адыходзіць у нябыт Гародня іх дзяцінства і маладосці. Руслан Кулевіч сваёй працай ратуе горад ад забыцця і дае магчымасць старажылам дзяліцца сваёй памяццю з тымі, для каго ўсё толькі пачынаецца.

Цэнтральнай падзеяй успамінаў, сабраных Русланам Кулевічам у гэтым зборніку, з'яўляецца Другая сусветная вайна (1939–1945). Яе гісторыя ў варыянце вусных успамінах гарадзенцаў істотна адрозніваецца ад версіі звычайнага падручніка па гісторыі. Вусныя ўспаміны пра апошнюю вайну – гэта аповед пра трагедыю гарадзенца, які стаўся ахвярай крывавага змагання паміж нямецкім нацызмам і савецкім сталінізмам.

Мы не маем права ігнараваць сведчанні тых, каго звыкліся лічыць "маўклівай большасцю" гісторыі. Трэба прызнаць аўтараў вусных успамінаў кампетэнтнымі ў ацэнках мінулага і пагадзіцца з тым, што гісторыя не з'яўляецца маналогам аднаго аўтара, што яна складаецца з розных інтэрпрэтацый. Пра адныя і тыя ж падзеі можна распавядаць па-рознаму і рабіць нашую памяць больш адкрытай для дыскусій і абмеркаванняў. Вусная гісторыя якраз і накіроўвае на гэта.

Сабраныя ўспаміны – таксама яскравае сведчанне таго, што Гародня не скарылася, што гарадзенцы нават у самых нечалавечых умовах заставаліся людзьмі і да канца адстойвалі сваё права на годнае жыццё.

Спадзяюся, што гэтая кніга шмат каго з сучасных гарадзенцаў прымусіць задумацца над уласным унёскам у жыццё горада. Мы не павінны адмаўляцца ад найлепшых традыцый жыхароў колішняй Каралеўскай Гародні, а кніга Руслана Кулевіча якраз нагадвае пра іх.

*Алесь Смалянчук, доктар гіст. навук*

# УСТУП

Кніга “Гісторыі з гродзенскіх вуліц” – гэта працяг цыклу ўспамінаў сталых гродзенцаў, якія я пачаў збіраць у 2017 годзе. Першы зборнік “Горад адзін, успаміны розныя” з шаснаццаццю гісторыямі ад жыхароў горада выйшаў у 2018 годзе.

Новая кніга складаецца з дваццаці сямі гісторый. У ёй шмат успамінаў гродзенцаў, якія ў 1930–40-х гадах жылі ў занёманскай частцы горада. Некаторыя гісторыі я прывёз з Польшчы. Там падчас экспедыцыі “У пошуках гродзенцаў” атрымалася запісаць некалькі ўспамінаў рэпатрыянтаў і знайсці дзясяткі старых фотаздымкаў Гродна. Ёсць і апавяданне жыхаркі Санкт-Пецярбурга, якая пакінула Гродна ў пасляваенны час.

Сярэдні ўзрост герояў кнігі на момант запісу – 90 гадоў. Іх гісторыі звязаныя з жыццём у Гродне пры польскай уладзе, дачыненнямі з мясцовымі яўрэямі, прыходам саветаў у 1939 годзе, нямецкай акупацыяй і пасляваенным жыццём. Часам старажылы ўспамінаюць адны і тыя ж падзеі, а часам іх расказы разыходзяцца з успамінамі іншых герояў ці афіцыйнай версіяй гісторыкаў.

Я ставіў мэту паказаць жыццё Гродна з боку яго жыхароў, а не так, як гэта выгадна той ці іншай дзяржаве. Гэтыя ўспаміны – у першую чаргу гісторыя горада, якую пішуць самі гродзенцы.

У дзвюх кнігах я пастараўся як мага больш распавесці пра жыццё гродзенцаў у 1930–40-х гадах. У гэтым мне дапамагалі самі жыхары горада, і я ім вельмі ўдзячны. Гэтую кнігу я хачу прысвяціць памяці нашых вядомых краязнаўцаў Віктара Саяпіна і Наталлі Канюк. З кім бы са старажылаў я ні гутарыў, усе ўспаміналі гэтых людзей. Я ўдзячны ім, што яны далі магчымасць працягнуць іх справу на карысць нашага Гродна.

***

Карыстаючыся выпадкам, выказваю падзяку за дапамогу ў выданні гэтай кнігі, каштоўныя парады і дапамогу ў пошуках старажылаў рэдакцыі Hrodna.life, Таццяне Каліневіч, Алене Мішанёвай, Тадэвушу Алешчыку, Віталю Касцецкаму, Каралю Калвейту, Андрэю Вашкевічу, Алесю Смалянчуку, Томашу Тамашэўскаму, Уладзіміру Рунге, Уладзіміру Шэшку і сям'і Левандовічаў.

*Руслан Кулевіч, 2019*

# АПЕЛЬСІНЫ, ВАДА ДЛЯ ПАЛОННЫХ І РАЗМОВА З ВЯЗНЯМІ ГЕТА

## (Алена Барэвіч)

*Алена Іванаўна Барэвіч нарадзілася ў 1931 годзе ў Гродне. Каталічка. Сям'я жыла ў службовым жыллі на станцыі Ласосна, пасля набыла ўчастак уздоўж тагачаснай вуліцы Беластоцкай*, дзе Алена Барэвіч дажыла да канца сваіх дзён. Памерла ў лютым 2019 года.*

У Першую сусветную сям'ю дзядулі Алены, які працаваў стрэлачнікам на чыгунцы ў Гродне, вывезлі ў Расію. Спачатку ў Кастраму завезлі, а пасля ў Петраград. Адтуль ён вяртаўся з сям'ёй на радзіму, у Гродна.

«Мой бацька быў таксама чыгуначнікам, і мы атрымалі службовае жыллё ў доме каля станцыі Ласосна. У маёй метрыцы так і напісана: "Нарадзілася ў горадзе Гродна, станцыя Ласосна"» .

Бацька Алены працаваў на цэнтральнай станцыі і кожны дзень дабіраўся спадарожным цягніком у цэнтр горада, назад, бывала, ішоў пешшу. У час польскай улады маці не працавала – была хатняй гаспадыняй, займалася агародам і даглядала Алену і яе брата.

### *У школу прыходзіў і ксёндз, і бацюшка*

Алена Барэвіч вучылася ў школе імя Стэфана Жэромскага (сучасная школа № 6). Скончыла там два класы. Пасля ўз'яднання Заходняй і Усходняй Беларусі бацькі аддалі дачку на час у школу каля былога бернардзінскага кляштара. Там Алена вучылася

* Сучасная вуліца Суворава.



*Алена Барэвіч, 1930-я гг.*

ў маленькіх манаскіх келлях. Пасля вайны гродзенка працягвала вучобу ўжо ў савецкай школе.

"У 1930-х гадах у нас у школе вучыліся розныя дзецi. Сёння іх называюць беларусы, а раней – праваслаўныя. Да іх бацюшка прыходзіў на рэлігію, а да нас – каталіцкі святар. Я памятаю, у мяне была школьная сяброўка Хмяльніцкая, так у яе была змяшаная сям'я, і сястра яе хадзіла год да праваслаўных, а пасля да каталікоў. Былі і такія выпадкі".

Вучні насілі школьную форму: у малодшых класах – шэрыя фартухі, у старэйшых – чорныя, таксама



*Школа імя С. Жэромскага. Была адкрыта польскімі ўладамі як агульнаадукацыйная школа № 7 у пач. 1930-х гг.*

абавязкова белы каўнерык і бант. У кожнага класа быў бант свайго колеру.

“Кожную раніцу ў клас прыходзіла пані гігіеністка і глядзела рукі і галаву вучняў. Так было асабліва ў малодшых класах. У нас былі дзеці з не вельмі добрых сем’яў, недамытыя – рабілі іх бацькам заўвагі. А ў класе на такіх дзяцей заўсёды коса паглядалі. Агулам у школе была дысцыпліна, і ганаровыя вучні на лінейцы, бывала, раніцай чыталі патрыятычныя вершы і ўздымалі сцяг”.

### *Зямлю куплялі ў Дэ Ласі*

У міжваенны час Барэвічы жылі ў службовым доме на самай ускраіне горада, на станцыі Ласосна. У другой палове дома жыла шматдзетная сям’я чыгуначнага манцёра Ганусевіча.

“Жылі сабе спакойна побач са станцыяй. Заўсёды бачыла цягнікі, якія ехалі ў польскія гарады і назад у Гродна. У суседа Ганусевіча была вялікая сям’я – пяцёра дзяцей. Жылі дружна з імі, кантактавалі”. З часам бацька Алены ўзяў у растэрміноўку зямлю ў сям’і Дэ Ласі, каля дарогі на тагачаснай вуліцы Беластоцкай, пачаў будаваць там дом.

“У Дэ Ласі быў цэлы маёнтак і шмат зямлі, але яны ўсё разбазарылі, і дзяржава за пазыкі частку забрала і прадавала. Так і мы купілі сабе ўчастак. Па суседстве з намі жыло шмат яўрэяў, у якіх былі свае крамы. Жылі дружна, і я не памятаю, каб на нацыянальнай глебе былі нейкія канфлікты”.

### *Фанерны завод яўрэя Браўна*

Недалёка ад дома сям’і Барэвічаў быў фанерны завод яўрэя Браўна. Алена Барэвіч памятае частыя забастоўкі рабочых на гэтым прадпрыемстве.

«Шмат клопатаў было ў гэтага Браўна, бо працавалі ў яго камуністы. Як толькі ён не даваў зарплату, на заводзе раўла сірэна. Мама казала: “Ізноў бяда ў Браўна”. Такім чынам працоўныя страйкавалі і хацелі, каб уладальнік своечасова выплачваў ім заробак. Мама распавядала, што два разы завод Браўна нават падпальвалі. А ён не мог своечасова плаціць зарплату рабочым, бо збыту тавару не было. Памятаю, Браўн да таты заходзіў і пытаўся, ці зможа ён яму дапамагчы з дастаўкай. Браўну патрэбны быў транспарт хут-



*Сям'я Барэвічаў, 1930-я гг.*

чэй, каб пагрузіць прадукцыю, але бацька нічога не мог зрабіць. Ён быў звычайным рабочым на чыгунцы, а не начальнікам».

У час нямецкай акупацыі заводам Браўна завалодаў немец Рупель. Фанерны завод ён ліквідаваў і зрабіў там мэблевую фабрыку. Казалі, што сам Браўн паспеў кудысьці ўцячы.

### *"Пяціхвілінка" і апельсіны*

Гродзенка памятае, як хадзіла ў цэнтр горада і там фатаграфавалася, а таксама апельсіны, якія прадаваліся ў крамах.

«Аднойчы да нас прыехала маміна сястра, і мы пайшлі ў горад. Былі на вуліцы Лістоўскага[*]. Недзе каля турмы нас сфатаграфаваў фатограф. Я тады была з шарыкам і палову твару сабе закрыла ім. Фатограф даў нам квіток на здымак, каб мы яго выкупілі. Нягледзячы на тое, што шарык амаль мяне закрыў, мы ўзялі гэты здымак. Ён у мяне дагэтуль недзе ляжыць. Такія хуткія здымкі называлі "пяціхвілінкай".

[*] Сучасная вуліца Кірава. Эдвард Лістоўскі – першы прэзідэнт Гродна ў 1919–1922 гг.

З міжваеннага Гродна памятаю апельсіны ў скрыначках. Гэта сёння гэтай садавіны шмат, а ў 1930-х гадах маці купіць адзін-два, гэта было шчасце. Памятаю, на вітрыне кожны апельсін быў у скрыначцы і ў сурвэтцы. Гэта было дарагое задавальненне. Больш за ўсё апельсінаў я наелася, калі майго брата хрысцілі. Тады дзядзька прыйшоў са сваімі дочкамі і цэлым пакетам садавіны».

Сям'я хадзіла ў асноўным у прыватныя крамы каля дома: да пані Ванішэўскай, Лацвіковай і Ляскоўскай. Алена Барэвіч успамінае, што ў яўрэяў была крама каля вялікага дома. Сёння там пошта, а раней была крама і здымныя кватэры. Гэты дом яўрэі пабудавалі пасля таго, як прыехалі з заробкаў з ЗША. У іх у краме было шмат тавараў: крупы, макуха (рэшткі ад поснага масла) і іншае. Недалёка ад гэтай крамы быў склад дошак, там можна было ўзяць будматэрыялы для дома. Многія тавары можна было браць "на кнігу": гаспадар крамы запісваў усё ў сшытак, а разлічваліся з ім пазней, калі былі грошы.

### *Бамбілі немцы, а прыйшлі рускія*

У верасні 1939 года Алена Барэвіч каля свайго дома на ўскраіне Гродна бачыла і нямецкія самалёты, і савецкія танкі.

«Гэты перыяд я называю польска-нямецкая вайна, і насамрэч так і было. Незадоўга да вайны ў небе нешта наспявала, а на запасных шляхах сабраўся невялікі эшалон польскага войска, і іх там нечаму навучалі. І раптам над жалезнай дарогай нізка-нізка, насупраць нашага дома, ляціць самалёт і як бухнуў тры бомбы! Салдаты спачатку думалі, гэта былі пробныя налёты. Тады хтосьці моцна пацярпеў. Самалёт той з чорнымі крыжамі я запомніла. Калі ён павярнуў, салдаты пабеглі да нас у двор, а бацька ім крычаць: "Панове, вы што робіце? У мяне дзеці тут. Не трэба, каб з двара вы стралялі па нямецкім самалёце. Стаўце свой карабін машыновы* за ганкам". У выніку яны яго паставілі недалёка ад шляхоў.

Пасля налёту ў нас усе шыбы ў доме былі разбітыя, з паліц усё ўпала. Тады ўжо ўсе зразумелі, што пачалася вайна. А мы – дзеці – дурныя былі, радаваліся, што 1 верасня ў школу не трэба ісці».

Налёты працягваліся да сярэдзіны верасня, але немцы так і не ўвайшлі, Алена Барэвіч мяркуе, што не паспелі. Тады людзі казалі,

* Кулямёт.

што Польшчы ў вайне з Германіяй дапаможа Англія і Францыя. Але 20 верасня ў Гродна нечакана ўвайшлі саветы.

«Памятаю, што нехта сустракаў камуністаў з кветкамі, а нехта пасіўна ставіўся да іх. Былі і тыя, хто змагаўся, асабіста я бачыла адзін танк, які гарэў, – яны праязджалі нашай вуліцай. Што адбывалася ўжо ў горадзе, я не ведаю. Калі прыйшлі саветы, салдат адзін да нас прыскакаў на кані і спытаў па-руску: "Где кладбище?". Менавіта "кладбище" было першым рускім словам, якое я пачула. Адправілі яго на францішканскія могілкі. Мабыць, у іх быў там зборны пункт, але я дакладна не ведаю».

«Калі бацька прыйшоў на працу, калегі параілі яму сарваць з формы бэзавую і чырвоную палоскі, а з "рагатыўкі"* серабрыстую палоску і кукарду з арлом. Так і з гузікамі было – нешта прыйшлося абшываць сінім матэрыялам. Бацька абадраны так і прыйшоў дадому, і маці яму сказала: "А гэта што такое?". Яму прыйшлося тлумачыць».

З прыходам новай улады гараджан пачалі раскулачваць і вывозіць. Бывала, праз нянавісць людзі нагаворвалі адзін на аднаго. "Памятаю, да нас прыходзілі польскія салдаты і прасілі грамадзянскую вопратку. Мама нешта давала, а яны шынялі пакідалі. Потым мне з іх пашылі паліто".

Праз некалькі дзён пасля прыходу камуністаў у Заходнюю Беларусь на цэнтральнай чыгуначнай станцыі ў Гродне ўсіх польскіх службоўцаў памянялі на савецкіх. Бацька Алены Барэвіч пайшоў працаваць на завод нарыхтоўкі сена, які знаходзіўся недалёка ад дома.

### *Яўрэі і палонныя чырвонаармейцы*

Праз два гады пасля прыходу камуністаў у Гродна прыйшлі немцы. Недалёка ад дома сям'і Барэвічаў быў лагер для ваеннапалонных. Частая карціна – трасай вядуць вялікую калону палонных чырвонаармейцаў або вязняў гета.

«Як у саветаў, так і ў немцаў былі свае парадкі. У горадзе была каменданцкая гадзіна, дазвалялася быць на дварэ да 22:00. Яўрэяў прымусілі хадзіць строга з жоўтымі зоркамі. Адна мая цётка Юзя ішла неяк вуліцай, і немец яе палічыў яўрэйкай. Даў па мордзе жанчыне праз тое, што на ёй не было зоркі і што яна ішла па ходніку.

* Кепкі ў службоўцаў і ваенных у Польшчы.



*Алена Барэвіч з братам, 1941 г.*

А былі выпадкі наадварот, калі яўрэйкі былі падобныя да полек. Была ў нас знаёмая пані Віхнэ, і не была яна падобная да тыповых яўрэяў. Дзякуючы такому выгляду яна магла часта выходзіць з гета. Яна прыходзіла да маёй цёткі Броні і шыла для яе дзяцей вопратку на замову, там яе кармілі. Аднойчы яе дачка, таксама прыгажуня, прыйшла да цёткі па сваю маці і сказала: “Мама, сканчай працу, мы ўжо не вернемся. Усіх будуць вывозіць у лагер”.

Памятаю, як яўрэяў гналі Беластоцкай шашой, нашай вуліцай, у кірунку Калбасінскага лагера. Там спачатку былі ваеннапалонныя, а пасля зрабілі перасыльны лагер для яўрэяў. Хто не мог ісці, тых білі, мы з-за плота ўсё гэта бачылі. Нам некаторыя знаёмыя яўрэі махалі рукой, памятаю, шавец развітаўся». З Калбасіно яўрэяў вывозілі ў Асвенцім, дзе іх чакала смерць.

«Пані Віхнэ на развітанне казала цётцы Броні: “Кажуць, што ў нас смерць будзе лёгкая. Зайшоў у камеру – і няма цябе”. Яўрэі ўжо ведалі, куды іх вязуць, бо чуткі пра лагеры смерці даходзілі да Гродна. Гродзенскіх яўрэяў вывозілі этапамі праз станцыю Ласосна.



*Гродзенскіх яўрэяў вядуць у транзітны лагер Калбасіно, 1942 г.*

Нікому да цягнікоў падыходзіць нельга было. Людзі паміж сабой абмяркоўвалі, чаму яўрэі не ўцякаюць, – іх было так шмат».

Не толькі яўрэяў гналі непадалёк ад дома Барэвічаў, але і ваеннапалонных чырвонаармейцаў. Алена бачыла вялікі лагер ваеннапалонных, калі ішла на Ласасянку купацца. Побач з лагерам былі вялікія могілкі і шмат пахаванняў. Мясцовыя казалі, што палонныя масава паміралі ў лагеры праз розныя хваробы.

Неяк улетку на шляхах каля іх дома стаялі вагоны з палоннымі. «Я часта глядзела на іх, а з маленькіх акенцаў тырчалі рукі і даносіліся галасы. Аднойчы я пачула: “Девочка, водички принеси”. Немцы дазволілі дзецям насіць ваду палонным. Я пайшла па ваду з пасудзінай, якую перадаў адзін палонны. Акенцаў было шмат, і куды аддаваць ваду я ўжо не ведала. Падала ваду аднаму, і ён узяў. А з другога акна мне ў адказ: “Деточка, так это моя посуда была…”. Памятаю гэта як цяпер».

### *Сыр і вяндліна ў краме для немцаў*

У часы нямецкай акупацыі бацькі дазвалялі Алене наведваць сяброўак у горадзе. Яна хадзіла на вуліцы Паўночную* і Пушкіна – літаральна на другі канец горада.

“Часта хадзіла праз цэнтр. Памятаю, прыйду на плошчу, а там нямецкія крамы. Там у іх на вітрыне ўбачыла жоўты сыр і вяндліну. У адной з такіх крамаў працавала мая знаёмая, і я зайшла туды, але нам – мясцовым – нічога не прадавалі. Усё для немцаў”.

Мясцовых часта ганялі разбіраць завалы ў цэнтры горада. “Пад імі было шмат багацця, бо гэта былі яўрэйскія дамы і крамы. На плошчы часта моладзь збіралася, абменьваліся рэчамі. Немцам гэта не падабалася, і яны разганялі людзей, кагосьці вывозілі ў Германію на працы. Мяне не вывезлі, я паспела схавацца”.

### *Вызваленне*

У час вызвалення Гродна савецкімі войскамі ў ліпені 1944 года каля дома Барэвічаў зноў было шматлюдна – немцы масава адыходзілі.

“Памятаю, як у ліпені 1944 у час вызвалення ў нас адзін немец хаваўся ў склепе ад абстрэлу. Мама яго гнала, а ён з карабінам ся-

---

* Сучасная вуліца Валковіча.



*Алена Барэвіч, 2018 г.*

дзеў. Быў, мабыць, нейкі дурны, баяўся за ўсё. А так у чарговы раз натоўп людзей быў на нашай вуліцы. Немцы з іншымі, так званымі здраднікамі, адыходзілі на захад.

Праз некаторы час зноў гналі людзей, толькі ўжо ў зваротным кірунку. Потым пайшлі каровы, якіх гналі з Германіі. Дык у нас нават травы не было ў двары. Жанчын прасілі даіць гэтых бедных кароў”.

# «У 1939-М МЫ ЧАКАЛІ РУСКІХ, А СУСЕДЗІ ХАЦЕЛІ НАС ЗАБІЦЬ»

## (Ніна Снічыч)

*Ніна Антонаўна Снічыч (Апонік) нарадзілася ў 1923 годзе ў вёсцы Верцялішкі. Праваслаўная. З 1937 года жыве ў Гродне.*

“Мае бацькі былі звычайнымі сялянамі, мелі шэсць дзяцей і тры гектары зямлі. Там і працавалі. Два разы я вучылася ў першым класе ў вясковай школе ў Верцялішках, да таго часу, пакуль можна было хадзіць пешшу. А пасля мы перабраліся на хутар у Грынеўку, то за чатыры кіламетры на вучобу я ўжо не хадзіла. Дома гаварылі на простай мове – трасянцы, у якой-небудзь кампаніі – на польскай”.

***Пераезд у Гродна***

У 1937 годзе ў сям’і Ніны пачаліся сур’ёзныя цяжкасці: памёр карміцель, адзін з сыноў патануў. Каб неяк выжыць, сям’я перабралася ў Гродна, дзе старэйшыя дзеці пайшлі працаваць.

“Бацька іголкай пракалоў нагу, атрымаў заражэнне крыві і памёр за чатыры дні. Пасля гэтага патануў старэйшы брат, сярэдні пашкодзіў нагу – працаваць не было каму”.

Маці Ніны вырашыла пераязджаць з дзецьмі ў Гродна: выжываць у вёсцы стала цяжка. У горадзе пасяліліся ў вялікім доме польскага пана Цыдзіка на



*Ніна Снічыч, 1939 г.*



*Кавалерыя Чырвонай арміі ўступае ў Гродна, 1939 г.*

вуліцы Ерусалімскай*. Апонікі знялі ў яго двухпакаёвую кватэру і жылі ў адным пакоі, а другі здавалі іншым беларусам з вёскі. За свой пакой яны плацілі 15 злотых.

Брат Ніны, Юрка, пайшоў працаваць дворнікам, сястра Тоня – на кафляны завод паблізу чыгуначнага вакзала. Маці пайшла дапамагаць на кухні ў вайсковай частцы, а сама Ніна ўладкавалася працаваць на агароды за аўтавакзалам, дзе арандаваў зямлю адзін яўрэй.

### *Сямейны заробак*

З ранняга дзяцінства ў Ніны быў досвед нянечкі. Таму ў Гродне вясковая дзяўчынка, бывала, глядзела за дзецьмі і прыбіралася ў панскіх кватэрах.

"Апроч агародаў, памятаю, была ў мяне падпрацоўка ў доме польскага лекара на Грандзіцкай**. Гэты дом і цяпер стаіць на скрыжаванні з вуліцай Міцкевіча. На першым паверсе яны здавалі кватэры, на

* Сучасная вуліца Антонава.

** Сучасная вуліца Горкага.

другім жылі самі. Я там прыбірала і дапамагала гаспадарам. За месяц мне плацілі каля 10 злотых, пры гэтым яшчэ кармілі.

Сястра на заводзе за дзень зарабляла 1 злоты. Такога заробку працоўным не хапала, і яны аднойчы зладзілі забастоўку. Пяць тыдняў там сядзелі і начавалі, то ў выніку павысілі ім стаўку на 20 грошаў. Я памятаю, сястры ежу насіла на забастоўку”.

Агулам у горадзе Апонікам жылося лепш, чым у вёсцы. У Гродне яны працавалі ўсе і атрымлівалі за працу грошы.

“На траіх удавалася зарабляць тры злотых на дзень, гэтага нам хапала, каб апрануцца і пракарміцца. Але мы не маглі дазволіць сабе хадзіць па кавярнях і дарагіх крамах. На Дамініканскай* было шмат добрых крамаў, я туды не хадзіла, аддавала перавагу яўрэйскім. Там было танна. Куплялі ў асноўным хлеб, крупы, мяса толькі на святы”.

### *Хадзілі вучыцца танцаваць да яўрэя*

У 1938 годзе сям’я пераехала ў цэнтр Гродна на вуліцу Замкавую. Жылі ў доме недалёка ад сённяшняга Палаца тэкстыльшчыкаў, гэты будынак знеслі ў савецкія гады.

“Жылі ў невялікім доміку, па суседстве былі палякі. У буднія дні працавалі, а на выхадных маглі схадзіць на танцы. Пры паляках было тры танцпляцоўкі. Адна для цывільных на пантонах на Нёмане, каля піўзавода. Былі яшчэ танцпляцоўкі для вайскоўцаў – афіцэраў, і для чыгуначнікаў. У Гродне танцавалі танга, а мы, вясковыя, не ўмелі танцаваць. Хадзілі вучыцца да яўрэя Мэйлаха. У суботу і нядзелю ён праводзіў нам урокі танцаў, а ў буднія дні выкладаў для групаў”.

### *“У 1939-м сусед хацеў нас забіць”*

У верасні 1939 года ў Гродна прыйшлі бальшавікі. Апонікі з цэнтра горада пераехалі на Падпярэселку ў дом № 37. Гэты прыватны дом належаў адной жанчыне, якая не хацела ў ім жыць і пусціла Апонікаў туды бясплатна. Сама ж гаспадыня сышла жыць у горад.

“У Гродне некаторыя жыхары сустракалі бальшавікоў з кветкамі. У асноўным гэта былі беднякі – сяляне ці людзі, якія калісьці жылі ў Расіі. Напрыклад, мая мама ў час Першай сусветнай была там ва

* Сучасная вуліца Савецкая.

ўцёках. Працавала і зарабляла. Таму ёй рускія былі знаёмыя, і мы ў Гродне іх чакалі. Чуткі даходзілі да горада, што з бальшавікамі добра жывецца, і мы спадзяваліся, што яны прыйдуць, і будзе праца для ўсіх. А так за польскім часам мы ўсе працавалі толькі на падпрацоўках, а многія хацелі быць стала працаўладкаванымі".

У верасні 1939 года жыхары не ведалі, хто прыйдзе ў Гродна. Немцы напалі на Польшчу, рускія войскі ўвайшлі з іншага боку.

«Калі да нас прыйшлі бальшавікі, мама выйшла на вуліцу і сказала: "О, як добра, што рускія прыйшлі". Адзін сусед-паляк падслухаў гэта і вырашыў забіць усю нашу сям'ю. Суседка даведалася пра змову і пераказала нам гэта. Яна сказала, што ўначы адкрые акно, каб мы да яе пералезлі. Так і зрабілі. Пераначавалі і сышлі на Падпярэселку. А сусед і сапраўды раніцай прыходзіў. Былі дзверы адкрытыя, і ўсё перагорнута. У Гродне палякі не любілі беларусаў ці рускіх, называлі кацапамі. А яўрэяў наогул ніхто не любіў».

Калі прыйшлі рускія, правялі вялікі сход. Адзін гродзенец у іх спытаў: "Скажыце, працы для нас у вас хопіць?". Яму адказалі: "Хопіць, работы колькі хочаш".

Новая ўлада адразу ж узялася за багатых – іх вывозілі, бедных ніхто не чапаў. "Хтосьці з польскіх патрыётаў спрабаваў абараняцца, і памятаю, што хлапчукі падбілі савецкія танкі, якія заязджалі на мост. Тады загінулі двое рускіх, адзін з іх Гарнавых. Таму ў будучыні і вуліцу назвалі Гарнавых".

### *Суп для палонных і паненкі ў капялюшыках*

Не паспелі гродзенцы звыкнуць да першых саветаў, як у 1941 годзе ў горад увайшлі немцы. Ніна Снічыч кажа, што ў першую чаргу пацярпелі сем'і савецкіх афіцэраў, палонныя і яўрэі.

"У дзень вайны я думала, што гром моцны з маланкай удалечыні. Былі водбліскі вялікія, здавалася вось-вось пойдзе дождж. У выніку пачалі бамбіць горад каля 8 раніцы. Два дні мы хаваліся ў рове каля Каложы. Першых немцаў убачыла ў двары на Замкавай".

Калі прыйшлі немцы, многія рускія трапілі ў палон. Іх калонамі гналі ў горад. "Памятаю, на Фолюшы быў Шталаг № 324*. Мы туды хадзілі і насілі палонным што-небудзь, той жа кавалачак хлеба.

* Скарочаная назва ад Stammlager (ням.) – асноўны лагер. Лагер для ваеннапалонных.

Таксама памятаю, што з матуляй варылі суп і насілі палонным у казарму на Маставой”. Немцы дазволілі мясцовым жыхарам прыносіць ежу для палонных. Людзі прыходзілі і здавалі яе, а немцы правяралі, каб там не было нічога лішняга, напрыклад, металу. Калі палонныя з’ядалі тое, што ім прынеслі, яны ў пустым посудзе перадавалі запіскі з адрасамі блізкіх. Так іх сем’ям маглі паведаміць, дзе іх трымаюць. “Мы захоўвалі гэтыя запіскі, а пасля спалілі, бо пачаліся ператрусы”.



*Ніна Снічыч (справа) з сяброўкамі, 1943 г.*

“Пакутавалі ў горадзе і яўрэі, немцы сагналі іх у гета. Мы не сустракаліся з імі ў горадзе, яны ўсе былі за дротам. Шкада было іх, але мы не маглі іх вызваліць і нават дапамагчы як-небудзь. Хтосьці спрабаваў хаваць яўрэяў, але ўсё роўна немцы многіх знаходзілі і расстрэльвалі”.

“З прыходам немцаў гродзенцы сталі зноў прыгожа апранацца. Да 1939 года ў Гродне ўсе так хадзілі, але як прыйшлі рускія, сталі насіць хусткі на галаве, каб здавацца бяднейшымі. У 1941 годзе, пры немцах, модныя паненкі ў капялюшыках вярнуліся на вуліцы горада”.

### *Гароднiна немца карміла ўсю сям’ю*

Амаль усю акупацыю Ніна працавала ў Гродне на нямецкага фермера, у іншых з яе сям’і не было працы. На адных картках на ежу выжываць было цяжка.

“Я і іншыя мясцовыя дзяўчаты працавалі ў парніках у Каложскім парку. Уладальнік быў немец Рык, а аграномам у яго быў нейкі чэх. Летам там чалавек пад 80 працавала, а зімой – 10. Кантора была на сучаснай вуліцы 17 верасня. У гэтым доме № 14 ён і жыў. Калі



*Браты Ніны Іван і Міхаіл Апонікі, 1940-я гг.*

па нас прыходзіла позва на выезд у Германію, мы ішлі да чэха, а ён ужо да немцаў і дамаўляўся”.

За працу на агародах плацілі грошы. Колькі дзён – столькі марак. Зарплату давалі ў запячатаным канверце. Калі партызаны недзе падрывалі цягнік, з заробку вылічвалі. У акупацыю Ніна практычна адна карміла сваю сям’ю.

Ніне даводзілася красці ў немца гародніну. Яна набірала капусту і буракі ў фартух, а потым закопвала ў яму каля Каложы і выкопвала, калі ішла дадому. «Цыбулі нанасіла дадому столькі, што мама прадавала яе і туфлі мне потым замовіла. Красці не баяліся, немец не ведаў. Але быў адзін агароднік, які вазамі вывозіў. Яго злавілі, і ён атрымаў сур’ёзна. Немцу ён паскардзіўся, што дзяўчаты таксама выносяць гародніну ў фартухах. Дык Рык яму ў адказ: “Фартух гэта не нейкая фурманка”. Нас гэты немец называў “старыя паненкі”, мы ў яго пастаянна працавалі. А таго мужыка збіў у нас на вачах».



*Ніна Снічыч, 2018 г.*

### *На вайне страціла двух братоў*

“Было цяжка, але ў нямецкай акупацыі мы выжылі. Нас вызвалілі ў ліпені 1944 года. Братоў адразу ж забралі на фронт. Малодшы сапёрам быў, у студзені 1945 загінуў пад Варшавай. А старэйшага прывезлі з ранамі ў Гродна, тут ён і памёр. Там, дзе зараз аграрны ўніверсітэт, на Акадэмічнай, пасля вызвалення быў ваенны шпіталь. Часта параненыя гінулі, іх хавалі ў парку, дзе цяпер атракцыёны”.

Пасля вайны Ніна пайшла на працу ў Ваенгандаль, дзе і прапрацавала швачкай да самай пенсіі.

# «МЫ ЎЯЎЛЕННЯ НЕ МЕЛІ, ШТО НАС ПРЫЙДУЦЬ ВЫЗВАЛЯЦЬ»

## (Рышард Занеўскі)

*Рышард Іванавіч Занеўскі нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Малышчына, цяпер гэта Гродна. Каталік. У час Другой сусветнай вайны страціў бацьку і дом. Усё жыццё жыве ў Гродне.*

“Нас было чацвёра: бацька, маці, старэйшы брат і я. Да пачатку Другой сусветнай бацька на сваім кані працаваў на цагляным заводзе ў Гродне, падвозіў цэглу на прадпрыемства. Тэхнікі раней не было, і ўсё падвозілі коньмі. Бацька зарабляў нармальна, мы жылі нядрэнна. Маці займалася гаспадаркай і агародам. У нядзелю ўсе разам хадзілі ў Фарны касцёл”.

### *Бацька сышоў на вайну з Германіяй, а ў Гродна ўвайшлі саветы*

У верасні 1939 года жыццё ў Занеўскіх змянілася: за некалькі дзён да пачатку вайны карміцеля забралі ў польскую армію.

“Ён дастаў сваю форму, у якой служыў у маладосці, узяў каня і пайшоў. Яго залічылі ў кавалерыю. Як сышоў, так і не вярнуўся. Знаёмыя казалі, што бачылі яго, як ён перапраўляўся са сваімі таварышамі праз Віслу. Казалі, там ён патануў. Праўда ці не, я не ведаю”. Маці Рышарда падавала ў вышукі, але не атрымала ніякага адказу, хоць чакала да апошняга.

“Калі бацька сышоў абараняць Польшчу, у Гродна ўвайшлі саветы. Нас вызваляць прыйшлі, так яны кажуць. Але мы жылі і да іх добра, мы нават уяўлення не мелі, што нас прыйдуць вызваляць.



*Бацька Рышарда Ян Занеўскі ў час службы ў польскім войску, 1920-я гг.*
*Без вестак знік у 1939 г.*



*Рышард Занеўскі падчас першай камуніі ў Фарным касцёле, 1941 г.*



*Рышард Занеўскі са сваёй маці ў пасляваенныя гады*

Яны прыйшлі і глупства тут праяўлялі – вельмі негатыўна ставіліся да багатых людзей. А якое тут багацце? Калі ў чалавека была пара коней і дзве каровы, ён лічыцца кулаком. За гэта яго маглі вывезці ў Сібір або забраць усё, што ён меў".

### *Суседзяў расстрэльвалі і вывозілі*

"Па суседстве ў нас жыў радавы польскі паліцэйскі па прозвішчы Кох. Добры мужык і нікому ніякай шкоды не рабіў, у палітыку не ўмешваўся. Прыйшлі камуністы і яго да сценкі – расстралялі. Але за што? Ён жа быў звычайным працаўніком".

Вельмі шмат каго з суседзяў павезлі ў Расію, і яны не вярнуліся. "Сям'я Мацкавяк у Падкрыжаках мела маёнтак. Іх раскулачылі і павезлі. Менавіта таму было не вельмі добрае ўражанне ад савецкай улады ў жыхароў Гродна і ваколіц. Нашу ж сям'ю не чапалі, у нас не было так званых багаццяў".



*Дэпартацыя гродзенскіх яўрэяў у гета, 1941 г.*

## *Мянялі ў яўрэяў золата на хлеб*

Не паспелі камуністы асвоіцца ў Гродне, як горад у чэрвені 1941 года занялі немцы. Паводле ўспамінаў Рышарда Занеўскага, у іх таксама былі свае парадкі.

“Мы працягвалі жыць у сваім доме ў Малышчыне. Да канца 1930-х старэйшы брат хадзіў у [былую] школу Каралевы Ядвігі*, а я быў дома і дапамагаў маці з гаспадаркай. Да 1944 года жылі нармальна: быў свой агарод, парсючка трымалі. А потым усё прапала”.

“Немцы спачатку нармальна паводзіліся, не было такога дзікунства, як паказваюць у фільмах. Адзінае, што я памятаю дрэннае, дык гэта як да яўрэяў ставіліся на вуліцах. А нашы людзі дапамагалі вязням у гета – хадзілі і мянялі хлеб на розныя рэчы, у тым ліку і на залатыя”.

## *Немцы спалілі дом*

Пры адступленні ў ліпені 1944 года немцы сыходзілі і падпальвалі будынкі. Так яны спалілі хутар, дзе жылі Занеўскія, – пяць дамоў.

«У нас усё згарэла, а ў час баявых дзеянняў хаваліся мы ў склепе. У адзін з дзён нехта грукае ў дзверы і кажа: “Хозяин, хозяин выходи. Не бойтесь, русские пришли!”. Так мы чарговы раз сустрэлі савецкіх

* Сучасны будынак аднаго з карпусоў аграрнага ўніверсітэта на Валковіча, 1.



*Рышард Занеўскі, 2018 г.*

салдат. Куды ісці мы не ведалі, у выніку маці павезла нас да свайго брата ў вёску Зялёную за Багушоўкай, а пасля пайшла ў горад шукаць нам новае жыллё. Знайшла на вуліцы Грандзіцкай, там у нашых суседзяў былі знаёмыя, і яны параілі туды звярнуцца».

### *Пасяліліся ў яўрэйскай кватэры*

Пасяліліся Занеўскія ў доме № 9 на вуліцы Грандзіцкай. Там жыла яўрэйка. У час нямецкай акупацыі яна не патрапіла ў гета, але аднойчы яе знайшлі мёртвай – казалі, што яна павесілася.

«У доме былі два свабодныя пакоі, і мы там пасяліліся. Раней там жыла яўрэйка, прозвішча ўжо не ўспомню. Яшчэ да нашага прыходу многія рэчы гэтай жанчыны разабралі мясцовыя, але калі мы прыйшлі, нешта яшчэ было. Так мы і засталіся жыць у гэтым доме.

Былі ў нас суседзі Яблонскія. З іх дачкой я вучыўся ў школе. Іх дом нацыяналізавалі саветы, і я думаў, яны пасля з’ехалі ў Польшчу, а выявілася, засталіся ў Гродне. Песняка памятаю, які жыў каля бальніцы. Скончылася вайна, і праз некалькі гадоў мы атрымалі новую кватэру ў горадзе».

# «МЫ, БЕЛАРУСЫ, НІКОЛІ ТАК НЕ ЖЫЛІ, ЯК ТЫЯ, ХТО ДА НАС ПРЫХОДЗІЎ»

## (Тамара Кежкоўская)

*Тамара Васільеўна Кежкоўская (Баран) нарадзілася ў 1933 годзе ў Гродне на тагачаснай вуліцы Беластоцкай. Праваслаўная. Усё жыццё жыве ў Гродне.*

«У маёй сям'і ўсе беларусы. Бацька гродзенскі, а маці з вёскі Алекшыцы Бераставіцкага раёна. Бацька ў 1930-я гады выконваў розныя працы на падзаробках, тады беларусам не асабліва і давалі працу. А мама прыслужвала ў начальніка чыгуначнай станцыі Гродна, часам хадзіла да яўрэяў працаваць. За палякамі былі ў горадзе праблемы з пастаяннай працай, таму складана жылося. Нягледзячы на цяжкасці з працаўладкаваннем, бацькі збіралі грошы на дом і на зямлю, але не паспелі купіць – пачалася вайна ў 1939 годзе».

***За саветамі пайшла ў першы клас***

Жыццё за польскім часам Тамара Кежкоўская практычна не памятае. Толькі эпізодамі 1939 год, калі яе сям'я жыла на Маставой, у тым месцы, дзе цяпер стаіць помнік-танк.

"Калі ў Гродна ўвайшлі першыя саветы, мы жылі на Маставой, там здымалі кватэру. Прыступкі нашага дома выходзілі акурат на бернардзінскі касцёл. Мама за саветамі працавала дыктарам на занёманскім фанерным заводзе. Якраз за саветамі я пайшла ў першы клас, у школу на Дамініканскай".



*Тамара Кежкоўская (справа), 1940-я гг.*

## *У пошуках жылля*

У 1941 годзе вайна СССР з Германіяй для сям'і Тамары стала нечаканасцю.

"Мы не ведалі, што будзе вайна. Ноччу ўсталі і думалі, што гром і маланка. І мама тады думала: ісці ёй у гэты дзень на працу ці не. Потым на горад наляцелі самалёты і пачалі бамбіць. Снарады падалі на цэнтр горада і на казармы над Нёманам, а адтуль выбягалі салдаты ў кальсонах. І тады бацька сказаў нам, што пачалася вайна і трэба хутка сыходзіць. З цэнтра горада мы сталі прабірацца на ўскраіну да сваякоў, якія жылі паблізу Пярэселкі. Беглі не берагам Нёмана, а праз вуліцу Віленскую".

Раніцай, калі налёты сціхлі, маці Тамары прыйшла паглядзець, што з домам, дзе яны жылі. Там было папялішча, а суседзі, якія засталіся ў доме, загінулі. З рэчаў сям'і нічога не засталося, усё згарэла.

"Адзін час жылі ў татавага брата, потым маміна стрыечная сястра запрасіла да сябе на Красінскага*. Жылі там, пакуль немцы не далі нам новае жытло. На Будзённага была вольная двухпавярховая камяніца. Яна знаходзілася недалёка ад старой электрастанцыі**. Нам

* Сучасная вуліца Бялінскага.

** Першая гродзенская электрастанцыя знаходзілася на сучаснай вуліцы Будзённага. Пачала працу ў 1912 г. Была зруйнаваная ў 2009 г.



*Іспанскія добраахвотнікі са складу 250-й пяхотнай дывізіі вермахта праходзяць па мосце праз Нёман у Гродне, 1941 г.*

далі памяшканне на паддашшы. Жылі там я з братам і бацькі. Там былі нейкія рэчы, шафа і стол”.

Сям’я пажыла ў гэтым доме зусім нядоўга, немцы пажадалі самі там жыць і загадалі выселіцца ў трохпакаёвую кватэру на Пясочнай, 11*. Тады ў горадзе было шмат пустых кватэр, людзі ўцякалі з горада, а кагосьці забралі ў гета.

“Я бачыла, як у Гродне немцы сталі адразу зневажаць яўрэяў. Спачатку забаранілі ім хадзіць па ходніках, толькі па бруку і з зоркай. Потым гета стварылі і калючым дротам абгарадзілі. Аднойчы праходзіла каля аўтавакзала і бачыла, як немцы павесілі двух людзей каля другога гета. Павесілі на арках праз тое, што палезлі разбіраць рэчы яўрэяў, пасля таго як іх вывезлі”.

---

* Сучасная вуліца Паўлоўскага.

### *Іспанцы кармілі хлебам*

За немцамі бацька Тамары працаваў маляром, а маці была памочніцай кухаркі на абутковай фабрыцы.

«Маці працавала на кухні, і добрая немка-загадчыца дапамагала. Неяк яна спытала пра дзяцей, і мама сказала, што ў яе двое. То жанчына параіла маме браць з сабой посуд для ежы. Казала: “Ты пакуль прыйдзеш дадому, прыгатуеш, дзеці галодныя застануцца”. Мама з работы пастаянна прыносіла ў кацялку нейкую ежу. Нават, памятаю, былі і сушаныя яблыкі. Варылі потым кампот. Былі квашаныя буракі і іншае. Мы за немцамі яшчэ нядрэнна жылі, яшчэ і сваякам дапамагалі. Не галадалі, цукру, вядома, не бачылі, але жыць было можна.

На сучаснай вуліцы Тэльмана была крамка “Рудольф”. Там прадавалі маслянку – вадзіца ад узбітага масла і перагоннае малако. У гэтую краму пастаянна чэргі былі. Маці ж атрымлівала гэтыя прадукты на фабрыцы, без чаргі. Адзін тыдзень вядро маслянкі брала, а другі малака. За грошы ўсё гэта. Нам падабалася маслянка – вельмі смачная была, там нават яшчэ трапляліся маленькія крапінкі масла».

Хлеб давалі за карткі. Тамара памятае, што крамаў для мясцовых у асноўным не было, таму даводзілася мяняцца прадуктамі са сваякамі і суседзямі.

“А яшчэ мы малыя бегалі і прасілі хлеб у іспанцаў*, яны ў Гродне стаялі там, дзе зараз штаб арміі. Мы прыбяжым пад плот і па-свойму просім, кажам, што есці няма чаго, а яны нам хлеб выносілі. Да немцаў баяліся падыходзіць, яны стаялі ў іншым месцы”.

### *У доме начавалі ўласаўцы*

У час нямецкай акупацыі вучыцца было нельга. Тамара часта хадзіла з бацькамі ў Свята-Пакроўскі сабор на Ажэшкі, там таемна вывучала Закон Божы.

“Тады ў саборы былі святары Уладзімір і Генадзь. Мой бацька быў вернікам – чытаў Біблію і Евангеллі. Таму ён мяне за саветамі не адправіў ні ў піянеры, ні ў камсамол”.

---

* 250-я дывізія іспанскіх добраахвотнікаў, вядомая таксама як “Блакітная дывізія”, змагалася на боку Германіі ў Другой сусветнай вайне. Яе шлях ляжаў у тым ліку праз Гродна.

У 1944 годзе, калі рускія гналі немцаў, яны масава адступалі праз горад. Разам з імі ішлі ўласаўцы*. У двары, дзе жыла сям'я Тамары, яны паставілі фурманкі і начавалі ў кватэрах мясцовых, пасля сышлі. Неўзабаве ў горад увайшлі савецкія часткі.

### *Жылі побач з Мураўёвым*

Пасля вызвалення Гродна сям'я працягвала жыць на Пясочнай, мяняліся ў іх толькі суседзі. Тамара Кежкоўская памятае, што ў іх доме жыў той самы Мураўёў, чый знакаміты дом сёння стаіць на Савецкай плошчы.

"Мы працягвалі жыць на Пясочнай, і праз некаторы час да нас у дом пасяліліся вядомыя ў горадзе людзі – Мураўёў і адвакат Шыфаловіч. Казалі, што гэта быў той самы Мураўёў, які валодаў домам у цэнтры горада. Ён быў такі высокі, чорны, але пажылы і не гарбаты. Хадзіў у капелюшы, было ў яго зімовае і восеньскае паліто. Прыгожы мужчына, жыў ён адзін і не меў зносін з намі. Іншы сусед, Шыфаловіч, быў невысокім і тоўстым, таксама з інтэлігентаў. У яго жонка была маленькая, працавала настаўніцай замежнай мовы. Да яе часта жанчыны прыходзілі. З ёй я трохі мела дачыненні. Гэтыя суседзі адрозніваліся ад нас усіх у двары, былі сапраўднымі інтэлігентамі. У канцы 1940-х памёр Мураўёў, праз некаторы час Шыфаловіч і яго жонка. У Мураўёва ніхто тады не пытаў пра вялікі дом у цэнтры Гродна, проста ведалі, што гэта ён яго пабудаваў".

### *"Мы ніколі так не жылі, як тыя, хто да нас прыходзіў"*

Тамара Кежкоўская пражыла ўсё жыццё ў Гродне і кажа, што лепшага жыцця, чым у незалежнай Беларусі, у яе ніколі не было.

"Савецкая ўлада, як і іншая любая, у першыя пасляваенныя гады стала наводзіць парадкі ў горадзе. Усіх падазроных гродзенцаў арыштоўвалі, а пасля вывозілі.

Неяк пасля вайны мы з братам апынуліся каля Савецкай плошчы, а там шмат народу сабралася. Не маглі праціснуцца. Аказваецца, там вешалі людзей. Рускія вешалі паліцаяў ці кагосьці яшчэ там. Памятаю, чалавек стаяў у кузаве машыны з пятлёй, а калі яна ад'ехала – ён павіс. Страшнае відовішча.

---

* Чальцы Рускай вызваленчай арміі, якія ваявалі на боку Трэцяга рэйха супраць СССР.



*Тамара Кежкоўская, 2019 г.*

Арыштоўвалі таксама настаўнікаў, пісараў і іншых. Проста за любую сувязь з палякамі або немцамі. Нават калі ў калгас не ішоў, маглі гвалтоўна вывезці. Мы жылі недалёка ад турмы. Памятаю, як некалькі разоў Пясочнай вялі вялікую калону людзей: наперадзе ішлі жанчыны, далей мужчыны. Перад імі салдат са стрэльбай, а па баках ахоўнікі з сабакамі. Вялі гэтых людзей на перон, пасля грузілі ў таварныя вагоны і вывозілі. Страшнае відовішча, вельмі баялася.

Ведаеце, я жыла ў сваім Гродне пры паляках, пры першых і другіх саветах, пры немцах і пры беларусах. У сваёй незалежнай Беларусі мне жывецца лепш за ўсё. Пры іншай уладзе, мы – беларусы – ніколі так не жылі, як тыя, хто да нас прыходзіў. Любая ўлада, якая была ў Гродне, заўсёды прыгнятала нас”.

# «ХТО ХОЧА БЫЦЬ ПАЛЯКАМ, ТОЙ УСЮДЫ ІМ БУДЗЕ». ПРА ТОЕ, ЯК ПЕРАЖЫЛІ ВАЙНУ

## (Зоф'я Закшэўская)

*Зоф'я Казіміраўна Закшэўская (Друціс) нарадзілася ў 1936 годзе на вуліцы Нёманскай. Каталічка. Усё жыццё жыве ў Гродне.*

Зоф'я Закшэўская памятае гродзенскіх яўрэяў і іх шлях на смерць, а таксама шмат іншага пра тое Гродна, якое ўжо знікла назаўсёды.

### *Тата быў фурманам і спяваў у хоры*

Бацька Зоф'і ў Першую сусветную застаўся сіратой, яго і іншых дзяцей выхоўвала яе цётка. Цётчын муж быў на працы ў ЗША. Пасля заробкаў у іх было тры дамы, у адным з якіх потым жыла сям'я Зоф'і. У міжваенны час бацька Зоф'і працаваў даражкарам*, сёння б гэтую прафесію назвалі таксістам. У быў яго конь і дарожка** з гумовымі коламі. Таксама ён спяваў у хоры, і дзеці часта хадзілі ў Фарны касцёл да яго на службу.

Маці Зоф'і не працавала, даглядала дома дзяцей, якіх было пяцёра. Часам яна хадзіла палоць агароды ў сучасны Каложскі парк. Адна частка агародаў належала яўрэю Калману, другая – Архірэйскаму падворку.

“У цэлым жыццё да вайны было добрае, да нас нават з вёскі Пярэселка малочніца (дзяўчына, якая носіць свежае малако) праз дзень прыходзіла і прыносіла па тры літры малака”.

---

* Ад dorożkarz (польск.) – возчык, павознік, рамізнік, фурман.

** Брычка, экіпаж.



*Будаўніцтва моста праз Нёман, 1920-я гг.*
*Фота з архіва сям'і Закшэўскіх*

***Засталіся без зямлі***

Да 1939 года сям'я Друцісаў доўга збірала грошы на новы дом і нават паспела купіць участак зямлі на вуліцы Жвіркі*, але ажыццявіць планы не ўдалося – пачалася Другая сусветная вайна, памянялася ўлада.

"Бацькі нават камяні на палях збіралі для будаўніцтва. Пачалася вайна, прыйшлі саветы і зямлю забралі. Сказалі – дах над галавой маеце, другі дом вам не патрэбны. Вось так мы і пазбавіліся сваёй зямлі".

***"Суседзі, гэта бальшавікі ідуць"***

Як у Гродна прыйшлі саветы, Зоф'я не памятае, пра 1939 год ёй распавядалі суседзі і бацькі.

«У верасні 1939 года ў горадзе стала шумна, мама спытала ў суседзяў, што гэта адбываецца. Адзін мужчына ёй у адказ: "Суседка, гэта бальшавікі ідуць на нас". Калі прыйшлі першыя саветы, у бацькі забралі каня. Людзі баяліся штосьці казаць ці абурацца, бо многіх вывозілі, як у нас казалі, "на белыя мядзведзі"**».

* Сучасная вуліца Чкалава.
** Высылка ў глыб Расіі ці ў Казахстан.

“Былі ў нас суседзі на вуліцы: Чугай, Кулагіны, Лапышы, Строцкія і Пентка. Апошніх вывезлі з канцамі праз тое, што ў іх зяць быў паліцыянтам. Людзі плакалі і крычалі. Гэта я памятаю. Камуністы імкнуліся вывозіць людзей у асноўным ноччу, але нашу сям’ю яны не кранулі. Адкуль у іх была такая агрэсія, мы не ведалі. Першыя саветы прыехалі да нас, як звяры. Яны сябе лічылі героямі, а нас бюракратамі і мільянерамі. Так, у нас у горадзе людзі на месцы не сядзелі і працавалі, пры гэтым мелі домікі і зямлю. Але яны самі ўсё зарабілі, не кралі, а як прыйшлі саветы – адразу ж сталі ворагамі народа”.

«Адзін з такіх савецкіх “герояў” спрабаваў заляцацца да маёй сястры, нават перад мамай на калені падаў, каб яна аддала дачку за яго. Ён абяцаў, што браць шлюб будзе ў касцёле, нягледзячы на тое што заўзяты камуніст. Праз некаторы час гэтага салдата перавялі ў іншае месца, і ён увесь час пісаў лісты сястры. Мама ведала рускую і перакладала іх.

Прайшло трохі часу, і гэты рускі ўжо пісаў, што яго ланцугамі ў касцёл не зацягнеш. Мама тады сястры сказала: “Глядзі, які халера, казаў, што кахае і ўсё зробіць дзеля цябе, а цяпер яго ланцугамі ў касцёл не зацягнеш”».

З новай уладай бацька Зоф’і перастаў быць таксістам і пайшоў працаваць на цагляны завод, які якраз быў недалёка ад іх дома. Зоф’я памятае, як яны насілі яму абед і бачылі, як коні круцілі гліну.

### *“Halt donnerwetter!”*

Зоф’я распавядае, што калі ў чэрвені 1941 года пачалося бамбаванне Гродна, некаторыя жыхары вуліцы Нёманскай сабраліся і пачалі капаць вялікую траншэю, абклалі яе дошкамі і зрабілі схованку. Там у час налётаў авіяцыі хавалася па дваццаць чалавек.

«Перыяд вайны я добра памятаю. Недалёка ад нашага дома, а менавіта ў школе на Базыльянскай*, у немцаў была жандармерыя, і яны часта любілі пахаджваць уверх Базыльянскай у парк, пасля Рыбацкай і на Нёманскую. Кола такое рабілі.

З вуліцы Жвіркі да Нёманскай быў бульвар пусты, і неяк там у лапухах мы з дзецьмі гулялі ў хованкі. І якраз ідуць два п’яныя мужчыны, спявалі рускую песню, а насустрач ім немцы і крычаць:

* Сучасная вуліца Лермантава.

“Halt donnerwetter!”*. Мужчыны спыніліся, але адзін з іх працягваў спяваць, і тады немец дастаў пісталет і стрэльнуў яму ў галаву, другога пашкадаваў. Забітаму павесілі паперку да кашулі, каб тры дні яго ніхто не прыбіраў.

Мы – дзеці – усё гэта бачылі. Да такой ступені быў перапуд, што бацькі адпявалі мяне, абмалівалі, абпальвалі рознымі зёлкамі, каб супакоіць. Я тады на любы гук і шоргат рэагавала, крычала. Словы немца “Halt donnerwetter!” я на ўсё жыццё запомніла. Ужо неяк пасля вайны, калі мы ехалі ў Польшчу ў цягніку, я сустрэла немца і спыталася ў яго, што азначае “donnerwetter”, але ён сказаў, што такія словы не перакладаюцца. Гэта мат».

### *У вайну і вароны былі смачныя*

Пры немцах бацька Зоф’і працаваў конюхам. Аднойчы ён прынёс дадому палову мяшка забітых крумкачоў.

“Падчас акупацыі цяжка было ўсім. Неяк тата катаў немцаў у горадзе. У парку яны спыніліся і стралялі па крумкачах. Бацьку сказалі іх забраць. Было холадна і голадна, ён іх павёз дадому. Мама скубала гэтых крумкачоў, парыла і смажыла іх нам. Гэта быў добры кавалак мяса ў той час”.

Таксама пры немцах гараджане хадзілі ў вёску на абмен. Ручнікі, абрусы, прыгожае адзенне мянялі на масла або кавалак сала. Пад канец вайны сям’я Зоф’і трымала сваіх парсючкоў. Калі б немцы пра гэта даведаліся, маглі сур’ёзна пакараць.

### *Польская партызанка і беларускае таварыства*

Сястра Зоф’і падчас вайны выйшла замуж, каб не ехаць у Нямеччыну на прымусовыя працы. Ёй было ўсяго 17 гадоў, а мужу – на 11 больш. Ён быў польскім сяржантам з Чарны Беластоцкай і заляцаўся да маладой гродзенкі. Да шлюбу ён часта прыязджаў у Гродна роварам, за 47 км ад дома.

“У 1939 годзе, калі разбілі польскую армію, хлопец сястры Эдзік прыйшоў да нас, як той уцякач. Зняў з сябе вайсковае адзенне і апрануў цывільнае – нашага бацькі. Пасля сеў на ровар і паехаў да сябе дадому. Праз некаторы час, пры немцах, ён вярнуўся ў Гродна, уладкаваўся ў дэпо слесарам.

* Прыблізна “Стой, халера!” (ням.).



*Вязні гродзенскага гета, 1941 г.*

Ажаніліся сястра з Эдзікам у 1942 годзе. Праз год у іх нарадзілася дзіця, а на Вялікдзень ён сказаў, што яму тэрмінова трэба сыходзіць, а за жонкай і дзіцяткам прыедзе яго брат. Ён загадаў сястры сабраць усе рэчы, нават кветкі, і паказаць, што яны насамрэч пераязджаюць. Усё так і было, прыехаў яго брат і забраў сястру з дзіцём. Праз тры тыдні пасля іх ад'езду маму выклікаюць у паліцыю. Выяўляецца, Эдзік быў у польскай партызанцы. Немцы пыталі ў мамы, дзе дачка, а яна і не ведала нічога. Яе моцна пабілі ў жандармерыі, але адпусцілі".

Зоф'я ўспамінае, што некаторых суседзяў вывозілі на працы ў Нямеччыну, а некаторых заклікалі ў беларускае войска, створанае немцамі.

«Шмат каго з суседзяў немец забраў у войска. Яны ў Гродне стварылі беларускае таварыства* і заклікалі туды маладых хлопцаў.

* Беларускі нацыянальны камітэт, пасля – Беларускае аб'яднанне, нацыянальна-асветніцкая арганізацыя, якая дзейнічала на тэрыторыі былога Беластоцкага ваяводства падчас нямецкай акупацыі 1941–1944 гг.




*Першая камунія Зоф'і (у першым шэрагу другая злева), 1945 г.*




*Плошча Баторыя. У цэнтры – Гарнізонны касцёл (Фара Вітаўта), 1930-я гг.*

Памятаю, што пайшлі туды Лёнька Юргулевіч і абодва Шыпавалавы. Пасля вайны яны вярнуліся дадому, а саветы іх адразу на 10 гадоў адправілі. Маладыя хлопцы – і такі тэрмін. Наш дзядуля таксама хацеў туды ісці, прыйшоў дадому і кажа маме: "Ты ведаеш, трэба пайсці ў беларускае таварыства запісацца". А мама яму: "Вы здурэлі на старыя гады, хочаце беларусам стаць?". Так ён і не пайшоў».

### *У час вайны спрабавалі дапамагаць яўрэям*

Тое, што немцы здзекаваліся з яўрэяў, жыхары горада выдатна ведалі і імкнуліся па магчымасці дапамагаць тым, хто апынуўся за калючым дротам. Да вайны многія з іх былі сябрамі, знаёмымі, калегамі ці суседзямі будучых вязняў гета.

"Падчас акупацыі да нас прыходзіла яўрэйка дадому, шыла адзенне. Дзе яна жыла, ніхто не ведаў, але яна сябе яўрэйкай не называла. Мабыць, баялася. Усе разумелі, што людзі трапілі ў цяжкае становішча і зараблялі, як маглі".

Гета ў Гродне было два. Тое, што знаходзілася ў цэнтры, Зоф'я Закшэўская бачыла сама. Было вельмі страшна. Людзі хадзілі туды, мянялі ежу на розныя рэчы. Зоф'я памятае, як немцы неяк злавілі двух мужчын і павесілі іх на базары на Віленскай. Гэта было свайго роду папярэджанне, каб ніхто не меў спраў з яўрэямі.



*Зоф’я Закшэўская, 2019 г.*

Людзі ў Гродне ведалі, што ў хуткім часе гета будуць ліквідаваць і пачнуць вывозіць яўрэяў, хтосьці з іх нават прасіў аб дапамозе.

“Мая бабуля да вайны прала ў аднаго яўрэйскага доктара на сучаснай вуліцы Васілька. Ён там працаваў і жыў. У яго была дзяўчынка майго ўзросту, клікалі яе Малка. І я часта ў іх дома была, гуляла з гэтай дзяўчынкай. Калі яўрэяў сагналі ў гета, гэты доктар папрасіў нас, каб мы забралі яго дачку. Падчас ліквідацыі гета, калі вязняў вялі плошчай Баторыя* ў кірунку моста, доктар штурхнуў дачку да нас. Тады на плошчы была мама, я і малодшая сястра. Мы гэтую Малку ўзялі і пачалі сыходзіць, а яна ўбачыла, што яе бацька ўжо далёка сышоў, і пачала крычаць. Сарвалася і пабегла да яго. Мы не змаглі нічым ёй дапамагчы, хоць і хацелі. Мы гатовы былі забраць Малку, я была такая ж кучаравая, як і яна. Што стала з імі, я не ведаю”.

* Сучасная Савецкая плошча.

### *Водгулле гета*

У час нямецкай акупацыі дзядзька мужа Зоф’і Закшэўскай працаваў электрыкам. Аднойчы яго адправілі ў гета – здымаць паказанні лічыльнікаў. Паход у гета стаў для яго сямейнай трагедыяй.

«Ён прыйшоў туды, а адзін стары яўрэй не даваў яму здымаць паказанні. Дзядзька яму кажа: “Ты, жыдоўская морда, зараз прыйдзе немец і нас абодвух расстраляе за гэты лічыльнік. Навошта ён табе?”. Што там было далей, я не ведаю, і невядома, чаму яўрэй не даваў яму здымаць паказанні. Але пасля вайны ўнук гэтага яўрэя застаўся жывы і, выявілася, чуў, як старэйшыя лаяліся ў гета. Пайшоў ды заявіў саветам, што дзядзька супрацоўнічаў з немцамі, і яго пасадзілі на 10 гадоў. Вызвалілі пасля смерці Сталіна, далі чыстыя дакументы. Ён вярнуўся ў Гродна з кійком, памятаю, быў травень на двары. А ў жніўні яго сына забіваюць на тым жа месцы, дзе ў яго ўзнікла спрэчка з яўрэем. Хто забіў і як гэта было – ніхто не ведае. Магчыма, гэта было водгулле гета – помслівыя яўрэі».

### *На былыя нямецкія землі не паехалі*

Адразу па заканчэнні вайны Друцісы сабраліся з’язджаць у Польшчу як рэпатрыянты*. Тады многія гродзенцы карысталіся гэтым шанцам.

«Другія саветы, як і першыя, лічылі нас, мясцовых, за нікога. Раскулачвалі, забіралі зямлю, саджалі. Усё што хацелі, то і рабілі. Прыходзілася ўжывацца з імі ці з’язджаць. Пасля вайны мы вырашылі ехаць у Польшчу, як і многія іншыя. Збілі скрыні, купілі карову і былі гатовыя да доўгай паездкі. Але калі нам сказалі, што паселішча будзе на былых нямецкіх землях, маці сказала, што нікуды не паедзе. Сказала бацьку разбіваць скрыні.

Яна казала, што ёй хапіла падчас вайны, што ў сваім родным горадзе пацярпела ад немцаў. Баялася, што на сваіх землях яны наогул дзяцей ёй павыразаюць. Так мы і засталіся ў родным горадзе. Маці казала заўсёды нам: “Хто хоча быць палякам, той усюды будзе палякам”».

---

* Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны Савецкі Саюз даў магчымасць тым, хто лічыў сябе палякамі, але застаўся на новых падуладных яму тэрыторыях, з’ехаць у Польшчу ў межах рэпатрыяцыі (ад patria (лац.) – радзіма) – “вярнуцца на Радзіму”. Польшча забяспечвала рэпатрыянтаў жытлом і працай. Рэпатрыяцыя праходзіла ў 1944–1946 і 1955–1959 гг.

# НЕМЦЫ ВЫВЕЗЛІ З ВЁСКІ І ДАЛІ ПРАЦУ Ў ГРОДНЕ

## (Вера Пянькоўская)

*Вера Макараўна Пянькоўская (Самойла) нарадзілася ў 1927 годзе ў вёсцы Бандары каля Скідзеля. Праваслаўная. Улетку ў 1942 годзе немцы яе з бацькам прывезлі на працу ў Гродна, дзе яна і засталася жыць пасля вайны.*

Вера Пянькоўская нарадзілася ў праваслаўнай беларускай вёсцы Бандары. У яе дома размаўлялі на беларускай мове, а вучылі ў школе да вайны на польскай. У 1941 годзе, калі прыйшлі немцы, яны выдалі ўказ, паводле якога малазямельных сялян з вёсак Гродзенскай акругі пастунова вывозілі ў горад.

"Нас вывезлі ўлетку 1942 года. З нашай вёскі шэсць сем'яў паехала ў Гродна на працы. Маці з малымі дзецьмі паехала да бабулі, хаваліся там. А я з бацькам, як старэйшая дачка, паехала ў горад. У вясковым доме забілі вокны і дзверы, каб туды ніхто не забраўся. Пасадзілі нас на павозку і праз Азёры, уздоўж чыгункі, везлі ў Гродна. Мне тады было 15 гадоў, і я ўпершыню бачыла паравозы, так цікава было, але адначасова і страшна. Мы ж у вёсцы жылі бедна, у нас нават святла не было, і нікуды не выязджалі, нічога не бачылі. Да 1939 года я скончыла няпоўныя чатыры класы ў школе".

### *У немца не скрадзеш*

У Гродне Веру з бацькам пасялілі на сучасным праспекце Касманаўтаў, недалёка ад рынку.

"Там да нас было яўрэйскае гета. Калі яўрэяў вывезлі, вырашылі туды вясковых загнаць з розных куткоў. Калі мы прыехалі, то пер-




*Від на Стары замак, 1940-я гг.*

шы час там яшчэ быў плот ад гэтага гета, але потым яго прыбралі. Мы пасяліліся на другім паверсе цаглянага будынка, у пакоі яшчэ стаялі спарахнелыя ложкі. Пакоі ў асноўным былі пустымі. Бацьку немцы адразу накіравалі працаваць на кафляны завод недалёка ад Азёрскай шашы, а мяне пасля накіравалі скубаць гусей, якіх адбіралі ў мясцовага насельніцтва. Іх трымалі на спецыяльнай тэрыторыі, там апрацоўвалі, а пасля нам давалі. Цяжкая была праца. Увесну мяне прыцягвалі на агароды ў Каложскім парку. Былі там парнікі.

Немцы ставіліся вельмі строга, нават агурочка не паспрабуеш. З гародаў ніхто нічога вынесці не мог. Добра сачылі. А ахоўвалі агароды не самі немцы, а гаспадары-фермеры. Ды і салдат у час акупацыі ў горадзе я не назірала, была паліцыя і грамадзянскія. За працу нам давалі грошы ў запячатаным канверце, а таксама карткі на хлеб. Сваё я аддавала бацьку, ён ужо ішоў у краму і вырашаў, што купляць. Тады ў спецыяльных крамах за грошы можна было купіць некаторыя рэчы і прадукты. Плацілі мала, так што пра ласункі або якія-небудзь цацкі я нават і не марыла”.



*Вуліца Замкавая, 1943 г.*

### *Немцы звезлі людзей у хлеў і падпалілі*

У цэнтр горада Вера старалася не хадзіць, асабліва пасля працы. У любы момант маладую дзяўчыну маглі затрымаць і вывезці ў Нямеччыну.

У горадзе была каменданцкая гадзіна, нельга было позна вечарам з'яўляцца на вуліцы. Людзі адпачывалі толькі ў сваім паселішчы. Моладзь ладзіла танцы ў доме, у якой-небудзь з кватэр. Вера туды не хадзіла, было мала гадоў, ды і бацька не дазваляў.

«Неяк я вырашыла з'ездзіць дадому да маці і бабулі. Немцы не дазвалялі, але мне вельмі хацелася, і мяне правезлі партызанскімі сцежкамі да родных. Я прыехала, а там немцы якраз у вёсцы забіралі адну сям'ю. Пасадзілі іх на машыну, і жанчына ў канцы ўстала і сказала: "Бывайце ўсе, бывай белы свет". Іх завезлі ў другую вёску, звезлі туды яшчэ іншых людзей і загналі ўсіх у хлеў. Потым яго падпалілі. Так было, я гэта добра памятаю. Чаму з імі так абышліся, я нават і не ведаю».



*Вера Пянькоўская, 2019 г.*

### ***Пасля вайны засталася ў Гродне***

Калі Гродна пачалі бамбіць ў ліпені 1944 года, Вера з бацькам хаваліся ў падвалах на Парахавой, куды беглі ўсе з іх дома.

"Немцы сышлі і прыйшлі нашы. Бацька адразу ж сабраўся і з'ехаў у вёску. Забраў маму з малымі дзецьмі і вярнуліся ў сямейны дом. Я ж прыняла рашэнне застацца ў Гродне. Была адна і першы час бадзялася па кватэрах знаёмых. Пасля вызвалення мне было яшчэ 17 гадоў, і я ўладкавалася на працу на чыгунку. Даводзілася начаваць і ў вагонах, а пасля ў мяне з'явілася сваё жытло. Я засталася ў Гродне і жыву ў гэтым горадзе да сёння".

# ЯК ЖЫЛОСЯ НА ЛЕВЫМ БЕРАЗЕ НЁМАНА Ў 1930–40-Я ГАДЫ

## (Яніна Андрукевіч)

*Яніна Стэфанаўна Андрукевіч (Вікет) нарадзілася ў 1929 годзе ў Гродне на вуліцы Уланскай[*]. Каталічка. Усё жыццё жыве ў родным горадзе.*

### *Дапамагаў айцец Фардон*

Яніна Андрукевіч нарадзілася ў доме ля францішканскага касцёла. Гэты дом належаў польскай сям'і, якая здавала там кватэры. Вікеты здымалі вялікі пакой. Уладальнікамі дома былі старыя людзі, у іх не было дзяцей, і перад смерцю яны адпісалі свой дом касцёлу.

«Тады ў касцёле быў настаяцель айцец Фардон[**]. Пакуль ён жыў, то маці плаціла яму. А ў бацькі не заўсёды была праца, і таму з грашыма ў сям'і было складана. Часам мама хадзіла да Фардона і прасіла заплаціць пазней. Ён заўсёды згаджаўся, але калі памёр у 1927 годзе, прызначылі новага настаяцеля. Зноў паўстала цяжкая сітуацыя з грашыма, маці пайшла прасіць у ксяндза, а ён сказаў: "Няма чым плаціць, тады шукайце сабе іншую кватэру". Прыйшлося пераехаць».

---

[*] Сучасная вуліца Новакастрычніцкая.

[**] Юзаф Фардон (1862–1927) – манах-францішканін (манаскае імя – Мельхіёр), кіраўнік кляштараў францішканаў у Гродне і Вільні, паплечнік св. Максімільяна Кольбэ. Большая частка жыцця айца Фардона была звязана з Гродна. Лічыцца, што ў 1915 г. ён выратаваў ад расстрэлу групу гродзенскіх пажарных, якіх немцы палічылі рускімі шпіёнамі. Айцец Фардон паручыўся за іх сваім жыццём і іх адпусцілі. Айца Фардона ў Гродне яшчэ ў час жыцця лічылі святым. Працэс прызнання яго заслуг касцёлам пачаўся ў 1997 г. і цягнецца дагэтуль.



*Яніна з бацькамі, 1930-я гг.*

## *Паміж Гроднам і Гнойніцай*

З Уланскай сям'я Вікетаў пераехала ў 1933 годзе. Спачатку здымалі кватэру на левым беразе Нёмана, пасля пасялілася ў загарадным доме паміж Гроднам і вёскай Гнойніца*.

Калі сям'я пераехала, Яніне было чатыры гады. Яшчэ да яе нараджэння ў бацькоў былі два сыны. Старэйшы трагічна загінуў адразу пасля Першай сусветнай вайны, зваліўшыся з моста на іх вуліцы. Другі захварэў, і яго не выратавалі. Яніна засталася ў бацькоў адна.

"У пачатку 1930-х гадоў паміж Гроднам і вёскай Гнойніца на вялікім кавалку зямлі польскі капітан Шаля будаваў сабе дом. Пабудова была прыгожая, там былі два пакоі, вялікая кухня, калідор і веранда. Пабудаваць-та пабудаваў, але пра ваду не падумаў. А там нідзе блізка яе не было. Ён пачаў капаць студню і больш за дваццаць колаў выкапаў, але да вады так і не дайшоў. Без вады там немагчыма было жыць. У выніку ён пакінуў гэты дом і з'ехаў кудысьці пад

* Сучасны раён Гродна Вішнявец.



*Яніна Андрукевіч, 1930-я гг.*

Варшаву. Пабудова пуставала, а ў мамы сястра была, і яна туды пераехала. Пасля яна маме казала, што дом вялікі і месца ўсім хопіць, і прапанавала нам пераехаць. Дзесьці ў 1935 годзе туды мы і пераехалі".

У Гнойніцы жылі адны палякі. У першы клас Яніна пайшла ў школу № 3, яе яшчэ называлі бернардзінская, бо месцілася каля касцёла. Там вучыліся толькі дзяўчынкі. Хлопчыкі вучыліся побач, у школе імя Адама Міцкевіча, каля самага Нёмана. У гэтай школе Яніна паспела скончыць чатыры класы.

### *"Не купляй у жыда"*

Мама Яніны ў міжваенны час не працавала, тады для жанчын працы амаль не было. Яна была хатняй гаспадыняй. Бацька таксама пэўны час быў без сталай працы і падпрацоўваў рознарабочым. У 1920-х гадах працаваў на бровары за чыгуначным мостам, пасля былі сезонныя працы – сартаваў камяні для кладкі на дарогах, клаў брук, зімой прадаваў елкі.

«На тым боку моста, дзе мы жылі, называлася месца – прадмесце, а на другім боку ўжо быў горад. На прадмесці быў свой базар. Людзі з вёсак прыносілі хатнія прадукты на продаж. Там былі і крамы, хадзіла туды з маці. У асноўным яўрэі гандлявалі, была і мясная польская крама. Некаторыя палякі ў горадзе не любілі яўрэяў. Былі ў нас пагромы. Памятаю, на Чырвонапартызанскай быў такі Савошчык, кульгаў на нагу. Так ён заўсёды ўдзельнічаў у пагромах. Пісалі на крамах: "Не купляй у жыда". А перад Вялікаднем польскім дзецям казалі, каб не падыходзілі блізка да яўрэяў, бо яны могуць забраць кроў на мацу. Усяго хапала».

Але Вікеты з яўрэямі сябравалі. Маці Яніны дапамагала некаторым з іх рабіць фаршаваную рыбу, і яны нечым дапамагалі ў адказ. На тым беразе Нёмана была вялікая сінагога, якая згарэла у час вайны.



*Бацька Яніны (другі злева) з калегамі падчас збору камянёў, 1930-я гг.*

### *“Калі добра быў апрануты, яны лічылі кулаком”*

У 1939 годзе сям’я Яніны савецкую ўладу ў Гродне не чакала, але і яе прыходу не супраціўлялася. Нягледзячы на змену ўлады, яны працягвалі неяк жыць.

“У верасні 1939 года некаторыя праваслаўныя ў горадзе былі рады, што рускія прыйшлі. А так насельніцтва было незадаволена прыходам саветаў. Ніякага вызвалення не было. Яны прыйшлі і пачалі мясцовых расстрэльваць і людзей забіраць. Гродзенцы баяліся нават на вуліцу выходзіць. Калі добра быў апрануты, яны лічылі кулаком.

Калі ішлі саветы на Гродна, я была ў Гнойніцы. Яны праходзілі недалёка ад нас, Індурскай шашой. Былі машыны і танкі. Моладзь і студэнты ў горадзе сустракалі танкі з бутэлькамі з запальнай сумессю. Яны былі супраць рускіх, бо мы іх не чакалі”.

Восенню Яніна пайшла ў школу і не ведала, як будзе вучыцца. Першы год вучыліся яшчэ на польскай мове, а ў 1940 годзе заняткі ўжо сталі весці па-руску, прыслалі настаўніцу з Расіі.

“У гэтым жа годзе да нас у школу сталі прыводзіць і хлопчыкаў. Першым такім вучнем, які прыйшоў у наш клас, быў Зыгмунт Левандовіч. Яго сям’я жыла побач з бернардзінскім касцёлам. Леван-



*Працоўныя нямецкай фабрыкі па пашыве адзення ў Гродне, 1943 г.*

довічаў у Гродне ўсе ведалі. Памятаю іх дом, а ў падвале яны рабілі труны і пасля прадавалі іх у краме каля Фарнага касцёла. Калі са школы ішлі, то заўсёды зазіралі ў акенца іх падвала і бачылі, як яны там працавалі. Але гэта было пры паляках".

Агулам, як успамінае Яніна, пры першых саветах жылося цяжка. Не заўсёды быў хлеб, але неяк выжывалі. Яе бацька калоў дровы, шукаў падпрацоўкі, на зімовыя святы нарыхтоўваў елкі – ездзіў у лес і сек, потым прадаваў іх у горадзе.

### *Пакуль хаваліся ў зямлянцы, дом згарэў*

Маці не магла штодзень вадзіць Яніну ў школу за паўтара кіламетра, і сям'я вырашыла перасяліцца ў вялікі дом на Збажовай. Жылі ў пpасторным пакоі, дзяўчынцы там падабалася. Побач была крама яўрэя, дзе можна было шмат чаго купіць. Нешта бралі на картку. У гэтым доме яны і сустрэлі вайну з немцамі.

"У чэрвені 1941 года, за дзень да прыходу немцаў, я атруцілася. Маці пабегла да суседа, у якога была аптэка, звалі яго Троп Крыньскі. Купіла там нейкую кару і запарыла мне. Стала трохі лягчэй, я здолела заснуць. Ужо рана раніцай мяне абудзілі бацькі. Сказалі, што ляцяць самалёты, – напэўна, вайна. Калі выйшлі на двор, немцы ўжо пачалі бамбіць горад. Насупраць нашага дома былі вайсковыя казармы з чырвонай цэглы, там быў склад. Туды самалёты і скідалі

бомбы. Таксама немцы пачалі бамбіць і чыгуначны мост, а мы жылі якраз побач з ім.

Спачатку залезлі ў падвал і патроху пачалі зносіць туды рэчы, але пасля прынялі рашэнне сыходзіць далей ад моста, бо бомбы маглі ўпасці і на дом. Пайшлі ў бок Румлёва, там у лесе зрабілі сховішча – зямлянку. Сценкі месцамі абклалі дошкамі. Былі там некаторы час. Пасля бамбавання вярнуліся да дома, а ён згарэў. Ацалелі толькі рэчы, якія паспелі вынесці ў падвал і ў агарод".

Вікеты пачалі шукаць сабе новае жыллё і знайшлі дом у другой частцы горада, на вуліцы Парахавой, дзе жылі фольксдойчы*, якіх вывезлі ў Нямеччыну. Перасяліцца туды сям'і параіла суседка са Збажовай.

"Памятаю, што 1 лістапада выпала шмат снегу і якраз немцы вырашылі зрабіць гета каля нас**. Нам сказалі высяляцца і шукаць сабе новае жытло. А куды нам ісці? Параілі займаць яўрэйскае жыллё ў горадзе. Пару дзён жылі ў знаёмых і адначасова шукалі сабе дом. Праз некаторы час мы вярнуліся на наш бераг Нёмана, мама знайшла дом на Леванабярэжнай. Былымі гаспадарамі былі яўрэі, якіх немцы перасялілі ў гета".

### *Немцы плацілі за працу*

На Леванабярэжнай ад ранейшых уладальнікаў у доме засталася мэбля і некаторыя рэчы. Штосьці з гэтага і дасюль захоўваецца ў сям'і Яніны.

"Дома яны пакінулі прыгожыя шафы, але мы іх пасля вайны прадалі людзям з вёскі. Быў цяжкі час. А так жылі ў гэтым доме ўсю акупацыю, гаспадары так і не вярнуліся. Прозвішча ўладальнікаў мы нават не ведалі. Ад іх у мяне засталіся паўмісак, альбом для здымкаў, яшчэ нешта".

Яніна Андрукевіч расказвае, што калі яўрэяў вывезлі з гета на Замкавай, немцы дазволілі туды заходзіць. Яе маці хадзіла ў былое гета і прыносіла шмат рэчаў, у тым ліку кнігі.

"Цяжка было жыць. Маці хадзіла ў вёску па прадукты. Не дарогамі, а праз палеткі, каб нябачна было. А калі немцы заўважалі, то спынялі і забіралі ўсё. Мы з бацькам пры немцах працавалі каля

* Ад Volksdeutsche (ням.) – немцы, што жылі за межамі Германіі.

** Раён вуліц Антонава і Парахавой.



*Яніна Андрукевіч, 2018 г.*

Скідзельскага рынку на фабрыцы. Шылі там працоўнае адзенне. Бацька сядзеў на прахадной, а я за машынкай. Немцы плацілі за працу. Там я навучылася шыць на маторнай машынцы. Працавалі аж да вызвалення горада ў 1944 годзе".

### *Ратаваліся ў падвалах францішканскага касцёла*

Лічыцца, што савецкія войскі вызвалілі Гродна ад нямецкай акупацыі ў ліпені 1944 года. Але на левабярэжнай частцы горада немцы заставаліся яшчэ каля тыдня. Яніна кажа, што ў час вызваленчых баёў жыхары гэтай часткі Гродна вымушаныя былі хавацца ў падвалах і лясах.

"Калі немцы адыходзілі, мы сядзелі ў францішканскім касцёле. Там былі два вялікія падвалы, і ўсе людзі, якія жылі побач, ішлі хавацца менавіта туды. Перад тым, як падарваць мост, да нас прыйшоў нямецкі салдат і папярэдзіў, каб не палохаліся. Мы чулі, як яго ўзрывалі. Страшны гук быў, і падвал увесь дрыжаў. Некаторы час яшчэ працягваліся баі, а пасля савецкія войскі перабраліся і на наш бераг".

# «КАЛІ Б НАС НЕ ВЫВЕЗЛІ, МЫ Б ЗАГІНУЛІ Ў ГЕТА». ГІСТОРЫЯ ВЫРАТАВАННЯ

## (Ала Куксенка)

*Ала Мікалаеўна Куксенка (Карпусенка) нарадзілася ў 1940 годзе ў Гродне на вуліцы Віленскай. Іўдзейка. У першы дзень вайны ў 1941 годзе разам з маці яна здолела ўцячы з горада і не патрапіла ў гета. Пазней вярнулася ў Гродна, дзе і жыве да сённяшняга часу.*

***Карэнныя гродзенцы***

“Мая маці Мэра Бярковіч – карэнная гродзенская яўрэйка, а тата – беларус з Віцебшчыны, які прыехаў служыць у Гродна ў 1939 годзе, пасля прыходу савецкай арміі. У нашым горадзе яны пазнаёміліся, ажаніліся, і ў 1940 нарадзілася я”. З жыцця старога горада Ала нічога не памятае, але ведае яго са слоў маці.

Сям’я Бярковічаў некалькі пакаленняў жыла ў Гродне на вуліцы Віленскай, 9. Займалася гандлем, як і многія іншыя яўрэі ў горадзе.

“Да вайны Бярковічы ўвесь час жылі ў Гродне. Наша сям’я была рэлігійнай, асабліва дзядуля Абрам. Ён насіў вялікую бараду, і часта яго можна было ўбачыць у сінагозе. Ён быў два разы жанаты. Ад першага шлюбу ў яго было пяцёра дзяцей і ад другога два. Ці жылі яны ўсе разам, я не ведаю. Мая мама вучылася з палякамі ў школе, добра спявала і нідзе не працавала. Дапамагала дома ў гаспадарцы. Сям’я мела крамку. Гандлявалі гарэлкай і прадуктамі. Мама іншы раз разносіла па горадзе тавар, калі былі заказы. Жылося Бярковічам да 1939, напэўна, добра, нягледзячы на тое, што былі пагромы, якія чынілі мясцовыя палякі”.



*Бацькі Алы – Мэра Бярковіч і Мікалай Карпусенка. Гродна, 1940-я гг.*

### *Бацькі былі супраць шлюбу*

Калі ў 1939 годзе ў Гродна ўвайшлі часткі Чырвонай арміі, сям'я Бярковічаў нейтральна да гэтага паставілася. А калі савецкі афіцэраў прыйшоў да кіраўніка сямейства прасіць руку адной з дачок, той быў катэгарычна супраць.

"Мама казала, што яе бацька не хацеў, каб яна выходзіла замуж за беларуса. Ён быў рэлігійным чалавекам і хацеў прытрымлівацца традыцый – аддаць дачку толькі за яўрэя. Але, нягледзячы на забарону, мама ўсё ж выйшла за Мікалая. Тады ў горадзе было шмат падобных выпадкаў, асабліва калі прыгожыя яўрэйкі выходзілі за савецкіх афіцэраў. Бацька быў малодшым лейтэнантам. Праз нейкі час ён і дзядуля неяк пасябравалі, але, як выявілася пазней, і татавы бацькі былі супраць шлюбу. Пасля майго нараджэння мы паехалі знаёміцца да іх, але яны не хацелі нас прымаць".

### *Эвакуяваліся з Гродна толькі з адной паперкай*

Ала распавядае, што ў 1941 годзе яна з маці жыла ў дзядулі на Віленскай, 9, а бацька ў вайсковых лагерах вакол Гродна. Ён быў увесь час на вучэннях.

"Мы з мамай да яго часта прыходзілі, нам выпісалі спецыяльны пропуск. 21 чэрвеня мы засталіся з начлегам у яго казарме. Там вечарына ці свята было. А ноччу пачалася вайна. Бацьку ў 4 раніцы забралі, ён развітаўся з намі, і з тых часоў мы яго не бачылі. Нас з маці адразу пагрузілі ў машыну і павезлі. Так нас імгненна эвакуявалі з Гродна. Ніякіх дакументаў, акрамя пропуску да бацькі, ні адзення, у нас не было. Усё засталося дома".

У дарозе дзіця захварэла на запаленне лёгкіх. Маці Алы абмяняла залаты пярсцёнак на коўдру, каб ухутаць дачку. У выніку яны апынуліся ў Малдове.

«Маці прапанавалі мяне аддаць на выхаванне іншым людзям, яна не пагадзілася. Сказала: “Дзе буду я, там будзе і маё дзіця”. Пасля маме далі дазвол на выезд у Казахстан. Недалёка ад горада Алматы яна ўладкавалася на працу, а мяне аддала ў дзіцячы сад. З 1942 па 1945 год маці актыўна шукала тату. Пісала ва ўсе інстанцыі, але нідзе ніякіх дадзеных не было. Толькі ў 1945 годзе прыйшло паведамленне, што яе муж лічыцца зніклым без вестак.

У Казахстане мама пазнаёмілася з яўрэем, які таксама быў у эвакуацыі. Мы жылі разам, і мама зацяжарыла ад яго. Яна не хацела заставацца ў Казахстане і вырашыла вярнуцца ў роднае Гродна. Але каб вярнуцца дадому, нам трэба было атрымаць спецыяльны дазвол. Вярнуліся мы дадому толькі ў канцы 1945 года».

***“Гэта лёс, што вывезлі”***

Пасля вайны ў родным горадзе з вялікай сям’і Бярковічаў нікога не засталося – усе загінулі. Маладой цяжарнай жанчыне з дзіцём на руках давялося шукаць сабе часовае жыллё і працу.



*Перасяленне гродзенскіх яўрэяў у гета № 1, 1941 г.*



*Ала Куксенка з маці і братам Лёнем, пач. 1950-х гг.*

“Бацька загінуў, хутчэй за ўсё, у першыя дні вайны, ніякай інфармацыі ў нас не было. Бацькі мамы і ўсе астатнія сваякі таксама загінулі. Адну з мамчыных сясцёр да вайны называлі самай прыгожай яўрэйскай дзяўчынай Гродна, магчыма, праз гэта яе павесілі на балконе ў цэнтры горада. Паводле ўспамінаў тых, хто выжыў, перад пакараннем смерцю яна плюнула ў твар начальніку гета. Я не ведаю, як яе звалі, але хочацца верыць, што гэтая ганарлівая дзяўчына была мая цётка”.

Дакументаў на дом не засталося, пасля вайны там ужо жылі іншыя людзі.

“Калі б нас з мамай не вывезлі ў час вайны, мы б загінулі, як і іншыя мясцовыя яўрэі. Тым больш мы былі сям’ёй савецкага афіцэра, такіх у першую чаргу расстрэльвалі. Гэта лёс, што нас вывезлі. У Гродне ў жывых засталася толькі сястра бацькі Галя, яна таксама жыла ў нашым доме на Віленскай, але калі пачалася вайна, ёй удалося ўцячы і схавацца ў Грандзічах. Дапамаглі ёй палякі Азёрскія. Там яна была ўсю вайну і захавала фотаздымак мамы і таты. Гэта адзіны здымак бацькоў, які цудам застаўся”.



*Ала Куксенка, 2019 г.*

### *“Ад сваёй нацыі не адракуся”*

Ала ганарыцца, што ёй з маці наканавана было выжыць у першыя дні вайны, а пасля эвакуацыі вярнуцца ў роднае Гродна. Сёння жанчына з’яўляецца чальцом іўдзейскай абшчыны горада і з вялікай радасцю адраджае забытыя яўрэйскія традыцыі.

“На вялікі жаль, у Гродне ўжо няма тых людзей з яўрэйскімі каранямі, якія нарадзіліся да вайны. З вялікай абшчыны нікога не засталося. Сёння я смела кажу, што ганаруся тым, што з’яўляюся нашчадкам гродзенскіх яўрэяў, і сваёй нацыі ніколі не хавала, і ніколі ад яе не адракуся”.

# У 15 ГАДОЎ ПРЫЙШЛОСЯ РАЗГРУЖАЦЬ ВАГОНЫ З ФРОНТУ

## (Генавефа Андрэева)

*Генавефа Станіславаўна Андрэева (Казлавіцкая) нарадзілася ў 1928 годзе ў вёсцы Фінкова, каля Скідзеля. Каталічка. У Гродна пераехала з сям'ёй у 1939 годзе. У пасляваенныя гады з'ехала з мужам у Барысаў.*

"Самі мы не гродзенскія, але вельмі звязаныя з гэтым горадам. Да вайны жылі пад Скідзелем. Мой бацька быў удзельнікам Першай сусветнай, быў у нямецкім палоне. Калі вярнуўся дадому, стаў шукаць працу і сустрэў чалавека, якому патрэбны быў памочнік у лесе маёнтка Фінкова. За польскім часам усё было прыватнае.

Да 1930 года бацька працаваў у гэтым месцы на пана Сапегу, там і я нарадзілася. Нечакана пан вырашыў прадаць лес, і працы ў бацькі не стала. Яму прапанавалі ўладкавацца ў іншы маёнтак да адстаўнога маёра каля Абухава. Ён быў у польскіх легіянерах і ваяваў з бальшавікамі".

### *Саветы прыйшлі на гатовае*

Бацька Генавефы прапрацаваў у гэтага адстаўнога афіцэра да 1939 года. Адначасова ён будаваў дом на ўскраіне Гродна, у вёсцы Пярэселка.

"У верасні 1939 года на Гродна ішлі немцы і саветы, а ў пана было радыё, ён усё ведаў пра ваеннае становішча на той момант. Прыйшлося ўцякаць яму. Заставацца ў маёнтку мы таксама не маглі, а наша маці не хацела нікуды далёка ехаць, і сказала бацьку, каб вёз сям'ю ў недабудаваны дом у Гродне. Зямлю ў Пярэселцы бацька са сваім братам купіў яшчэ ў 1937 годзе ў адной жанчыны, якой



*На руінах вуліцы Мяшчанскай, 1944 г.*

патрэбныя былі грошы, таму і прадавала. Да прыходу саветаў мы паспелі замовіць зруб і скласці сценкі. Вядома, дом быў не гатовы да таго, каб у ім жыць, але ў нас не было выбару. У выніку пераехалі. З часам бацька дабудаваў дом”.

### *Пры саветах сталі вучыцца з яўрэямі*

У Гродне Генавефа пайшла вучыцца ва “ўсэмку” (школа № 8) на тагачаснай Базыльянскай. Спачатку навучанне было на польскай мове.

“У 1939 годзе я павінна была ісці ў пяты клас, а саветы пасадзілі мяне зноў у чацвёрты. А яны наогул прыйшлі ў Гродна на гатовае, ніякай вайны тут не было. Толькі польскія патрыёты – студэнты трохі ваявалі. У пачатак вайны рускія і немцы дамовіліся падзяліць Польшчу напалову: адным – усходняя частка, другім – заходняя. Вось і ўсё”.

Сям’ю Казлавіцкіх саветы не кранулі. Бацька Генавефы добра ведаў Расію, бо служыў там пры цары. Ён уладкаваўся грузчыкам на малаказаводзе.

“Калі мы прыехалі ў Гродна, у горадзе было шмат яўрэяў. Пры паляках яны не мелі ніякіх палітычных правоў і не вучыліся нават у польскіх школах. Жылі сабе сваім жыццём, свабодна, як і ўсе, вучыліся ў сваіх школах. Таксама ў іх былі свае крамы, якіх было шмат у горадзе, і сінагогі. А як прыйшлі саветы, я нават сядзела ў школе за партай з адной яўрэечкай, так усё змянілася. Дарэчы, і нямецкую нам выкладала яўрэйская настаўніца. Калі прыйшоў немец, то для яўрэяў ён стварыў два гета. Прыніжаў там іх, як мог. Прымушаў зоркі насіць і на працы ганяў строем. Усё было пад кантролем. Мы тады ў юным узросце не разумелі, чаму з імі так паступаюць”.

### *Пры немцах разгружала і чысціла вагоны*

Малодшы брат Генавефы памёр у час нямецкай акупацыі ад дыфтэрыі. Жанчына кажа, што маці недаглядзела – думала, яму проста баліць горла, а калі прыйшлі да доктара, было ўжо позна.

“Вайна з немцамі ў 1941 годзе пачалася летняй чэрвеньскай раніцай. Тады ўжо ў 4 раніцы было светла, а неба – чысцюткае. Памятаю, тата прыйшоў дадому і кажа маці, што ўдалечыні гром нейкі, але няма хмар. Так пачалася вайна. Недалёка ад нас у лесе стаялі савецкія войскі, і ў іх пачалася паніка, уцякалі яны як маглі, а хто не паспяваў – траплялі ў палон. Немец у Калбасіно трымаў іх і мучыў голадам”.

“Падчас акупацыі мы жылі спакойна і стараліся нікуды не ўлазіць. Але ў 1943 годзе, калі мне споўнілася 15 гадоў, прыйшла позва з магістрата. Сказалі з’явіцца да іх. Прыйшла, а там за кожным сталом сядзелі людзі. Падышла да аднаго стала, потым да другога, да трэцяга і гэтак далей. У выніку далі мне пашпарт, і я пайшла. Праз тры тыдні прыходзіць яшчэ адна позва, каб я ўжо з’явілася на працу на вуліцу Скідзельскую*”.

Генавефа пачала працаваць на фабрыцы, дзе на машынках шылі вопратку для рабочых. Дзяўчынку пасадзілі прышываць гузікі, але недзе праз тыдзень сказалі, што яна павольна працуе. Нямецкі афіцэр завёз яе і яшчэ некалькі дзяўчат на сучасную вуліцу Дзяржынскага, дзе былі казармы.

---

* Сучасны праспект Касманаўтаў.

"Перадаў нас іншаму афіцэру. А той сказаў разгружаць вагоны, якія прыехалі з фронту. А там былі коўдры, шынялі, адзенне і абутак забітых немцаў. Усё было запакавана. Выбару не было, разгружалі і чысцілі гэтыя вагоны. Пасля нас вялі на склад і казалі, што куды складваць. На гэтай працы я працавала да вызвалення ў ліпені 1944 года".

### *З польскай школы зрабілі рускую*

Пасля вызвалення Генавефа зноў пайшла вучыцца ў школу, толькі ўжо ў іншую, на сучаснай вуліцы Сацыялістычнай.

"Раней гэтая вуліца называлася Вітальдова, і там была польская школа. Многія палякі пасля вайны з'язджалі, а хто заставаўся, той ішоў вучыцца менавіта туды. Спачатку нам выкладалі заняткі на польскай мове, а потым сказалі, што палякаў у Гродне мала і трэба зрабіць з установы рускую школу. Так і адбылося".

Пасля школы Генавефа пайшла ў педінстытут, дзе вывучала англійскую мову. У 1950-х гадах яна выйшла замуж за савецкага афіцэра і паехала з ім у Нямеччыну, а пасля пераехала ў Барысаў, дзе і жыве сёння. "У роднае Гродна прыязджаю да сястры".



*Генавефа Андрэева, 2018 г.*

# ЯК У ГРОДЗЕНСКАЙ СЯМ'І ЗАБРАЛІ ДОМ НА МІЦКЕВІЧА

## (Данат Кур'яновіч)

*Данат Пятровіч Кур'яновіч нарадзіўся ў 1933 годзе ў Гродне на вуліцы Брыгіцкай*. Праваслаўны. Усё жыццё жыве ў Гродне. На Міцкевіча стаіць яго страчаны фамільны будынак.*

“Мой дзед – Андрэй Іванавіч Кур'яновіч – са сваімі дзецьмі прыехаў у Гродна з Самары ў пачатку XX стагоддзя. Разам з сынамі дзядуля займаўся рамонтам і афарбоўкай вышынных будынкаў – у асноўным касцёлаў і цэркваў. Маці была дачкой мясцовага чыноўніка – начальніка кантрольнай палаты горада. У Гродне бацькі і пазнаёміліся”.

Праз некалькі гадоў пасля прыезду сям'я бацькі Даната Кур'яновіча сабрала капітал і пабудавала дом на тагачаснай вуліцы Сувораўскай, якая сёння носіць назву Міцкевіча. Побач з домам была стайня з прыбудовай з дошак, запоўненай пілавіннем для ўцяплення. Там дзед Даната дажываў свае апошнія гады, а дом з кватэрамі здаваў людзям і з гэтага жыў. Яго дзеці са сваімі сем'ямі жылі ў іншых кватэрах у горадзе ці ў іншых краінах.

### *“Я вырас у гэтым сямейным доме”*

“Мы нікуды не з'ехалі з Гродна, бацька быў інвалідам. У маладосці, калі ён ішоў па горадзе, хтосьці кінуў у яго каменем. Была сур'ёзная траўма нагі, маглі ампутаваць, але нейкі польскі лекар нагу выратаваў. Праз гэтую траўму бацька не патрапіў у войска. Пайшоў працаваць у водаканал. Яго кантора была там, дзе цяпер водана-

* Сучасная вуліца Карла Маркса.

порныя вежы. Даслужыўся да інжынера, і гэта без адукацыі”.

У міжваенны час бацькі Даната жылі асобна ад яго дзеда, здымалі кватэру на вуліцы Брыгіцкай. Там ён і нарадзіўся. У хлопчыка была няня, якая таксама выконвала ролю прыслугі. Толькі ў сярэдзіне 1930-х гадоў яго сям’я пераехала ў дом на Міцкевіча.



*Сям’я Кур’яновічаў, 1920-я гг. Уласнік дома на Міцкевіча Андрэй Кур’яновіч (дзед Даната) другі злева*

“Заехалі ў сямейны дом толькі пасля смерці дзядулі. Трэба было даглядаць пабудову, там жа стайня побач была і агарод добры з пчоламі. У адной кватэры пасялілася Ганна Іванаўна – каханка дзеда, усе іншыя здавалі. Мы з бацькамі жылі наверсе, баяліся сяліцца на першым паверсе. У той час у горадзе было шмат жулікаў і злодзеяў, маглі і абрабаваць. Жылі на Міцкевіча добра, я вырас у гэтым сямейным доме”.

### *Камуністы не вывезлі праз бацькавы веды*

Да 1939 года сям’я Кур’яновічаў працягвала здаваць кватэры ў фамільным доме і зарабляць на гэтым. З прыходам савецкай улады жыццё змянілася.

“Наш сямейны дом нацыяналізавалі. З уласнікаў цэлага дома мы сталі звычайнымі жыхарамі, вымушаныя былі плаціць дзяржаве кожны месяц за арэнду сваёй жа кватэры. Вядома, і нас маглі вывезці камуністы, бо да іх прыходу мы валодалі вялікім домам, лічыліся кулакамі. Таму ў 1939 годзе сядзелі на звязаных вузельчыках, як той казаў”.



*Юны Данат у цэнтры Гродна са сваімі бацькамі. Вуліца Ажэшкі, 1930-я гг.*

Супрацоўнікі НКУС вывозілі з Гродна многіх людзей, але Кур'яновічаў не кранулі дзякуючы бацьку Даната. Праз працу на водаканале за польскім часам ён ведаў усе падземныя камунікацыі ў горадзе і быў патрэбны новай уладзе. Яго веды падземнага горада выратавалі сям'ю Даната, але ўсіх родных вывезлі ў Казахстан і іншыя далёкія месцы.

"Крыўдна было страціць цэлы дом, але пра гэта гучна казаць мы не маглі. Падобная сітуацыя была ў многіх. Напрыклад, уладальніцу суседняга дома пані Вайцяхоўскую наогул задушылі – шукалі золата. У яе муж быў мясніком, і яны добра зараблялі. У доме № 10, які насупраць, уладальнікаў ноччу вывезлі супрацоўнікі НКУС. Іх лёс невядомы".

### *У вайну хаваліся ў падвале*

У 1941 годзе немцы таксама не кранулі Кур'яновічаў. Веды бацькі Даната зноў спатрэбіліся чарговай уладзе, яму давялося працаваць на немцаў. У час акупацыі сям'я працягвала жыць на Міцкевіча.



*Закінуты дом сям'і Кур'яновічаў на вуліцы Міцкевіча, 2019 г.*

“Калі пачалася вайна з немцамі, мы хаваліся ў склепе нашага дома. Вельмі добры падвал быў. Адзін час выбілі там дзірку ў падполлі і хавалі мужчын. Яны там сядзелі, баяліся, што іх расстраляюць. З пачаткам вайны самалёты бамбілі горад. Патрапілі і ў наш дом. Пацярпела спальня, там абрынулася столь, і сцяна ў кухні пацярпела. Калі б былі дома, то загінулі б, але выжылі ў склепе. На нашай вуліцы немцы падчас налёту разбамбілі драўляны дом, там загінула цэлая сям’я”.

### *Спрабаваў вярнуць дом*

За савецкім часам у доме Кур’яновічаў жыло шмат іншых сем’яў, нават у падвале была кватэра. Данат Кур’яновіч, апошні спадчыннік, працягваў жыць у сямейным доме з бацькамі і ў савецкія гады. Вырашыў сысці толькі ў 1975 годзе, пакінуўшы ў двухпакаёвай кватэры былую жонку. Спачатку здымаў кватэру на Будзённага, а пасля пабудаваў уласную на Болдзіна.



*Від на вуліцу 17 верасня і Міцкевіча, 1944 г.*



*Данат Кур’яновіч, 2019 г.*

“Пра дом не забываў. Ужо ў сталым узросце я хацеў вярнуць яго, бо забралі без аніякай прычыны. Звяртаўся ў КДБ і іншыя органы, а мне – у нас няма такога закона, каб вам аддаць сямейны дом.

А чаму няма закона? Бо ў Беларусі многія ўладальнікі кінулі сямейныя дамы і вымушаныя былі бегчы, або наогул іх саджалі ў турмы. А калі б сталі аддаваць, пачалася б сапраўдная паніка. Многія вярнуліся б з Польшчы, каб забраць свае законныя ўладанні. Мабыць, з гэтай прычыны няма ў нас такога закону.

У выніку я нічога не дамогся і кінуў гэтую справу. Казалі мне, што толькі дзеці дзеда могуць вярнуць дом, а потым ужо загаварылі, што і любы нашчадак можа лічыцца спадчыннікам. Але я домам больш не займаўся, і хто там жыў – нават і не ведаў”.

# МАСАВЫЯ РАССТРЭЛЫ ПРАХОДЗІЛІ І ПАСЛЯ ВАЙНЫ

## (Аліцыя Марыя Кізюкевіч)

*Аліцыя Марыя Пятроўна Кізюкевіч нарадзілася ў 1934 годзе ў вёсцы Пярэселка (сёння ў межах Гродна). Каталічка. Усё жыццё пражыла ў Гродне.*

"Мы былі звычайнай вясковай сям'ёй, бацькі працавалі на зямлі. Нягледзячы на гэта, я была выхаваная і заўсёды добра апранутая. Летам тата працаваў на сваёй гаспадарцы, а зімой хадзіў на ачыстку горада. Ездзіў з іншымі мужыкамі на конях і вывозіў гной на палі. Нават у горадзе людзі трымалі гаспадарку. Калі быў добры гной, то везлі да сябе".

Таксама бацька Аліцыі Марыі зімой працаваў на нарыхтоўцы лёду для піўзавода і малочнага завода. Кавалкі лёду выразалі не толькі з Нёмана, але і з іншых вадаёмаў. Тады вада была чыстая, і гэтым карысталіся. Маці была з



*Бацькі Аліцыі, 1930-я гг.*



*Аліцыя Марыя з бацькам ідзе па вуліцы Ажэшкі, 1930-я г.*

роду Лаўрушкевічаў, не працавала ў горадзе, даглядала гаспадарку і Аліцыю з братам.

«Да прыходу бальшавікоў, я памятаю, мы з маці часта хадзілі ў горад. Там мне куплялі прысмакі ў рэстаране "Раяль" і ў турэцкай* кавярні на скрыжаванні вуліцы Віленскай і Ажэшкі. Памятаю, там прадавалі халву і бузу**. У цэнтры Гродна хапала крамаў і кавярняў».

### *Пярэселка і Вусікі*

Сучасныя гродзенцы дагэтуль карыстаюцца назвамі Пярэселка (раён горада) і Вусікі (пляж на Нёмане).

«Яшчэ бабуля ў дзяцінстве мне распавяла цікавую гісторыю, чаму нашу вёску назвалі Пярэселка. Раней было невялікае паселішча на беразе Нёмана. Жылі, можна сказаць, там адной сям'ёй, і было ў іх адно прозвішча. Але калі пану спатрэбіліся землі для палявання і іншых спраў, ён перасяліў гэтых людзей далей ад свайго маёнтка. Менавіта таму назвалі вёску Пярэселка, бо перасяленцамі былі тыя людзі з лесу. Вёскі цяпер ужо няма, а там, дзе было раней паселішча, захаваліся могілкі. Яны знаходзяцца недалёка ад пляжу Вусікі. Усе звыклі гэта месца так называць, і мы ў дзяцінстве таксама так называлі. А такая назва замацавалася, бо там жыў ляснік па прозвішчы Вусік. І ў дзяцінстве, калі ў нас пыталіся, куды пойдзем, то мы казалі: "Да Вусіка"».

### *Як яўрэі зараблялі ў Пярэселцы*

У міжваенны час бацькам Аліцыі не заўсёды трэба было ісці ў цэнтр Гродна па пакупкі. Часта гандляры і майстры самі прыходзілі да іх у вёску. У асноўным гэта былі яўрэі.

Кожную нядзелю ў Пярэселку прыязджаў яўрэй Каган і прывозіў марозіва. Адзін шарык каштаваў 5 грошаў. Не ўсе бацькі маглі дазволіць купіць яго дзецям, але Каган гатовы быў браць аплату яйкамі.

---

* Кавярня месцілася там, дзе цяпер ЗАГС Ленінскага раёна г. Гродна. Яна называлася "Стамбул", гараджане таксама называлі яе "ў турка". Уласнік, меркавана, быў з Азербайджана.

** Напой, асаблівы від квасу з рознай мукі, быў папулярны ў Гродне ў пачатку XX ст. Лічыцца, што буза паходзіць з кухні цюркскіх народаў.



*Аліцыя Марыя Кізюкевіч, 1930-я гг.*

«Прыходзіла і пані Рэйза, прыносіла цэлы кошык булак, давала ўсім знаёмым дзецям. Яна ведала, хто дзе жыве і дзе забіраць грошы. Неяк прыйшла яна да нас дадому і маёй бабулі кажа: "Ведаеце, усе мне кажуць: "Рэйза, дай булку". А вашы дзеці – "пані Рэйза". Нас з дзяцінства вучылі павазе да дарослых.

Заходзіў у вёску яшчэ адзін яўрэй, называлі яго Куратнік. Хадзіў ён з вялікім кошыкам і купляў курэй, асабліва шукаў маладых пеўнікаў. Мая бабуля з ім лаялася і казала: "Што ты думаеш, я прадам табе пеўніка? Не, лепш у мяне яго дзеці з'ядуць".

Хадзіў яшчэ шавец. Неяк мая бабуля дала яму ў рамонт чаравікі, а ён доўга іх не аддаваў. Тады яна пайшла да яго ў майстэрню, каб забраць іх, але яўрэй не паспеў адрамантаваць – не было матэрыялу. Бабуля пачала з ім лаяцца, што ён так доўга трымае чаравікі. У выніку шавец пайшоў на сметнік шукаць матэрыял, а бабулю зачыніў у майстэрні. Доўга яна там праседзела, але вярнулася дадому з абуткам».

## *Пры першых саветах спалі ў вопратцы і рыхтавалі сухары*

У верасні 1939 года ў Пярэселцы ведалі, што прыйдуць камуністы. Чуткі даходзілі хутка. Некаторыя маладыя хлопцы з вёскі пайшлі на абарону горада.

"Адважныя ішлі абараняць Гродна, у асноўным гэта была моладзь. Патрыётамі былі, вось і абаранялі сваю Радзіму. Рускія казалі, што яны ідуць нас вызваляць, але ў нашай сям'і ведалі, што гэта ніякае не вызваленне. Мая мама ў дзень прыходу саветаў апынулася ў цэнтры Гродна. Купляла нам чаравікі, накупіла столькі, што хапіла да канца вайны. Калі яны рабіліся маленькімі, яна абразала іх, галоўнае каб мы не хадзілі босыя па вуліцы".

«Бальшавікоў мы называлі карычневай чумой. Яны прыйшлі і пачалі вывозіць мясцовых жыхароў, было гэта ў лютым 1940 года. Вывозілі на поўнач Расіі, у Казахстан і, як мы казалі, "на белыя мядзведзі". Іх баяліся, і ніхто не ведаў, каго будуць вывозіць наступным. Нам прыходзілася нават спаць у адзенні, таксама мы загадзя рыхтавалі сухары і рэчы. Усё гэта стаяла ў куце ля ўваходу. Рускія давалі толькі 30 хвілін на ўсе зборы і адразу ж вывозілі. Нас маглі вывезці таксама, бо ў сям'і было 17 гектараў зямлі. А калі было шмат зямлі, значыць быў багатым – кулаком. Бедныя, хто нічога не рабіў, наадварот, былі ў пашане ў новай улады. Вывезці яны нас не паспелі, неўзабаве пачалася вайна з немцамі».

У цэлым пры першых саветах было цяжка, але неяк жылі. Кожны дзень бацька, маці і бабуля Аліцыі хадзілі і стаялі ў чэргах у краму. «Падояць кароў раніцай і ідуць. У калейках стаялі па цукар, соль, запалкі, газу і тканіну. Памятаю, цукар быў у выглядзе блакітнай "галавы", і бацька яе біў сякерай. Потым кавалачкі гэтага цукру дадавалі ў чай».

Рускія патрабавалі ад кожнай сям'і ў вёсцы дзяржпастаўкі. Прыходзіў салдат са зброяй, стаяў і чакаў нормы збожжа, яек і тлушчаў: масла, малака.

### *Толькі крэсла на памяць пра добрых знаёмых*

Нямецкую акупацыю гродзенка памятае добра. Яе сям'я ў пачатку вайны дапамагала знаёмым яўрэям пераязджаць у гета.

Побач з бальніцай, якая была каля яўрэйскіх могілак, жыла сям'я Аляксандравых, яўрэі. Да іх бабуля Аліцыі насіла малако з Пярэселкі. У іх была прыгожая дачка – бландзінка. Калі немцы сталі ствараць гета, бацька і бабуля Аліцыі прасілі ў Аляксандравых, каб далі магчымасць схаваць іх дачку. Але дзяўчына адмовілася і сказала, што паедзе з бацькамі.

«Мой тата на павозцы перавозіў Аляксандравых у гета, яны ўзялі з сабой, што маглі. Астатняе прасілі нас забраць. Гэтая яўрэйская сям'я была багатая, і яны так казалі: "Будзем жыць, то аддасце нам потым, а калі не, то пакінеце сабе". Бацька нічога не ўзяў, акрамя крэсла на трох нагах. Яно стаяла заўсёды ў бабулі, як напамін пра нашых добрых знаёмых. У выніку нейкія рэчы забралі іх суседзі Райкіны. Аляксандравы так і не вярнуліся дадому.

Некаторыя яўрэі з гета ўцякалі і хаваліся на ўскраіне горада або ў лясах. Яшчэ ў першы год вайны, неяк пад ранак аднаго дня бацька знайшоў у прыбіральні яўрэя. Той прасіў, каб яму дапамаглі схавацца, прапаноўваў шмат золата. Бацька не пагадзіўся, баяўся за сям'ю. За сувязь з яўрэямі немец на месцы ўсіх расстрэльваў. Бацька разумеў праблему і паабяцаў уцекачу, што нікому не будзе распавядаць, што яго бачыў, і ў выніку накіраваў яго ў лес, у бок Літвы. Далёка сысці мужчыну не ўдалося, знайшоўся чалавек, які гатовы быў схаваць яго за ўзнагароджанне. Схаваў і адразу здаў немцам».

### *Знаёмыя з гета і шлях у касцёл*

У Гродне мясцовыя жыхары немцаў баяліся, але неяк стараліся жыць і выходзіць у горад. У час акупацыі Аліцыя з маці кожную нядзелю хадзіла ў касцёл.

"Іншы раз страшна было на вуліцы. Выпадкаў хапала, што немцы расстрэльвалі людзей. Не толькі за сувязь з яўрэямі, але і за парушэнне нейкіх правілаў. Была ў нас адна жанчына, у яе здарылася пасляродавая дэпрэсія. Яна неяк пайшла ў касцёл праз Віленскую і патрапіла ў гета. Немцы яе забралі, яна там разнерва-



*Першая камунія Аліцыі Марыі, 1940-я гг.*

валася, пачала крычаць, і яны яе забілі. Зрабілі нейкі ўкол, а пасля далі сваякам пахаваць".

У касцёлы горада хадзілі маліцца не толькі мясцовыя, але і немцы. Імша для іх праходзіла ў іншы час, раней, чым для гродзенцаў. «Неяк мы з маці прыйшлі, калі ў касцёле маліліся немцы. І адзін выходзіць да нас насустрач. Мы хацелі адразу сысці, а ён сказаў: "Не, не трэба. Ідзіце ў кут і ціха стойце"».

«Да вайны ў касцёл мы хадзілі па Жвіркі і Вігуры*, далей Завяршчызнай**, там лесвіцай з выбітымі прыступкамі, далей выходзілі ў горад. У час нямецкай акупацыі гэтым маршрутам прайсці было ўжо немагчыма. Немцы стварылі гета, і нам трэба было абыходзіць яго і ісці праз Віленскую. Памятаю, мы неяк ішлі, а гета было абкружана дротам, і многія яўрэі стаялі і глядзелі, хто са знаёмых ідзе вуліцай. Памятаю, была ўжо зіма, перад самым Раством, мы з бабуляй ішлі ў касцёл, і ля плота гета стаяла знаёмая яўрэйка, пані Цыва, якая да вайны працавала краўчыхай. І яна крычала нам гучна: "Пані Маня, скажыце, хай прыйдзе пан Петрук". Я бабці сказала, што яе пазнала краўчыха. Але да плота падыходзіць было нельга, таму мы толькі памахалі ёй і пайшлі далей. Цыва неяк сыходзіла з гета і прыходзіла да нас па ежу або шыць. Аднойчы яна была ў нашай хаце, і патруль якраз зайшоў, але не знайшлі яе».

Немцы баяліся хворых у доме: калі яны заходзілі з праверкай і бачылі, што чалавек ляжыць і выглядае як хворы, то адразу ж сыходзілі.

---

* Сучасная вуліца Асіпенкі.

** Раён горада паміж ракой Гараднічанкай і сучаснымі вуліцамі Лермантава і Цаглянай.

### *Як хадзілі ў заапарк*

У час акупацыі бацька Аліцыі працаваў на млыне каля заапарка. Дзяўчынка разам з маці часта насіла яму на працу абед. Аднойчы яна ўбачыла першых немцаў і яўрэяў, якіх прымусілі насіць жоўтыя зоркі. На зваротным шляху яны з маці зайшлі ў заапарк.

“Як сёння ўсё памятаю, было там так брудна. Жывёлы выглядалі галоднымі і худымі. Адзін зубр быў адразу ля ўвахода, з правага боку, яшчэ побач былі ваўкі і лісы. На тэрыторыі заапарка быў тэрарыум, бачыла там вужоў. Але больш за ўсё мне запомніліся малпы. Мы ім кідалі цукар ці цукеркі, ужо не магу ўспомніць. Адна старая малпа, з маленькай на руках, злавіла нашы прысмакі. Жывёлы нам потым нібы дзякавалі. Мама казала, што старая малпа кланялася нам за прысмакі і паказвала, што ёй трэба карміць дзіця. Было так кранальна, гэтыя моманты я запомніла на ўсё жыццё. Як выявілася пазней, некаторых жывёл з нашага заапарка вывезлі ў Калінінград (пры немцах Кёнігсберг), астатніх перабілі”.

### *Карткі і вучоба за ежу*

У час нямецкай акупацыі ў Гродне дзейнічала каменданцкая гадзіна. Новая ўлада залічыла Пярэселку ў склад горада, і ўсе жыхары атрымлівалі карткі на прадукты і розныя рэчы.

“За картку можна было атрымаць хлеб, мыла, якое было зроблена з чымсьці цвёрдым, накшталт бітай цэглы. Мужчыны атрымлівалі вопратку. Усе казалі, што яна была тканая з крапівы – шэрае і страшнае адзенне. Нам – дзецям – давалі драўляны абутак, мы яго называлі драўнякі. Хадзілі ў ім па Пярэселцы. Свае карткі наша сям’я аддавала сваякам, якія жылі ў горадзе. Там людзі галадалі, а мы ў вёсцы маглі яшчэ выжываць”.

Немцы забаранялі мясцовым вучыцца, таму бацькі адпраўлялі дзяцей на таемныя заняткі. Яны хадзілі да настаўнікаў на кватэры і вывучалі польскую мову, гісторыю і геаграфію. Грошай плаціць не было, таму за навуку дзякавалі ежай. “Можна сказаць, за хлеб і сала нас вучылі ў час вайны”.

### *Пярэселку выратавала савецкая выведка*

У ліпені 1944 года пры адступленні немцы ледзь не спалілі Пярэселку разам з некаторымі жыхарамі.

“Летам 1944 года набліжаўся фронт, і мы з бацькамі пайшлі хавацца ў лес да Крэйдавых Гор. Наша бабуля засталася ў вёсцы, былі там і іншыя жыхары. Яны даглядалі дамы і гаспадарку. Немцы, калі адыходзілі, зайшлі да нас у вёску і ўсіх, хто застаўся, сабралі ў адным доме. Пабудову збіраліся падпаліць. Адзін хлопец здолеў выбрацца праз дах і прыбег да нас у лес, сказаў, што будзе Пярэселка гарэць. Некаторыя маладыя хлопцы залазілі на хвоі і глядзелі, але дыму не бачылі. Як высветлілася, немцы не паспелі сысці, як у вёсцы з’явілася савецкая выведка. Так у нас засталіся пабудовы і жыхары”*.

### *У Гродне расстрэльвалі і пасля вайны*

У пасляваенныя гады савецкая ўлада чарговы раз нагадала пра сябе жыхарам Пярэселкі – у людзей забіралі зямлю, а кагосьці саджалі або вывозілі. Але больш за ўсё Аліцыі запомніліся расстрэлы ў Пышках.

“У нас у Пышках ёсць малады лясок. Там расстрэльвалі людзей. Гэта я добра ведаю, бо насіла з бабуляй туды кветкі і камяні. Гэта было летам 1946 года. Усё было саспелае для ўборкі. Праз нашу Пярэселку пачала ездзіць машына-палутарка з падазронымі людзьмі, а ў вёсцы гэта была рэдкасць. Пастухі, якія пасвілі кароў на палях, заўважылі, што на ўскрайку капаюць яму. Казалі, калі капаюць – значыць будзе расстрэл.

Вяскоўцы сталі сачыць, і мой бацька ў тым ліку. У адзін дзень раніцай зноў ехала машына, шмат людзей, і ўсе стоячы ў кузаве. Бацька там убачыў чалавека ў сутане, гэта быў нейкі ксёндз. Бацька падняўся на горку і сачыў за транспартам. Іншыя суседзі пабеглі палямі за машынай. Яны і выйшлі да ямы, а там патруль. Хацелі расстраляць і гэтых вяскоўцаў, але мужыкі сталі казаць, што заблукалі і ішлі на загатоўку скаціны. Неяк удалося ім дамовіцца, іх адпусцілі”.

---

* Паводле ўспамінаў іншай гераіні, Алены Якуцэвіч, вяскоўцаў выратаваў солтыс.



*Аліцыя Марыя Кізюкевіч, 2019 г.*

Бацька Аліцыі Марыі працягваў сядзець у хованцы і назіраў, што адбывалася каля ямы. У выніку ён налічыў 41 стрэл. Тры дні там стаяла ахова, пастухам забаранялі пасвіць побач кароў. Аліцыя памятае, што нават калі ахова з'ехала, зямля яшчэ "дыхала". Праз некаторы час на месцы расстрэлаў яны з бабуляй выклалі крыж, і для вяскоўцаў гэта заўсёды было святое месца. Цяпер там усё зарасло.

"Я прасіла спецыялістаў, даследчыкаў рэпрэсій, каб зрабілі раскопкі. Я ўсім расказвала пра расстрэлы, важна, каб памяць пра людзей жыла. Пошукавікі прайшліся, нават лапатай не капнулі, і з'ехалі. Але там дакладна ёсць пахаванні. Святар быў, бацька яго бачыў, мы меркавалі, што людзей везлі з гродзенскай турмы. У той час якраз саветы арыштавалі пробашча з Фарнага касцёла Альбіна Ярашэвіча*. З турмы ён так і не вярнуўся. Магчыма, гэты святар з другімі людзьмі там і ляжыць".

* Паводле афіцыйнай версіі, Альбін Ярашэвіч загінуў у турме пад Мінскам у пасляваенныя гады.

# ПРЫ НЕМЦАХ У ГРОДНЕ БЫЛА БЕЛАРУСКАЯ ШКОЛА
## (Валянціна Дзядзель)

*Валянціна Аляксандраўна Дзядзель (Цэрабей) нарадзілася ў 1930 годзе ў Гродне на вуліцы Ерусалімскай. Праваслаўная. Усё жыццё жыве ў родным горадзе.*

### *Жыццё ў польскім Гродне*

Сям'я Валянціны з-пад Азёраў, там нарадзіліся тры яе сястры.

«Калі я ўжо была ў мамы на падыходзе, бацькі пераехалі жыць у Гродна. Пры паляках бацька быў align рознарабочым. Памятаю, што была ў яго сезонная праца на сучаснай вуліцы Будзённага. Там былі тытунёвыя склады, будынкі захаваліся дагэтуль*. Мама даглядала дзяцей і падзарабляла вартаўніком у камісарыяце на Баніфратарскай**. У адну з яе функцый уваходзіла вывешванне сцяга на святы. Аднойчы яна памылілася і не так яго вывесіла. Прыбег нейкі паліцыянт і стаў крычаць: "Цо пані нарабіла?". Ён зразумеў, што яна не спецыяльна, і сказаў ёй хутка ўсё памяняць. Мама ў мяне была працавітая і часта ездзіла на вёску, а таксама добра вязала і гатовыя рэчы абменьвала або прадавала».

У міжваенны час у Гродне было беспрацоўе. Шмат хто працаваў часова, а калі хтосьці знаходзіў сабе сталае працаўладкаванне, то можна было лічыць, што яго сям'я будзе забяспечана самым неабходным.

Спачатку Цэрабей жылі на Ерусалімскай, пасля пераехалі на Баніфратарскую і пасяліліся ў паўпадвале, які знялі ў яўрэя Тар-

* Цяпер гэта офісны будынак і консульства Польшчы на Будзённага, 48.

** Сучасная вуліца Свярдлова.



*Адна з сясцёр Валянціны Дзядзель разам з гімназісткамі ў цэнтры Гродна, 1930-я гг.*

лоўскага. У яго было некалькі дамоў у гэтым месцы. “Дзеці гэтага Тарлоўскага часта да нас прыходзілі. Хлопчыка звалі Рахіль*, а вось імя дзяўчынкі ўжо не памятаю. Шкодлівыя былі і нічога не хацелі дома есці. Ні курыцы, ні яек. І вось, прыйшлі яны неяк да нас, а мама тады бульбу зварыла і паліла расолам ад селядца. Яны сядзелі і елі разам з намі, а іх маці дзівілася. Елі яны з задавальненнем, для іх гэта была незвычайная ежа. За сцяной у нас жыла таксама яўрэйка, яе называлі Шэнька. Памятаю, што ў яе барада расла, і мазала яна яе чымсьці смярдзючым”.

Вучыцца Валянціну бацькі адправілі ў школу пры бернардзінскім касцёле, нягледзячы на тое, што сям’я была праваслаўная. Навучальная ўстанова знаходзілася недалёка ад дома. Усе навучэнцы хадзілі на вучобу ў спецыяльнай форме.

“У багатых была форма з шоўку, у бедных з саціну, у тым ліку і ў мяне. Я так хацела, каб мне маці пашыла з добрага матэрыялу, але мне так і не зрабілі. Я зайздросціла тым, у каго былі такія фартуш-

* Гэта жаночае імя. Магчыма, гераіня памылілася.



*Падчас навагодніх святаў, 1930-я гг. Фота з архіва сям'і Цэрабей*

кі з шоўку. Не магу сказаць, што мы дрэнна жылі за польскім часам, да нас, праваслаўных беларусаў, нармальна ставіліся. Жыць можна было, і важна было быць самім сабой".

«У крамах многае давалі ў крэдыт, як кажуць "на кніжку". Багацце тавараў было такое, што цяжка перадаць словамі. Асабліва на пляцы Баторыя і да Старога моста быў актыўны гандаль. Напрыклад, аднойчы мы з маці пайшлі па сукенку, так нам у адной яўрэйскай краме з 10 злотых скінулі да двух. Без пакупак нікога не адпускалі, запісвалі ў сшытак і казалі потым прыносіць грошы. Давяралі людзям. Памятаю, перад самай вайной хацелі купіць пасцельную бялізну, а пасля падумалі, калі мы за ўсё гэта разлічымся. І што вы думаеце, на наступны дзень пачалася вайна – у Гродна прыйшлі савецкія войскі».

Калі ў 1935 годзе памёр Пілсудскі, гараджане насілі чорныя павязкі. Валянціне прышылі тканіну такога ж колеру.

«Праз некаторы час у горадзе можна было ўбачыць надпісы "бей жыда", але вось пагромаў я не памятаю. Гродзенскія яўрэі былі багатыя, але некаторыя іх не любілі, бо за імі быў увесь гандаль».

### *1939 год. Новая школа і новая мова*

Да прыходу ў Гродна саветаў у Валянціны дома размаўлялі на польскай мове. Яе маці не хацела, каб на вучобе дзеці гаварылі з акцэнтам. Але з прыходам новай улады гродзенцам прыйшлося мяняць прынцыпы.

“Саветы прыйшлі імгненна, мая мама плакала ад радасці. Думала, будзе ўсім праца. Але першы час мы бачылі толькі вялікія чэргі па прадукты. Прыходзілася людзям у чатыры раніцы ўставаць па хлеб, а камусьці па гарэлку. Такіх чэргаў мы ніколі не бачылі. Пры паляках табе дахаты ўсё насілі, галоўнае каб купляў”.

«Калі ўвайшлі саветы, яўрэі відавочна паўсталі супраць мясцовых палякаў. Дзе адзін, там і ўсе дзесяць прыйдуць і пачнуць правакаваць: “Ты хочаш мяне назваць жыдам? Так скажы, адразу сядзеш!”. І нічога не зробіш».

Пры новай уладзе Валянціну адправілі зноў у другі клас, толькі ў новую школу на сучаснай вуліцы Акадэмічнай. Настаўнікі нешта казалі, а яна не разумела, асабліва не магла зразумець літару “ж”.

“Нам шанцавала, што першы час выкладалі ў школе мясцовыя настаўнікі, бо не паспелі прыехаць з усходу іншыя спецыялісты. Я памятаю, што ў першы час у савецкай школе не было формы, і хадзілі дзеці хто ў чым мог. А ў нас у Гродне да такога не прывыклі, і было дзіўна бачыць усіх у розным адзенні. Самае цікавае, што да канца 1940 года я вывучыла рускую мову і ўсё здала на выдатна”.

### *З пачаткам вайны перабраліся ў новы дом*

Пры першых саветах маці Валянціны пайшла працаваць правадніком у цягнік “Гродна – Львоў”. Яна ведала рускую мову і нават выступала агітатарам на сходах. Неўзабаве пачалася вайна, у Гродне з’явіліся немцы.

“У 1941 годзе вайна маці заспела ў Брэсце. Яна была ў рэйсе, і ёй давялося пешшу вяртацца ў Гродна. Ішла каля тыдня пад кулямі, але вярнулася цэлая. Бацькі таксама не было першы час. Нас людзі палохалі і казалі, што дастанецца ад немцаў. Жорсткія былі людзі, але, дзякуй Богу, бацькі вярнуліся дадому”.



*Стары мост, 1941 г.*

Калі пачалася вайна з немцамі, сям’я Валянціны жыла на вуліцы Закрэнт*. У першы год вайны іх дом згарэў, і яны перабраліся ў іншы.

“Калі прыйшлі немцы, у Гродне было шмат свабодных кватэр, многіх гараджан перабілі, хтосьці ўцёк, таму можна было выбіраць любую пабудову пад жыллё. Мы пайшлі бліжэй да Нёмана і ўзялі дом каля піўзавода. Там раней жыла сям’я Карнацкіх, на дзвярах, памятаю, была таблічка з гэтым імем. Памятаю першых немцаў на матацыклах, усе такія дагледжаныя, з закасанымі рукавамі. Мне тады было 11 гадоў. Калі ты немцаў не чапаеш, зла ім не робіш і нармальна працуеш, то цябе не чапалі. Пры саветах стараліся ўсе спяшацца, а пры немцах наадварот, лаялі за спешку. Галоўная была якасць. У іх яшчэ трэба павучыцца парадку.

Побач з намі жыў галоўны інжынер піўзавода. Немец, прозвішча, здаецца, Золік. Часта прыводзіў палюбоўніц да сябе, ладзіў вечарынкі. А яго сям’я жыла ў цэнтры горада. Дык вось, каля дома быў парадак, дарожкі жоўтым пясочкам былі пасыпаныя, каменьчыкі пабеленыя і вакол чысціня. Калі дзе паперку знай-

* Цяпер гэтая забудова адносіцца да сучаснай вуліцы Падольнай.

дзе – усіх караў. Стараліся яму дагаджаць. Але неяк загадкава ён памёр у Гродне, мы не ведалі, што з ім здарылася”.

### *Каб не кралі з працы, немцы давалі прадукцыю*

У час акупацыі амаль уся вялікая сям’я працавала, каб пракарміцца. Заробак і прадукцыя з месца працы давала магчымасць выжыць гродзенцам у цяжкі перыяд. Бацька Валянціны з адной сястрой пайшоў працаваць на піўзавод. Другая сястра пайшла на тытунёвую фабрыку, а яшчэ адна ўладкавалася бухгалтарам на агароды каля Архірэйскага падворка.

«Усе, хто працаваў, заўсёды прыносілі нешта дадому. Немцы ведалі, што мясцовыя будуць выносіць прадукцыю, і стараліся даваць нешта працаўнікам. Напрыклад, хто працаваў на піўзаводзе, давалі па дзве бутэлькі піва за змену, так званы “дэпутат”. Не ведаю, чаму так называлі*. Хто на тытунёвай, таму па два пачкі папярос. А сястры на агародах давалі гародніну. Усе, хто ў нас працаваў, неслі прадукцыю дадому і складавалі ў склепе. Мы нічога не прадавалі, а наадварот, раздавалі. А калі скрадзеш на прадпрыемстве, то маглі і забіць, вайна ўсё-такі».

«Быў час, калі пры немцах хадзілі ў кінатэатр, дзе сёння “Чырвоная зорка”, ён быў для мясцовых. Для немцаў быў кінатэатр каля сучаснага ўнівермага**. Туды можна было з 16 гадоў пайсці, хацелася і мне туды патрапіць. Так прыходзілася накручваць валасы, апраналіся прыгожа. Памятаю, як туды ўсіх запускалі, і быў той, які глядзеў за парадкам. Калі ён бачыў, хто лузгае семечкі, або паводзіць сябе дрэнна, то біў і выганяў».

### *Афіцэр у агародзе і беларускае таварыства*

Праз тое, што сям’я Валянціны жыла ля Нёмана, яны часта бачылі нямецкіх салдат і афіцэраў, якія любілі там адпачываць і шпацыраваць набярэжнай. Хтосьці да іх нават заходзіў.

“Праз акно мы бачылі прыстань, і ўсё было добра відаць. Немцы там выпівалі. Самае цікавае, што яны не танчылі на вечарынах. Дзіўна, але мы не ведалі чаму. Потым хтосьці сказаў, што ў іх танцы ў вайну былі забароненыя.

---

* Ад deputat (польск.) – зарплата натурай, прадукцыяй.

** Магчыма, кінатэатр “Спартак”, ён жа “Люкс”, “Ліра”, “Апола”, які не захаваўся.



*Навагодні спектакль у беларускім таварыстве ў Гродне, 1942 г.*
*З архіва А. Л. Шпак (Троцкай)*

У Новым замку ў немцаў быў шпіталь. Мы часта назіралі, як там у садзе хадзілі немцы, а іх даглядалі санітаркі ў белых халатах. Аднойчы нейкі начальнік са шпіталя выйшаў і пайшоў у бок нашай вуліцы. Вялікі такі, у форме і белых пальчатках, напэўна, нейкага вышэйшага чыну. А мама якраз тады ў агародзе нешта рабіла, ён падышоў і глядзіць на яе. Мы спалохаліся. Ён здымае свае пальчаткі і падыходзіць бліжэй. Нечакана ён узяў расаду і паказаў маме, як трэба правільна садзіць у агародзе. Мы былі ў шоку. Потым яму вадой палілі рукі і ён пайшоў далей".

Пры немцах Валянціне давялося павучыцца і ў беларускай школе. Дзесьці ў 1942 годзе на сучаснай вуліцы Урыцкага немцы далі дазвол збірацца беларускаму таварыству, мясцовай інтэлігенцыі.

"Памятаю, што на другім паверсе была зала. Хадзілі туды ў асноўным праваслаўныя жыхары горада і духавенства, нават архірэй быў. З нашай сям'і туды хадзілі сёстры і мяне бралі. А я толькі рот раскрывала, калі бачыла, як там усё было культурна. Канцэрты часта давалі, усё сваімі сіламі ладзілі. У гэтым жа будынку была і



*На вуліцы ў Гродне, пач. 1940-х гг. Фота з архіва сям'і Цэрабей*

беларуская школа, дзе вывучалі нашу мову і іншыя прадметы. Памятаю, адна бабулька выкладала ў нас нямецкую мову і аднойчы задала вывучыць верш, а мы на дошцы яго напісалі і прачыталі. Беларуская школа праіснавала толькі год. Як я разумела, немцы хацелі вырасціць з нас сваіх рабоў".

"А наогул усякае было ў горадзе: і каменданцкая гадзіна, і расстрэлы. Партызаны, вядома, шмат дапамагалі ў вайне, але як толькі яны заб'юць якога-небудзь немца ў наваколлі, тады нашых самых вядомых гродзенцаў – інтэлігенцыю – бралі ў закладнікі і потым расстрэльвалі".

### *Падрыў Старога моста і апошнія немцы*

З набліжэннем фронту берагі Нёмана пастаянна абстрэльвалі. Дом, дзе жыла Валянціна, знаходзіўся паміж двух агнёў, часта прыходзілася адседжвацца ў склепе.

"Памятаю, калі немцы пачалі масава адступаць, мяне маці адправіла ў нейкую краму. Трэба было перайсці мост і трапіць на левы бераг. Я ішла мостам, і немцы якраз перавозілі сваю тэхніку.



*Панарама Гродна, на пярэднім плане разбураны сённяшні Стары мост, 1944 г.*

А адправіла мяне мама па булён, які заставаўся пасля варэння мяса. Лепшае немцы забіралі сабе, а жыжку аддавалі мясцовым. Чэргі былі страшэнныя. Хто стаяў першы ў чарзе, мог атрымаць добры навар, нават з кавалачкамі мяса, апошнім ужо даставаўся проста булён. Немцы давалі яшчэ маслянку. Усе бралі, бо есці хацелі".

Калі Валянціна ішла мостам назад, немцаў стала яшчэ больш. «Гэта не перадаць словамі, колькі там тэхнікі было. Ішла каля самага плота, але пакуль прайшла, гэта быў для мяне сапраўдны стрэс. Ты ідзеш, а там навокал раве тэхніка і крычаць салдаты: "Гэй, гэй, гэй…". Гэта было так страшна, але Бог мяне ўбярог, і я дайшла жывой і цэлай дадому».

Немцы збіраліся хутка перайсці Нёман і не казалі мясцовым, што плануюць узарваць мост.

"Былі чуткі, што гэта можа адбыцца, але не ведалі, калі менавіта. Мы жылі зусім побач. Мост узарвалі ноччу, нечакана. Быў такі грукат, што многія аглухлі. Майго бацьку хваляй адкінула ў іншы пакой.

Раніцай мы выйшлі паглядзець мост, а там ужо віселі розныя кавалкі. Гэта было нешта”.

“Яшчэ перад адступленнем адзін эсэсавец прыйшоў да нас дадому і шукаў сястру. Яна неяк загаварыла з ім на вуліцы на нямецкай мове, і ён пад канец прыйшоў па яе, але мы яе схавалі. Баяліся, што пазабівае ўсіх. Пранесла. Яшчэ адзін салдат прыходзіў да іншай сястры, закаханы быў у яе. Можа, нейкі румын, мы не разумелі, што ён казаў. А аказваецца, ён хацеў, каб сястра плюнула яму на руку, было ў яго нейкае павер’е. Доўга разбіраліся, што ён хацеў, але ў выніку прымусілі сястру плюнуць. Было непрыемна, але трэба было гэта зрабіць”.



*Разбураны Стары мост, 1944 г.*

“Памятаю яшчэ пра адзін выпадак пры адступленні немцаў. Адна жанчына ўцякала з немцамі, хто яна – ніхто не ведаў, але ў яе было немаўля, і яна перадала яго нейкаму мясцоваму старому. Даручыла даглядаць. Дала грошай, каб у выпадку смерці пахаваў яго. Ці выжыла тое дзіця, я не ведаю”.

### *Яўрэі павінны былі змагацца*

Калі пачалася галоўная аперацыя па вызваленні Гродна савецкімі войскамі, сям’я Валянціны знаходзілася ў склепе. Выйшлі яны на вуліцу, толькі калі пачулі рускую мову. У той момант савецкія часткі ўжо ўваходзілі ў горад.

“Так нас і вызвалілі. Ужо пасля вайны сястра распавядала, як бачыла дачку яўрэя Тарлоўскага, гаспадара дома на Баніфратарскай, у якога мы жылі раней. Тая распавяла, што ёй з бацькам удалося вы-



*Валянціна Дзядзель, 2019 г.*

брацца з гета і выратавацца, а жонка з сынам не захацелі ўцякаць і, хутчэй за ўсё, загінулі. Я лічу, што гродзенскія яўрэі павінны былі змагацца за сваё жыццё. Усё роўна іх вялі на смерць, і многія гэта ведалі. Гэтыя гродзенцы былі інтэлігентнымі і адукаванымі людзьмі, але амаль усіх іх перабілі. Пасля вайны ў Гродне лічыўся пісьменным той чалавек, які скончыў усяго сем класаў”.

# «НЕМЦЫ ЗАЛЯЦАЛІСЯ, АЛЕ МЫ З ІМІ НЕ ГУЛЯЛІ»

## (Яніна Дудкевіч)

*Яніна Іосіфаўна Дудкевіч (Леванеўская) нарадзілася ў Гродне ў 1925 годзе ў сямейным доме на вуліцы Правабярэжнай. Каталічка. Усё жыццё жыве ў родным горадзе.*

“Я нарадзілася ў доме над самым Нёманам. Дзяцінства я заўсёды ўспамінаю з задавальненнем, нам было хораша жыць на беразе. Побач былі добрыя суседзі, у асноўным палякі. Тата мой быў шаўцом, а маці не працавала – у яе былі праблемы з сэрцам. Моцна хварэла. Калі мне было 10, яна памерла. Мы з сястрой і братам засталіся на плячах бацькі. Ён нас вельмі любіў і стараўся максімальна клапаціцца пра нас”.

### *Справа бацькі дапамагала жыць*

Бацька Яніны Дудкевіч спачатку працаваў шаўцом дома, але калі абзавёўся шматлікімі кліентамі, вырашыў пашырыцца і адкрыць сваю краму-майстэрню.

“Ён сам працаваў у краме, а таксама наймаў рабочых палякаў і праваслаўных. Яўрэі, якіх у горадзе было шмат, стараліся не займацца такой нізкааплатнай працай. Яны былі ў асноўным начальнікамі. Першая крама нашага бацькі была на вуліцы Замкавай, недалёка ад пажарнай вежы. Памятаю, ён выходзіў з дому, падымаўся большай лесвіцай і выходзіў якраз да крамы. Яна была невялікая, бацька спецыяльна шукаў месца з малой арэндай”.

Незадоўга да 1939 года бацька Яніны ўжо адчыніў краму на Дамініканскай, амаль на сярэдзіне вуліцы, насупраць былой жано-



*Пасля першай камуніі ля бернардзінскага касцёла, 1930-я гг.*

чай гімназіі. Леванеўскія не былі багатай сям'ёй, але заробак бацькі дапамагаў ім жыць і забяспечваў дзяцей усім неабходным: харчаваннем, адзеннем і годнай адукацыяй.

"Я вучылася ў агульнаадукацыйнай школе, здаецца, № 7 яна называлася. Гэта там, дзе быў тонкасуконны камбінат у савецкія гады. Там вучыліся дзяўчынкі, вось там я была з сястрой. А брат хадзіў у гімназію на Акадэмічнай. У польскай школе я скончыла сем класаў, гэта якраз у 1939 годзе было. Планавала паступіць у купецкую гімназію, але пачалася вайна – Германія напала на Польшчу, а ў Гродна ўвайшлі савецкія войскі".

### *З новай уладай не спрачаліся*

У 1939 годзе з прыходам савецкай улады сям'я Леванеўскіх закрыла краму. Галава сям'і стаў працаваць дома. Шматлікія рэпрэсіі ў дачыненні да заможных гродзенцаў пры першых саветах Леванеўскіх не закранулі.

"1 верасня я на вучобу не пайшла, ужо тады на вуліцах ляжалі нябожчыкі. Ляталі нямецкія самалёты і бамбілі горад. Цяпер гэтыя



*Вучні гродзенскай агульнаадукацыйнай школы імя Міцкевіча, 1930-я гг.*

падзеі ў Гродне ўжо не ўспамінаюць, бо як такой вайны і не было. Пасля нямецкіх налётаў у Гродна прыйшлі рускія і забралі частку Польшчы сабе, так званыя крэсы. Пра тое, што ідзе да нас савецкая армія, мы пачулі па радыё. Наша сям'я сядзела ціха і хавалася ў падвале. Хтосьці з гродзенцаў спрабаваў абараняць горад, але сур'ёзных баёў не было. На нашай вуліцы бітваў дакладна не было. З новай уладай мы не спрачаліся, бацька згаджаўся з усім. Ён гаварыў па-руску і стараўся адхіліць ад сям'і бяду. Таму мы маўчалі і нікуды не высоўваліся. Палякі і рускія не любілі адзін аднаго, але потым звыклі, куды ты дзенешся з такой уладай.

Пры саветах мяне панізілі ў класах. З сёмага я перайшла ў пяты клас. І нічога не зробіш, трэба было падпарадкоўвацца. Іншая мова і іншая праграма".

## *Шылі для немцаў*

"У 1941 годзе пачалася ўжо сапраўдная вайна. Мы сядзелі як мышы дома. Бацька іншы раз з хаты не дазваляў выходзіць, вельмі перажываўся за нас. Мы былі вялікімі дзяўчатамі, а ён усё казаў – ся-



*Яніна Дудкевіч, 1943 г.*

дзіце дома або ў акенца глядзіце. Сам бацька працягваў малаточкам стукаць – абутак рабіў".

Аднойчы Яніне прыйшла позва ў магістрат – немцы збіраліся вывезці яе ў Германію на прымусовыя працы. Яе бацька звярнуўся да добрага знаёмага ў магістраце, і той дапамог: зрабіў дзяўчыну паводле дакументаў маладзейшай на два-тры гады. Так яна не падышла ўзростам і засталася ў родным горадзе.

Выезду ў Нямеччыну ўдалося пазбегнуць, а вось працы на немцаў – не. Бліжэй да 1944 года Яніну выклікалі працаваць на швейную фабрыку каля аўтавакзала.

"Шылі ўсё для немцаў, у асноўным гэта было працоўнае адзенне. Нічога ваеннага. За працу плацілі, але вось скрасці нічога нельга было. Старанна правяралі. У першую змену яшчэ сяк-так можна было са знаёмымі вяртацца дадому, але вось з другой, калі ў 23:00 сканчалі, то даводзілася бегчы*. Я вельмі баялася немцаў, як чарцей. Маглі папросту так збіць і расстраляць. А яны яшчэ падэшвы падбівалі нейкімі жалезнымі шыпамі, і чуваць было, як хадзілі, то ад гуку ботаў даводзілася заўсёды хавацца".

### *"З немцамі не гулялі"*

У 1944 годзе ў час аднаго з налётаў авіяцыі пацярпеў дом Леванеўскіх, сям'я перабралася жыць да брата Яніны на Падольную. Ён падчас акупацыі ажаніўся і са сваёй жонкай ужо жыў асобна. Некаторы час Леванеўскія жылі там спакойна. Гэты дом таксама быў ля Нёмана.

* У час нямецкай акупацыі існавала каменданцкая гадзіна.



*Яніна (злева) з сястрой і братам у цэнтры Гродна, 1940-я гг.*



*Яніна Дудкевіч з бацькам і братам, 1943 г.*

“Немцы спрабавалі заляцацца да нашых дзяўчат, і яны не лепш былі, таксама стараліся спадабацца вайскоўцам. Мы з сястрой не ішлі да салдат, толькі з нашымі хлопцамі гулялі. Ладзілі дома прыватк*. Завешвалі шторы, каб нічога не было відаць. Уключалі ціха музыку і танцавалі. У прызначаны час усе разыходзіліся. А прыходзілі ў асноўным суседзі – моладзь. Немцы бурна адпачывалі ў рэстаранах і іншых публічных месцах у горадзе, мы там ніколі не з’яўляліся”.

Аднойчы па радыё, якое Леванеўскія хавалі дома, яны пачулі, што набліжаецца савецкі фронт.

“Чутныя ўжо былі стрэлы гармат. На працу на фабрыку я не пайшла, а бацька, наадварот, казаў, каб я схадзіла, бо могуць быць непрыемнасці. Не пайшла і правільна зрабіла. Баі наблізіліся да горада. Мы сядзелі ў падвале да заканчэння баявых дзеянняў. Нават па ваду да калодзежа небяспечна было выйсці, бо маглі забіць. Неўзабаве ў Гродна ўвайшлі савецкія часткі”.

### *“Гэта наш сусед – гродзенец”*

Яніна Дудкевіч шмат памятае пра гродзенскіх яўрэяў, якіх да вайны з немцамі ў Гродне была ледзь не большасць насельніцтва. Пасля вайны іх засталося ўсяго некалькі дзясяткаў.

“Гродзенскія яўрэі былі добрымі людзьмі, мы з імі сябравалі. Быў у нас адзін сусед на Новазамкавай**, Іцык звалі. Прыемны быў жыдэк. Да яго пастаянна хадзілі па прадукты. А ён прадаваў усё. Можна

* Моладзевыя сяброўскія вечарыны ў кагосьці дома.

** Вуліца Новазамкавая з’явілася пасля вайны. Да вайны там былі вуліцы Падзамча, Крэнта, часткова Кляшторная. Цяпер гэта вуліца Давыда Гарадзенскага.



*Яўрэйская сям'я Кагановых. Гродна, 1920–30-я гг.*

было і без грошай браць, на кніжку. Яшчэ за палякамі хапала гродзенцаў, якім не падабаліся яўрэі, казалі не купляць у іх і не сябраваць з імі. Але ў нас праблем з яўрэямі ніколі не было".

У бацькі Яніны быў знаёмы яўрэй, які часам дапамагаў з абуткам у краме. Яго забралі ў гета з сям'ёй, і Леванеўскі насіў яму пасылкі. А калі забаранілі дапамагаць, то перадаваў іх таемнымі шляхамі.

"Шкада было людзей, я проста не разумею, як можна так было здзекавацца з людзей. Для нашай сям'і ніколі не было розніцы, якой чалавек нацыянальнасці – яўрэй, рускі ці паляк. Гэта наш сусед – гродзенец. А немцы прыйшлі, загналі іх у гета і трымалі, а калі хтосьці ўцякаў, то маглі адразу расстраляць тры-пяць чалавек. Так і з палякамі было, калі ў горадзе нехта забіваў немца, то бралі ў закладнікі цывільных".



*Яніна Дудкевіч, 2019 г.*

### *Сястру забраў “чорны воран”*

Пасля вайны страх у горадзе яшчэ прысутнічаў, бо савецкая ўлада пачала вывозіць мясцовае насельніцтва. Бяда не абмінула і сям’ю Леванеўскіх.

«Савецкая ўлада пачала вывозіць нашых людзей. Без суда. Прыязджала пад дом машына, мы яе называлі “чорны воран”. Заходзілі людзі ў дом, пыталі пра чалавека, які ім патрэбны быў, а пасля забіралі яго і з’язджалі. У мяне так сястра ў іх рукі трапіла. Хтосьці нагаварыў так, што яе вывезлі ў глыб Расіі. Бязвінна вінаватая была. Год яе не было ў Гродне, а пасля вярнулася, бо апраўдалі».

Бацька і брат Яніны Дудкевіч з’ехалі як рэпатрыянты на польскае Памор’е, а яна ў 1946 годзе выйшла замуж і засталася ў родным горадзе да цяперашняга часу.

# ХАЦЕЛІ ВЫВЕЗЦІ Ў ГЕРМАНІЮ, АЛЕ ПАКІНУЛІ Ў ГРОДНЕ

## (Вікенцій Можджэр)

*Вікенцій Ізідоравіч Можджэр нарадзіўся ў 1938 годзе ў Прывалцы. Каталік. У час нямецкай акупацыі жыў у Гродне.*

“Мы былі звычайнай вясковай сям’ёй: бацькі і пяцёра дзяцей. Маці – полька, бацька – літовец. Жылі ў Прывалцы, недалёка ад Гродна. Усё жыццё бацькоў было звязана з сельскай гаспадаркай. Калі прыйшлі немцы, нашу сям’ю яны хацелі вывезці ў Германію на працы. Старэйшы брат з сястрой уцяклі, а мы, трое дзяцей з бацькамі, паехалі ў Гродна. Немцы дазволілі браць усё, што ўлезе на павозку”.

Калі Можджэры прыехалі ў Гродна, немцы адправілі іх на медыцынскія камісіі. Выявілася, што бацька Вікенція – хворы, праз стан яго здароўя іх не адправілі ў Германію. Немцы сказалі заставацца ў Гродне і шукаць кватэру, а пасля бацьку выходзіць на працу.

### *Шукалі ў пустых кватэрах каштоўныя рэчы*

Куды падацца ў Гродне, Можджэры не ведалі, у гэтым горадзе родных і знаёмых у іх не было. Два дні сям’я сядзела каля сучаснай вуліцы Вялікай Траецкай, пакуль галава сям’і не знайшоў кватэру.

“Проста сядзелі на ходніку, а мясцовыя прыносілі нам есці. Бацьку ўдалося знайсці адну добрую кватэру ў былым яўрэйскім квартале. А кватэр свабодных тады было шмат, бо ўсіх яўрэяў забралі ў гета. З вёсак у Гродна звозілі сялян, яны таксама хадзілі і шукалі сабе жытло. У нашай кватэры была мэбля і нейкія рэчы. Памятаю, што брат знайшоў для мяне белыя чаравікі. Нашы старэйшыя хлопцы веча-

рамі хадзілі па пустых кватэрах у пошуках каштоўных рэчаў. Мяне нікуды не бралі, бо я быў тады вельмі маленькі. Брат закрываў у пакоі, сыходзіў і абяцаў што-небудзь прынесці. Вяртаўся ўжо з цацкамі. Тады знайсці ў кватэрах можна было ўсё што заўгодна".

### *Праз акно – гета*

Побач з домам, дзе жылі Можджэры, быў калючы дрот – агароджа гета.

«Яўрэяў там было шмат, спачатку мы думалі, што іх таксама павязуць у Германію працаваць, як і нас. А потым бацька сказаў, што іх будуць расстрэльваць. Спачатку іх нікуды не вывозілі. Немцы збіралі з іх золата і грошы, і толькі тады на "гарматны стрэл". Шкада было людзей, бо яны такі ж народ, як і мы. Можа, дзесьці больш разумныя і хітрэйшыя, і ўсяго толькі».

Праз акно Можджэрам было бачна майстэрню па рамонце абутку ў гета, там працавалі шаўцы, быў бачны швейны цэх, дзе таксама працавалі людзі. Бывала, яўрэі з гета заходзілі і дадому, але ноччу, каб ніхто з суседзяў не пабачыў і не выдаў.

"Брат часта з сябрамі сыходзіў з дому і прасіў, каб я нічога не казаў бацьку. Увечары як прападаў і толькі пад раніцу прыходзіў.



*Тэрыторыя яўрэйскага гета № 1, 1941 г.*



*Вуліца ў гета, 1943 г.*

А мы ў пакоі з ім удваіх спалі. Хлопцам было па сем-восем гадоў, і яны нейкім чынам дапамагалі яўрэям выбірацца з гета. Гэта ўжо потым я даведаўся, што хлопцы былі звязаны з партызанамі. У гета на гары стаялі прыбіральні, і гэтыя дзеці неяк прарэзалі там калючы дрот і выводзілі людзей. Побач была адна вартаўнічая вышка, але каб адтуль стралялі, я ніколі не чуў. Гета ахоўвалі ў асноўным паліцаі – нашы, ваенных я не памятаю. Але ўсіх можна было падкупіць. Бацькі не ведалі, чым займаўся мой брат. За такія дзеянні немцы папросту маглі расстраляць усю сям'ю. Пранесла".

### *Цяжкасці пасля вайны*

У Гродне бацька Вікенція працаваў са сваім канём, вазіў будаўнічыя матэрыялы. За працу немцы яму плацілі. У горадзе сям'я прабыла амаль да 1944 года. Калі немцы прыбралі гета, а яўрэяў вывезлі ў лагеры смерці, Можджэры з'ехалі назад у Прывалку.

«Вызваленне мы сустракалі ўжо ў сваёй вёсцы. Паехалі назад дадому, там зямля наша і хата. У Прывалцы з аднаго боку Нёмана ішлі нашы – савецкія салдаты, а з другога – немцы. Кулі толькі



*Вікенцій Можджэр, 2018 г.*

свісталі над намі. Каб засцерагчы сям'ю, бацька вырашыў усіх хаваць у яме. Заехалі ў поле, выкапалі тыпу зямлянку і там чакалі. Месяцы два сядзелі так.

Пасля вайны ціха не стала. У лясах доўга хадзілі партызаны – "лясныя браты". Калі хто з мясцовых уступаў у калгас, маглі прыйсці і расстраляць. Так забілі майго дзеда, толькі з іншай нагоды. У канцы 1940-х гадоў у вёсцы Дуброўна ў дзеда было 30 гектараў зямлі, і ён меў сваю гаспадарку. Былі ў яго пчолы, і неяк прыйшлі гэтыя партызаны і папрасілі мёду. Зразумела, што ім трэба было нешта есці ў лесе. Дзед ім сказаў, што на гарышчы бочка, і каму трэба, той хай лезе і бярэ. Сам даваць нічога не будзе, бо калі саветы даведаюцца, то "на белыя мядзведзі" вывезуць. Партызаны ноччу прыйшлі, але мёд не бралі, а дзеда забілі. Складана было ў пасляваенныя гады мірным людзям, шмат хто не ведаў, як паступаць з партызанамі і саветамі».

# БАЦЬКА БЫЎ СОЛТЫСАМ У ПЯРЭСЕЛЦЫ І РАТАВАЎ ЛЮДЗЕЙ

## (Алена Якуцэвіч)

*Алена Іванаўна Якуцэвіч (Кізюкевіч) нарадзілася ў 1929 годзе ў вёсцы Пярэселка. Каталічка. Усё жыццё жыве ў Гродне.*

### *Так грэліся, што спалілі Пярэселку*

Кізюкевічы не былі інтэлігентамі, а былі звычайнымі вяскоўцамі. Бацька Алены ў царскія часы хадзіў у школу толькі два месяцы. Калі ён ажаніўся з маці Алены, дзяржава дала ім 100 рублёў. За гэтыя грошы ён зрабіў візу і паехаў працаваць у Амерыку, гэта было недзе ў 1900 годзе. Пэўны час жонка ездзіла да яго, трохі працавала прыбіральніцай, нарадзіла там сына і вярнулася з ім у Гродна.

«Бацька яшчэ застаўся ў Амерыцы і працаваў на цагляным заводзе, вярнуўся ў Гродна толькі праз сем гадоў. Купіў зямлю ў Пярэселцы, і жылі там усе. Пабудавалі добры дом, і маці казала, што зробленага ў Амерыцы хопіць іх дзецям і ўнукам. Але ў 1914 годзе, калі пачалася вайна з немцамі, адбылося нечаканае. Бацьку забралі "ў ружжо", а мама засталася дома з двума дзецьмі. Тым часам у вёску прыйшлі рускія салдаты, распалілі агонь, каб сагрэцца. Так грэліся, што полымя перакінулася на бліжэйшыя дамы і такім чынам уся вёска Пярэселка згарэла».

### *У трэцім класе вывучала матэматыку*

У час Першай сусветнай ад усёй Пярэселкі засталося толькі два каменныя дамы. Вяскоўцы пайшлі прасіць дапамогі ў яўрэяў з вуліцы Віленскай. Тыя дазвалялі ў іх жыць, дапамагалі.



*Алена (справа) з сястрой у цэнтры Гродна, 1930-я гг.*

“Пярэселку давялося адбудоўваць, у новым доме нарадзілася і я. Была трынаццатая ў сваіх бацькоў. З усіх дзяцей толькі сямёра выжыла. Бог даў, бог забраў. Тады не было ў нашай сям’і вялікіх грошай на лекі, калі выжыве дзіця, то выжыве. Часам нас лячыў вясковы лекар Пётр Гутман”.

Сям’я была вялікая, і ўсе працавалі на зямлі. «Бацька казаў: “Усё знікне і згарыць, а зямля застанецца”. Мы шанавалі нашу зямлю і працавалі на ёй. А каб зарабіць грошы, можна было часам хадзіць на працу ў маёнтак да пана, дзе цяпер “Зелянгас”. Плацілі там кожны тыдзень. А можна было яшчэ насіць малако ў горад, людзі актыўна яго бралі».

Пры польскай уладзе ўсе дзеці з Пярэселкі вучыліся ў школе № 8 на тагачаснай Базыльянскай. У 1936 годзе Алена пайшла туды ў першы клас і скончыла тры класы польскай школы.

“Дырэктара школы пана Вевюрскага памятаю да сёння. З яго дачкой мы вучыліся ў адным класе. Усю сям’ю іх расстралялі немцы, выжыў толькі адзін сын, якога не было дома, калі па іх прыйшлі.

Быў у нас такі настаўнік матэматыкі – пан Брановіч. Наймацнейшы матэматык на цэлае Гродна. Ён ужо ў трэцім класе нас вучыў свайму прадмету. Пра яго пісалі ў газетах. Памятаю, Вішнеўскі быў такі настаўнік, дык яго вывезлі саветы”.

### *Да яўрэяў добра ставіліся*

Агулам Алена Якуцэвіч з задавальненнем успамінае жыццё за польскім часам. Ёй падабалася жыць у даваенным Гродне: ніхто

нікога не пераследаваў, а хто хацеў нармальна жыць і працаваць, той мог спакойна гэта рабіць.

«Дарослыя працавалі, дзеці вучыліся. Усё было добра, ніхто не галадаў. Недалёка ад нашай вёскі, дзе знаходзіўся мясакамбінат, былі крамы з разнастайным таварам. Гандлявалі нашы – палякі. Яўрэі гандлявалі на Рыбным рынку і ў цэнтры горада ў “ятках”*, такіх невялікіх крамках. З яўрэямі можна было дамаўляцца і браць танней які-небудзь тавар, чым у тых жа палякаў».

Бацька Алены ведаў яўрэйскую мову, а яна вельмі падобная да нямецкай, таму ён мог спакойна мець дачыненні як з немцамі, так і з яўрэямі.

«Добра памятаю крамы на Дамініканскай. Напрыклад, самая галоўная двухпавярховая крама – “Агніска”. Там можна было купіць кнігі, школьныя прылады і многае іншае. Дзе цяпер стаіць помнік Сакалоўскаму – там побач была польская друкарня. А таксама побач знаходзіўся офіс для беспрацоўных, ім плацілі па 2 злотыя. Для параўнання, цукар тады каштаваў златуўку».

«Польскія дзеці перад самай вайной часта крычалі на вуліцы: “Бі жыда”. Гэта я памятаю, бо часта, калі ішлі праз цэнтр да касцёла, крычалі гэта яўрэям. Яны нам у адказ: “Бі паляка”. Але мы тады былі дзецьмі. Дарослыя сябе так не паводзілі, я не заўважала такога. Асабіста мая сям’я да яўрэяў добра ставілася».

Вёска Пярэселка знаходзілася недалёка ад яўрэйскіх могілак**. “Там мы кароў пасвілі. Могілкі былі акружаны цагляным плотам, мы часам залазілі на яго і глядзелі, як яўрэі хавалі сваіх людзей. А ў іх была традыцыя – наймаць на пахаванне плачку, каб гучна галасіла. Яна ішла за возам, які вёз нябожчыка. Раўла да таго моманту, пакуль чалавека не пахаваюць”.

### *Пярэселка – малая Амерыка*

У 1939 годзе многіх мужчын з вёскі Пярэселка прызвалі ў польскую армію. 1 верасня немцы напалі на Польшчу, пачалася Другая сусветная вайна. У Гродна праз некалькі дзён увайшлі савецкія часткі.

«У той час у Гродне вайны не было, але нас, маладых, рыхтавалі да таго, што можа нешта пачацца. Казалі, каб нічога не падбіралі на

* Ад старадаўняга польск. jatka – крамка, звычайна мясная.

** Цяпер там стадыён ЦСК “Нёман”.



*Жанчыны ля дома сям'і Кізюкевічаў у Пярэселцы*

вуліцы, бо магла быць выбухоўка. У пачатку верасня, калі пачалася вайна з немцамі, у Гродне была цішыня, ніхто не ведаў, што будзе далей. У адзін дзень мы ішлі капаць бульбу на поле, і ў канцы вёскі паказалася конніца. Каля 100–150 чалавек. Усе ў фуфайках, шапках з пікамі і вінтоўкамі. Ехалі яны на амаль дохлых конях. Людзі сталі выходзіць і глядзець, што адбываецца. А гэта былі савецкія салдаты. Усе есці прасілі, казалі: "Хлебца, хлебца". Так ім вынеслі не проста хлеба, але і сала. Накармілі гэтых галодных і абадраных».

На другі дзень у вёсцы так набілася салдат, што цяжка было прайсці ад плота да плота. Жыхары не маглі нават кароў завесці дадому. А салдаты ўсё шукалі ежу, а потым ужо рассяляліся ў вясковых хатах. «Аднаго так накармілі, што ён потым сказаў: "От чего мы, интересно, их освободили?!". Яны ішлі сюды і думалі, што тут людзі галодныя і бедныя. Але насамрэч яны сутыкнуліся зусім з іншай карцінай – ва ўсіх свая зямля, дамы і гаспадарка. Яны думалі, што ў Амерыку прыехалі. Казаў адзін салдат:

– Ой, это Америка!

– Ну якая вам гэта Амерыка? Гэта вёска, а Амерыка за морам.

– Ну, значит, у вас малая Америка!»

“Вызваліцелі” хутка асвоіліся ў горадзе, вывезлі многіх, нават леснікоў.

«Мы засталіся, і калі б не немец, то павезлі б і нас “на белыя мядзведзі”. Рускія называлі нас кулакамі, а ў нас у вёсцы менш за дзвюх кароў амаль ніхто і не трымаў».

Пры новай уладзе бацька не пусціў Алену ў беларускую школу, але праз год яна ўсё ж пайшла вучыцца. Вучылі ўжо не польскай мове, а беларускай і рускай. Алена наведвала школу да 1941 года і была найлепшай вучаніцай у класе. Яе малюнкі нават вывешвалі на пляцоўцы каля Гарнізоннага касцёла*.

### *Некаторыя жанчыны з кветкамі сустракалі немцаў*

Пра вайну ў чэрвені 1941 года Алена даведалася ад бацькі, калі ён прыбег у двор дома з каровамі і сказаў, што на Гродна ідзе немец.

«Дома сталі чутныя выбухі. Наш сабака, які ніколі дахаты не заходзіў, лёг на парозе і нікуды не сыходзіў. Мне дрэнна стала, пачала думаць, чаму ж нас саветы не вывезлі на тыя “белыя мядзведзі”. Як мы будзем жыць у вайну?!»

Бліжэй да раніцы прыйшоў чалавек у плашчы і спытаў у мясцовых па-польску, дзе форт Грандзіцкі. Яму паказалі месца, і ўвечары гэты форт узарвалі.

“Немцы ў Пярэселцы з’явіліся каля дзвюх гадзін дня. У нас у Пышках, над Нёманам, стаялі савецкія памежнікі. Як пачалася вайна, яны ўсе ўцяклі. А вясковыя пайшлі туды па рэчы. І бацька мой туды пайшоў і знайшоў толькі шапкі зялёныя. Узяў іх на латкі, штосьці ў будучыні выкарыстоўвалі мне на сукенку. А ўсё самае добрае з гэтага лагера расцягнулі на лодках тыя, хто прыплываў з другога берага Нёмана”.

“У нашай вёсцы некаторыя жанчыны з кветкамі сустракалі нямецкія танкі і гарматы. Калі б не тыя немцы, нас бы ўсіх вывезлі. Камуністы за два гады так моцна разрабавалі наш народ і зямлю”.

На другі дзень вайны бацька Алены з братам паехаў у горад, каб паглядзець, што адбываецца ў Гродне. “Добра, што ўзялі з сабой воз. Набралі драўляных калодак для абутку. Бацька часам рамантаваў абутак, і яму для працы яны якраз патрэбныя былі. Дадому бацька прывёз яшчэ і жанчыну, якая пацярпела пасля налёту авіяцыі. Ён

* Фара Вітаўта.



*Сям'я Кізюкевічаў.*
*У цэнтры – бацька Алены Іван. 1940-я гг.*

яе падабраў каля Ажэшкі, яе абсыпала моцна пяском. Напярэдадні вайны яна прыехала ў Гродна да свайго мужыка – вайсковага доктара Паўлава. З сабой у яе было пяць чамаданаў з каштоўнымі рэчамі. Яе клікалі Валя, жыла ў нас два гады".

### *Немцы зрабілі бацьку солтысам*

За немцамі бацьку Алены Якуцэвіч выбралі солтысам. Да гэтага аднаго солтыса Пярэселкі саветы расстралялі, другога вывезлі ўглыб Расіі.

"Прынеслі бацьку дакументы вясковыя, а на плот павесілі шыльду – солтыс. Бацька адмаўляўся, бо не ўмеў пісаць. Ён толькі чытаў добра і размаўляў на некалькіх мовах. Пісаць ён не ўмеў, прыйшлося гэта рабіць за яго старэйшай сястры. Тое, што зрабіў наш бацька за немцамі, – такога ніхто не рабіў. Ён ратаваў гродзенскіх яўрэяў і дапамагаў мясцовым палякам. Яўрэі прыходзілі ў вёску да яго і казалі, што ісці ім няма куды, як у Пярэселку. А весці справы з яўрэямі было небяспечна, калі б немцы даведаліся, маглі б расстраляць усю сям'ю".

Рэгулярна вёску правяраў жандар Юзаф, хадзіў з сабакам, гаварыў па-польску. Ён любіў выпіць і часта заходзіў да Кізюкевічаў. Маці Алены налівала яму і давала закуску, а пасля ішла да дзяцей і казала, каб тыя прабеглі па вёсцы і сказалі, што прыйшоў Юзаф. Алена бегла ў адзін бок, яе сястра – у другі. Людзей трэба было папярэджваць, бо некаторыя маглі і свіней калоць, а гэтага рабіць было нельга. Хтосьці хаваў яўрэяў, тады іх трэба было адпраўляць у лес.

“У аднаго хлопца, Кубуся, у хляве яўрэі з гета рэзалі кароў. Дзесьці яны іх куплялі і нейкімі шляхамі перадавалі ў вёску. Рэзалі кароў ноччу і мяса везлі потым у гета. Перавозілі ў бочках, на якіх вывозілі адходы з туалетаў. Унутры там усё чысцілі, а потым складалі. Такім чынам мяса правозілася ў гета. Амаль кожны дзень у гэтым хляве рэзалі кароў. Людзі ў гета былі галодныя, іх трэба было неяк карміць”.

«Аднойчы да бацькі прыйшлі два маладыя яўрэі ў касцюмах і пыталіся, што яму трэба прывезці за дапамогу. А ён ім сказаў: “Дзеці, мне нічога не трэба. Бо вам сёння, а нам заўтра будзе гэта”. Бо немцы планавалі спачатку з яўрэямі разабрацца, а потым перайсці і на палякаў».

### *Яўрэяў не выдаў*

Солтыс вёскі атрымліваў усю карэспандэнцыю і ведаў, каго немцы хочуць забраць на працы ў Нямеччыну. Вясковую моладзь ён адстойваў да апошняга. Павінны былі забраць і старэйшую сястру Алены, але яна была вачамі і рукамі яе бацькі – атрымалася адгаварыць немцаў.

“Амаль кожную ноч бацька ў доме з кімсьці вёў перамовы, а раніцай нікога ўжо не было. Прыходзілі да нас і солтысы з іншых вёсак, нешта абмяркоўвалі. Былі моманты, што на бацьку хтосьці нагаворваў: пяць разоў немцы праводзілі ў нас ператрусы. Аднойчы яго нават у гестапа забралі і трымалі трое сутак. Ніхто яго па галаве там не гладзіў. Але бацька нічога ім не сказаў, яўрэяў не выдаў”.

“Калі яўрэяў вывезлі з гета, палякі сталі хадзіць туды па рэчы. Спачатку гэтыя лахманы і мэблю цягнулі проста, а потым немец стаў на ўваходзе і сказаў, што за кожную рэч трэба плаціць 50 пфенігаў. Многія хадзілі туды, але не наша сям’я”.



*Алена Якуцэвіч, 1940-я гг.*

## *Солтыс выратаваў Пярэселку*

У 1944 годзе немцы пры адступленні хацелі спаліць Пярэселку разам з яе жыхарамі. На абарону вёскі стаў солтыс Іван Кізюкевіч, бацька Алены.

“Людзей павыцягвалі з дамоў і сабралі ў адной пабудове. Забілі яе дошкамі. А мы з сям’ёй хаваліся ў сваім падвале. Людзі з таго дома сталі крычаць і маліцца. Мой бацька выйшаў да немцаў, бо ведаў іх мову, і пачаў гаварыць з салдатамі. Прадставіўся ён солтысам вёскі і патлумачыў ім, што за час вайны ў Пярэселцы ніводны немец не пацярпеў, жыхары плацілі падаткі, і ў ёй не было партызанаў і бандытаў. У выніку немцы не кранулі людзей, бацька здолеў выратаваць усю вёску. Пасля гутаркі з немцамі ён прыйшоў да людзей і сказаў, каб яны бралі падводы і з’язджалі ў лес”*.

Больш за тыдзень немцы стаялі ў вёсцы, абараняліся. У садзе Кізюкевічаў стаяла нямецкая кухня, а за хлявом – гарматы. “Нягледзячы на гэта, ніводная хата ў Пярэселцы не пацярпела. Усе снарады пралятталі. У выніку немцы адступілі за Нёман, а за імі ўслед – саветы. Але не атрымалася, немцы добра абараняліся. Людзі казалі, што Нёман увесь у крыві быў. Праз некалькі дзён рускія ўсё-такі пагналі немцаў”.

## *“Дачка ворага”*

Пасля вызвалення Гродна жыхароў Пярэселкі абклалі падаткамі – трэба было здаваць прадукты на войска.

* Паводле успамінаў Аліцыі Марыі Кізюкевіч, вяскоўцаў выратавала савецкая выведка.



*Алена Якуцэвіч, 2019 г.*

“Салдаты хадзілі па хатах. Зайшлі неяк да нас, думалі, што будзе шмат багацця, бо бацька быў солтысам. А ў нас лавы, стол і два крэслы дома былі. Паглядзелі, што няма чаго апісваць, і сышлі. У канцы 1944 года бацьку забралі ў турму. Ён нават двух месяцаў там не прабыў і памёр. Цела яго нам так і не выдалі, і не сказалі нават, дзе яго пахавалі. Я тройчы пісала ў розныя службы, але ніхто нам нічога не казаў. Толькі адзін сусед, які быў тады ў турме, бачыў бацьку ўжо мёртвага ў калідоры. Ён быў накрыты сваім жа кажухом. Яго не стала дзесьці 17 лютага 1945 года. Чаму ён памёр, цяпер ніхто ўжо мне не адкажа. Можа, ад праблем са страўнікам, а можа, яго збівалі ў турме. Пасля вайны мяне называлі дачкой ворага і паказвалі пальцам. Але ніхто з іх не выратаваў столькі людзей за час вайны, колькі паспеў мой бацька”.

# «У 44-М У МЯНЕ БЫЎ ЦЭЛЫ АРСЕНАЛ». ДЗЯЦІНСТВА Ў ВАЙНУ

## (Іосіф Компель)

*Іосіф Францавіч Компель нарадзіўся ў горадзе Высоке Мазавецке (Польшча) у 1935 годзе. Каталік. З 1936 года жыве ў Гродне.*

***Чакання лепшага жыцця не было***

Бацька Іосіфа Компеля з Ленінграда, рускі. У 1920-я гады ён прыехаў у Польшчу і прыняў каталіцызм. Маці з Бераставіцкага раёна, беларуска. Іосіфа пры нараджэнні таксама запісалі беларусам. У 1936 годзе яго бацькі пераехалі ў Гродна, з тых часоў ён і жыве ў гэтым горадзе.

“Спачатку мы жылі на вуліцы Жалезнай каля шклозавода, а ўжо калі я крыху падрос, бацькі перабраліся бліжэй да цэнтра, на вуліцу Базыльянскую. Бацька працаваў сам на сябе, быў шаўцом. Заказаў хапала. Маці была хатняй гаспадыняй, часам прыслужвала кухаркай у пана ці ў вайсковай частцы. А так практычна ўвесь час яна была дома і даглядала дзяцей. Нас у бацькоў было трое, і ўсе хлопчыкі. Я быў сярэднім”.

З прыходам савецкай улады ў 1939 годзе сям’я Компеляў перабралася на вуліцу Красінскага. Там яны пасяліліся ў прыбудове, падобнай да хлява, якая знаходзілася на тэрыторыі вялікага дома адной гродзенскай сям’і.

“Саветы гэтую сям’ю выслалі ў Сібір, бо тыя былі багатымі. Іх палічылі кулакамі. Нашай сям’і жылося пры паляках не вельмі добра. Калі ўжо прыйшлі саветы, бацькі сказалі нам, што ў Гродне аб’явіліся іншыя гаспадары. Але вось нейкага чакання на лепшае

жыццё ў нас не было. Як пры паляках, так і пры іншай уладзе дома мы размаўлялі на простай, тутэйшай мове".



*Іосіф Компель (справа) з малодшым братам і сябрам, 1940-я гг.*

### *Цягнулі з крамаў усё што можна*

У час нямецкай акупацыі Гродна Іосіф, як і многія іншыя хлапчукі, з цікаўнасцю назіраў за новымі салдатамі і тэхнікай. Для шасцігадовага хлапчука гэта ўжо была другая змена ўлады ў горадзе.

«Калі немцы напалі, памятаю, што першыя бомбы яны скінулі на вуліцу Пясочную, каля Фарнага касцёла, і яшчэ дзесьці там. У маёй памяці – немцы скідалі на парашутах нешта дзіўнае ў выглядзе пражэктара. Гэтая рэч доўга вісела і асвятляла ўвесь горад. Праз дзень або, можа, два мы з братамі выйшлі на вуліцу і ўжо каля дома ўбачылі першых немцаў, яны ішлі маршам і з песнямі.

У першыя дні акупацыі людзі ўсё што можна цягнулі з крамаў. Асабліва з вуліцы Нарутовіча*. Там былі раней яўрэйскія крамкі, і ўсе туды ішлі. Самі яўрэйчыкі, мабыць, адчувалі, што немцы прыйдуць, і ўцяклі. Але многіх потым злавілі і адправілі ў гета. А бралі ў крамах усё запар. Хто мех бульбы пацягне, хто макароны або якую-небудзь вопратку. Немцы дазвалялі першы час гэтым займацца і ўсё казалі: "Гуд, гуд". Я з братамі таксама бегаў у крамы. У адной панабіраў цукерак і печыва за пазуху. Адтуль пабеглі ў казармы на Грандзіцкай. Там да прыходу немцаў стаяла нейкая частка, але калі мы прыйшлі, нікога ўжо не было. Сталі ўсё абшукваць. У шафах знайшлі ад савецкай формы пятліцы і знакі адрознення. Узялі сабе і потым гуляліся ўсім гэтым».

* Сучасная вуліца Дзяржынскага.

### *“Мы былі бясстрашныя”*

Праз некалькі месяцаў пасля прыходу немцаў у горад сталі прыязджаць і “фраў” з Нямеччыны – “мадамы з дзецьмі”. Іосіфу здавалася, што гэта жонкі афіцэраў.

«Памятаю, як яны хадзілі па Нарутовіча з вялікімі сабакамі. А мы – мясцовыя пацаны – станавіліся, працягвалі руку і прасілі пфеніг. Памятаю, немец адзін сказаў: “Найн пфенігаў. Бом-бом”. Кінуў нам цукерак. Мы былі бясстрашныя тады: быццам бы і баяліся немцаў, але ўсё роўна да іх ішлі. Асабліва страшна было, калі бачылі рудавалосых або афіцэраў. Адзін мне так даў нагой, што я да гэтага часу адчуваю той боль. Мы, як звычайна, стаялі і прасілі ў іх, а афіцэр узяў і ўдарыў мяне па спіне ботам. Боты ў іх былі незвычайныя, яшчэ падкаваныя. Ад удару ў мяне аж скура лопнула на спіне».

На некаторы час Іосіфа і яго братоў у 1942 годзе забраў дзядзька ў вёску Кодзеўцы, якая знаходзілася недалёка ад мяжы з Літвой. Там яны думалі перачакаць вайну, але давялося вяртацца ў Гродна.

“Першы час было ціха, а пасля пачалося пекла. Дзядзька нечакана з’ехаў са сваёй сям’ёй у лес, нас пакінуў дома. Пачаўся бой. Вёска за суткі пераходзіла па тры-чатыры разы то да адных, то да іншых. Шмат людзей загінула. У горадзе такога не было, як там. А мы, бясстрашныя дзеці, ішлі пад кулі, і цудам у нас не патрапілі. У адзін момант я праваліўся ў торф, а брат быў на спіне ў мяне. Пашанцавала, што паспеў ухапіцца за нейкія галінкі. Так бы не выбраўся, засмактала б дрыгва нас”.

Бацька Іосіфа пры немцах працаваў у раёне сучаснай вуліцы Лідскай. Там быў лагер у былой вайсковай частцы, куды прывозілі вопратку і абутак з фронту, нават трохі зарабляў. Аднойчы ён прыгледзеў сабе боты. Пераабуўся ў іх, і адразу яго пабілі немцы. “Нельга ў іх было браць, усё строга. Маглі забіць. Гэта пры саветах за такое маглі і прэмію даць”.

“Памятаю, як немцы з Гродна пачыналі адыходзіць. У цэнтры горада тады было шмат салдат і тэхнікі. І вось у гэтай мітусні я заўважыў малаточак прыгожы. Ухапіўся, узяў яго, а немец адзін убачыў, дастаў пісталет і пачаў крычаць. Той, у якога я спрабаваў скрасці, прасіў, каб у мяне не стралялі. Пашанцавала, а маглі і забіць. З тым малаточкам прыйшоў дадому”.

### *Зброя была ў кожнага хлопца*

Летам 1944 года Іосіф Компель чарговы раз мог страціць жыццё. Ён з сябрамі збіраў зброю і боепрыпасы, якіх у горадзе на той момант было вельмі шмат.

"У 44-м у мяне быў цэлы арсенал зброі, палова хлява гэтым была запханая. Там і гранаты былі, пісталеты, аўтаматы нямецкія і савецкія, кулямёты. Усё што хочаш, толькі танка і гарматы не было. А іх, падбітых, хапала на палях, уздоўж Грандзіцкай. Іншы раз нясеш пісталет у хлеў і глядзіш, што ў цябе такі ўжо ёсць, то выкідаеш яго праз плот да суседзяў".

Пасля баявых дзеянняў сярод грудаў зброі на палях і некаторых вуліцах горада ляжалі і салдаты, і грамадзянскія. Целы гнілі, ніхто не спяшаўся іх хаваць. Дзеці забіралі рэчы і ў забітых.

«Мы нічога не баяліся і збіралі ўсё, што трэба было. Былі выпадкі, што здымаеш з забітага немца боты, як пацягнеш – і разам з ім палова ногі адрываецца. Частку цела выкідаеш, а боты забіраеш. Такі быў час.



*Від на Гарнізонны касцёл (Фару Вітаўта), 1944 г.*

Выявіў я неяк капсулу ад снарада. Забраў дадому і пачаў разбіраць. На печку паклаў – і як ірванула! Брата маленькага нават у акно адкінула, а мне адарвала пальцы, атрымаў розныя пашкоджанні. Праз некалькі дзён да мяне прыйшоў сусед з Грандзіцкай, старэйшы за мяне быў, называлі яго Козебрудка. Кажа мне такі: "Навошта палез? Калі не ўмееш, не бярыся". І што вы думаеце, праз некалькі дзён мне пацаны перадаюць, што Козебрудка падарваўся. Я да яго прыйшоў дадому, а ён з адарваным пальцам, параненай рукой і абгарэлым целам. Быў чорны, як малпа. Знявечыў сябе. Тады я яму сказаў: "Ніколі не смейся з іншых"».

### *Забіралі зброю на машыне*

"Не перадаць словамі, колькі розных эксперыментаў праводзілі са зброяй у дзяцінстве. І не толькі дзеці так рабілі, але і дарослыя. Адзін знаёмы мужык узяў капсулу ад патрона, пачысціў ад пораху, засыпаў тытуню, толькі зацягнуўся – і паляцеў…"

У дзяцінстве Іосіф страляў з розных відаў зброі і з сябрамі кідаў у Нёман гранаты – так глушылі рыбу.

"Бацькі нічога не ведалі, але такое было насамрэч. Толькі праз некалькі месяцаў, як немцы сышлі, на вуліцах горада стала ездзіць машына і спыняцца каля кожнага дома. Выходзілі салдаты, правяралі будынкі і адрыны. Прыехалі і да нас, усю зброю забралі. З нашай вуліцы Красінскага вывезлі цэлы грузавік. Трэба разумець трагедыю вайны ў Гродне, тады амаль у кожнага хлопца былі нейкія запасы, знойдзеныя пасля баёў".

### *"Не пажадаеш такога дзяцінства нікому"*

Нягледзячы на тое, што Іосіф у дзіцячыя гады страціў пальцы, у яго было хобі – музыка. А працаваў ён на адным з прадпрыемстваў Гродна.

«Ужо ў савецкія гады неяк патрапіў я ў камандзіроўку ў Маскву. Ну і пачалі ў мяне пытацца масквічы пра акупацыю, зброю, пальцы і падобнае. Я ім кажу: "Ну неяк жылі пры немцах, выжывалі". А яны мне ў адказ: "Вы, напэўна, дапамагалі немцам. Чаму



*Іосіф Компель, 2019 г.*

не ўцякалі?”. Гэта ім добра так было казаць і галаву дурыць мне, бо сядзелі ў тыле. Патрапілі б яны ў акупацыю, як мы, то па-іншаму казалі б. Колькі мірных гараджан загінула, колькі гродзенскіх дзяцей скалечылі сябе. Не пажадаеш такога дзяцінства нікому».

# ПАСЛЯ ВЫЗВАЛЕННЯ ПАЧАЛІСЯ ГВАЛТ І КРАДЗЯЖЫ
## (Алена Елізарава)

*Алена Сцяпанаўна Елізарава (Пілец) нарадзілася ў 1936 годзе ў Гродне на вуліцы Арлінай*. Праваслаўная. У 1955 годзе з’ехала ў Санкт-Пецярбург, але штогод прыязджае ў Гродна, каб даглядаць свой сямейны дом на левым беразе Нёмана.*

### *Бацькі перайшлі ў праваслаўе*

“Мы ўсе гродзенскія. Бацька ўдзельнічаў у Першай сусветнай вайне, быў у палоне ў немцаў. Там яго амаль не кармілі, лю-дзі паміралі з голаду. Калі ў яго пачаліся сур’ёзныя праблемы з нагамі, ён папрасіў адну багатую сям’ю выбраць яго ў якасці рабочага, на каленях прасіў. Яны дапамаглі яму, а ён потым дапамог ім. Бацька быў вельмі добрым шаўцом. Вярнуўся ў Гродна ён дзесьці ў 1919 годзе”.

Сям’я маці Алены таксама пацярпела ў час Першай сусветнай: іх вывезлі ў Омск. Пасля вайны яны таксама вярнуліся. Прыблізна ў 1920 годзе бацькі Алены Елізаравай пазнаёміліся і праз два гады ажаніліся. Вянчаліся яны ў царкве, нягледзячы на тое, што спачатку былі іншай веры: бацька Алены перайшоў у праваслаўе з каталіцызму, а маці – з грэка-каталікоў. Так сталася, бо бабуля Алены была праваслаўная і катэгарычна адмовілася ісці ў касцёл на службу, такім чынам прымусіўшы і бацькоў Алены прыняць праваслаўе.

“Калі маці выходзіла замуж, яна сказала бацьку, што будзе працаваць, а ён хай даглядае дзяцей. З 1922 года мама ўладкавалася

* Польск. Orla, сучасная вуліца Аксёнава.



*Бацькі Алены Елізаравай, 1930-я гг.*

на тытунёвую фабрыку і працавала там упакоўшчыцай больш за 40 гадоў. Бацька працаваў дома, быў шаўцом, у яго заўсёды было па два вучні. Дома ён даглядаў нас, а нас было чацвёра: два старэйшыя браты, я і малодшы брат".

### *Дома на рускай, на вуліцах – на польскай*

У міжваенны час у Гродне жылося добра тым, хто быў працаўладкаваны. Сям'я Алены жыла небагата, але на жыццё не скардзілася.

"У мамы і ў таты быў добры заробак. Маці расказвала, што пры тытунёвай фабрыцы, дзе яна працавала, быў садок для дзяцей, там жа для сем'яў давалі пуцёўкі на адпачынак. У нас дома заўсёды была ежа і добрая мэбля. Мелі вялікую бібліятэку. Таксама мы хадзілі ў горад у крамы, дзе было вялікае багацце тавараў і прадуктаў. Усё, чаго душа пажадае, галоўнае купляй. Мама казала, што пры паляках нам жылося добра, галоўнае было працаваць. У цэлым да вайны людзі ў Гродне жылі вельмі дружна. Без розніцы – ты паляк, яўрэй ці беларус".

У сям'і Алены добра размаўлялі на рускай, часам і дома маглі гаварыць на гэтай мове, а на вуліцы пераходзілі на польскую.

### *Бацька знік без вестак*

У 1939 годзе Германія напала на Польшчу, пачалася Другая сусветная вайна. Бацьку Алены мабілізавалі ў польскую армію, а яго сям'я засталася ў Гродне.

"Бацьку забралі на вайну 1 верасня, я не памятаю, як ён сыходзіў, толькі ва ўспамінах бачу яго твар".

Калі пачалася вайна з немцамі, у Гродна неўзабаве ўвайшлі рускія. Да такога нечаканага павароту маці Алены паставілася нармальна, пэўны час яна жыла ў Расіі і думала, што жыць будзе добра. Яна і за саветамі працягвала працаваць на тытунёвай фабрыцы, карміла сям'ю.

"У 1940 годзе ў Гродне быў голад. Памятаю, як аднойчы маці прынесла дадому хлеб і падзяліла на ўсю сям'ю. Малодшы брат з'еў свой кавалак і расплакаўся, сказаў, што яшчэ хоча. У старэйшага

*Імянны спіс вайскоўцаў, зніклых без вестак.*
*Бацька Алены Сцяпан Пілец пад № 2*

брата пацяклі слёзы, і ён аддаў яму свой кавалак. Мама казала, што ў 1940 годзе быў дрэнны ўраджай, таму з харчаваннем было складана. Таксама ў гэтым годзе да нас прыехалі бацькі маці, мая другая бабуля. Праз савецка-польскую мяжу яна не магла раней прыехаць".

Калі стала зразумела, што Польшча пацярпела паразу ў вайне з немцамі, многія салдаты сталі вяртацца дадому. Бацькі Алены не было, як і вестак пра яго гібель. У 1940 годзе маці Алены стала яго шукаць, спачатку праз Чырвоны Крыж. У Маскве адказвалі, што не ведаюць пра яго месцазнаходжанне, у Германіі таксама не ведалі.

"Пасля вызвалення Гродна ў ліпені 1944 года мама зноў стала шукаць мужа, яна казала, што ён не мог кінуць сваю сям'ю, бо вельмі любіў яе. Пасля чарговага ліста ёй адказала Масква. У лісце гаварылася, што яе муж – наш бацька – 6 снежня 1944 года прапаў без вестак. У мяне дагэтуль пытанне, дзе мог знаходзіцца польскі салдат чатыры гады. На яго ніхто так і не даў адказу. Я думаю, ён быў дзесьці ў Сібіры, а калі пачалося наступленне і вызваленне, яго ўзялі на фронт, як і іншых зняволеных".

### *Немцы сказалі выходзіць на працу*

У 1941 годзе ў час нямецкіх налётаў на Гродна сям'я Алены хавалася ў сваім падвале. Там жа хаваліся і суседзі з іх вуліцы.

«Як немцы пачалі бамбіць горад, я не памятаю, але мы тады ўжо сядзелі ў падвале. Ён у нас быў добры, каменны. Бацька рабіў. Памятаю, што ў нашым падвале хаваўся бацюшка са сваёй жонкай і сынам. Яны жылі якраз паміж мастамі, а гэтую тэрыторыю моцна бамбілі. Жонка бацюшкі казала: "Хутка прыйдуць рускія і немцы сыдуць. Будзе ціха і спакойна". Немцы затрымаліся ў Гродне на чатыры гады».

На наступны дзень пасля прыходу немцаў работнікам тытунёвай фабрыкі сказалі выходзіць на працу. Прыйшлі і па маці Алены. Яна працягвала працаваць упакоўшчыцай, за працу ёй плацілі.

«Яна была дасведчанай супрацоўніцай: толькі засоўвала руку па папяросы – і адразу ж дакладна дзясятку ў пачак клала. Як і трэба было. За палякамі яе называлі "малая машына", за рускімі – "польская машына". Каштоўны працаўнік пры любой уладзе. Ніколі яна не выносіла з фабрыкі папяросы, цаніла сваё працоўнае месца».



*Гродзенская тытунёвая фабрыка падчас нямецкай акупацыі, 1940-я гг.*

### *Не змаглі схаваць маленькую яўрэйку*

Маці Алены Елізаравай падчас нямецкай акупацыі суседзі звалі “жыдоўскай маткай”, бо яна дапамагала сваім калегам з працы, якіх забралі ў гета.

“Яна насіла ім ежу, пакуль гэта можна было рабіць, а пасля перадавала прадукты праз ахоўнікаў. А так да гета было небяспечна падыходзіць. Аднойчы яе калега прыбегла з дзіцём да нас дадому. Уся чарнявая і курчавая, прасіла дачку схаваць. А мы былі ўсе светлыя, у нас валасы саламянага колеру, а чым пафарбаваць маленькую жыдоўку, нават і не ведалі. Мы не маглі яе ўзяць, бо яна вельмі адрознівалася ад нас. Мама казала знаёмай, што калі возьме яе, то не зможа выратаваць ні яе, ні сваю сям’ю. Яны сышлі. Пасля вайны мама часта ўспамінала гэтую гісторыю і плакала, што не магла ім дапамагчы. Што стала з гэтай жанчынай і яе дзіцём, я нават і не ведаю”.

### *“Як родны сын мог паскардзіцца немцам на сваю маці?”*

У час нямецкай акупацыі з бліжэйшых вёсак у горад прыязджалі людзі і прапаноўвалі па хатах прадукты: сыры, смятану, яйкі, хлеб і многае іншае. Мясцовыя куплялі або мянялі рэчы на прадукты. Так купляла і сям’я Алены. Часам прывозілі мяса, у асноўным свініну. Калі б немцы пра гэта даведаліся, пакаралі б усіх: і тых, хто прадаваў, і тых, хто купляў. Мяса на іх вуліцы заўсёды разбіралі.

“Аднойчы быў выпадак, неяк прывезлі мяса. Адна жанчына купіла некалькі кілаграмаў, занесла дадому. У нейкі момант у яе адбыўся канфлікт з сынам, не ведаю, калі менавіта і чаму. Але ён чамусьці вырашыў адпомсціць ёй і пайшоў у камендатуру скардзіцца, што яна мяса купляе нелегальна. Яго сябар вырашыў сказаць пра гэты выпадак сваёй маці, і яна прыбегла да суседкі і расказала, што яе сын пайшоў па немцаў. Яны хуценька ўсё вычысцілі і вымылі ў доме, мяса схавалі. Немцы тым часам хлопца пакінулі ў камендатуры, а самі прыйшлі правяраць дом, але нічога не знайшлі. Выклікалі яго маці. Яна прыйшла ў камендатуру, а там ужо афіцэр быў з яе сынам. Правёў з імі гутарку і ў выніку маці адправіў дадому, а яе сына пакінуў. Маладога хлопца так збілі, што ён ледзь дадому прыпоўз. Немцы не маглі зразумець аднаго: як родны сын мог паскардзіцца на сваю маці?”

Немцаў баяліся, а яны ўвесь час хадзілі вуліцай, дзе жыла Алена. Асабліва хваляваліся яе старэйшыя браты, бо іх маглі вывезці ў Германію. Некалькі дзяўчат з іх вуліцы так забралі туды на працы. “Але так проста немцы не чапалі людзей. Дарэчы, у нас у доме на гарышчы хаваўся польскі машыніст, потым яго маці прыйшла да нас жыць. Чаму ён хаваўся ад немцаў, я так і не даведалася”.

### *У Нёмане вылавілі мёртвага немца*

Бліжэй да вызвалення Гродна ў ліпені 1944 года ў доме, дзе жыла Алена, было небяспечна знаходзіцца. Нямецкія самалёты часта лямалі каля Нёмана, стралялі і скідалі снарады.

«Два тыдні рускія стаялі на адным беразе, а немцы на іншым. Савецкія войскі не маглі ніяк фарсіраваць Нёман. І зноў мы хаваліся ў падвале, які рабіў бацька. У адзін дзень неяк сціхла стральба, мы выйшлі на вуліцу і ўбачылі савецкіх салдат. Стаялі з братам і

казалі ім: “Здравствуйте! Здравствуйте!”. Зайшлі ў лес, дзе стаялі нямецкія часткі. Знайшлі там нейкія пакеты, якія можна было намачыць вадой, а пасля яны былі як грэлка. Забралі. Немцы пасля сябе пакінулі шмат смецця, з часам яго прыбіралі».

“Праз некалькі дзён мы ўжо спакойна шпацыравалі. Пайшлі нават на пляж купацца, а ён быў недалёка ад нашага дома. Купаемся, і раптам хлапчукі крычаць, што немец мёртвы плыве. Вылавілі яго каля берага. Нас было тады чацвёра ці пяцёра, дакладна не памятаю. Прынеслі з дому рыдлёўкі і пахавалі немца на пляжы. Усё роўна, што гэта быў немец, у першую чаргу – чалавек.

Бліжэй да восені недалёка ад лесу мы ўбачылі ўжо жывога немца. Ён быў адзін. Мы спалохаліся і сталі ўцякаць, ён таксама ўцёк, бо нас спалохаўся. Напэўна, ён заблукаў і не паспеў адступіць са сваімі”.

### *Шмат палонных немцаў*

Пасля вайны некаторы час у Гродне знаходзіліся палонныя немцы, іх прыцягвалі да разбору зруйнаваных будынкаў.

“Каля нашай вуліцы немцы адбудоўвалі тартак*. Палонныя адпрацоўвалі свой працоўны час і іх адпускалі. Прызначалі пэўны час, у якім ім трэба было з’явіцца. Калі нехта прыходзіў пазней ці наогул не з’яўляўся, то палонных каралі або больш не адпускалі. Немцы спакойна хадзілі па хатах на нашай вуліцы і прасілі ежу. Мама дапамагала, чым магла. Памятаю, адзін немец прыйшоў да нас і расплакаўся, паказваў фатаграфію сваёй сям’і. Куды потым вывезлі гэтых палонных, я нават і не ведаю. Але ў горадзе іх было вельмі шмат”.

### *Маці баялася выпускаць дзяцей на вуліцу*

Праз вялікую колькасць вайскоўцаў у горадзе ўзрасла злачыннасць, пакутавалі мясцовыя жыхары.

«Савецкія вызваліцелі ў першы час што хацелі, то і рабілі ў Гродне. Такое цяжка казаць, але былі ўсякія выпадкі пасля вызвалення горада. Адна 60-гадовая жанчына з нашай вуліцы пайшла ў суседні лес па грыбы, злавіў яе нейкі рускі салдат і згвалціў. Прыбегла да нас у двор і пачала горка-горка плакаць. Мама яе доўга слухала і суцяшала, а потым сказала ёй: “Ну чаго равеш? Паспрабавала яшчэ

* Ад tartak (польск.) – лесапільня.



*Алена Елізарава, 2019 г.*

разок на старасць гадоў”. Я тады не разумела нічога, але словы яе запомніла на ўсё жыццё. Ужо дзесьці ў 1945 годзе гэтую жанчыну і яе сям’ю вывезлі ў Сібір. Там яна і памерла, а яе дзяцей рэабілітавалі, і яны вярнуліся ў Гродна».

Пасля выпадку са згвалтаваннем маці Алены баялася і не выпускала дзяцей на вуліцу. Неяк Алена была паблізу свайго дома і ўбачыла ўнутры двух салдат. “Яны трымалі рэчы майго бацькі і братоў. Як пабачылі мяне, то ўсё пакідалі і праз плот суседскі ўцяклі. Мама сказала, што яны паспелі забраць з сабой толькі адну алюмініевую міску з кашай. Потым мы яе знайшлі побач з другім домам. Тады ў горадзе было шмат крадзяжоў, салдаты рабавалі. Праз нейкі час такія злачынствы спыніліся”.

# ПРАЦАВАЎ У ГЕТА І ДАПАМАГАЎ ЯЎРЭЯМ

## (Чэслаў Змейка)

*Чэслаў Адольфавіч Змейка нарадзіўся ў 1926 годзе на вуліцы Францішканскай*. Каталік. Усё жыццё пражыў у Гродне. Памёр у красавіку 2019 года.*

“Я нарадзіўся ў доме, які знаходзіўся каля францішканскага касцёла. Хадзілі ў яго часта. У 1930-х гадах мае бацькі разышліся. Тата паехаў у Варшаву, а мама са мной і сястрой засталася ў Гродне. Жыць было цяжка, бацька не дапамагаў. З намі жыў дзед, бацька маці, і мы трымалі вялікую гаспадарку. Мама пры палякаx адзін час працавала прадаўцом у нейкай краме, а пасля звольнілася і стала дома глядзець за намі.

Я вучыўся ў школе імя Адама Міцкевіча, яна знаходзілася на беразе Нёмана. Вучыўся бясплатна, скончыў сем класаў. Калі прыйшлі саветы, яны ў мяне два класы адкінулі і прымусілі пайсці зноў у школу. Толькі ўжо вучыцца прыйшлося на рускай мове. Нічога, хутка прывыклі. Як ніяк дзяды размаўлялі на гэтай мове ці на простай, сённяшняй беларускай”.

### *Праца ў гета*

Вераснёўскія падзеі 1939 года абышлі Чэслава бокам. З яго слоў, рускія хутка занялі горад – прыйшлі з танкамі, і вайны як такой у горадзе не было.

“Была перастрэлка нейкая, але больш нічога я не памятаю. У маёй памяці больш за ўсё адклаліся моманты з нямецкай акупа-

* Сёння на месцы гэтай вуліцы гарадская клінічная бальніца № 2.



*Чэслаў з сяброўкай
у цэнтры Гродна, 1930-я гг.*



*Чэслаў Змейка пасля першай
камуніі, 1930-я гг.*

цыяй 1940-х гадоў. Памятаю, што ў дзень пачатку вайны раніцай усталі і пачулі, як ад мяжы пачаліся стрэлы. Пасля на матацыклах немцы прыехалі і на нашу вуліцу.

Як яны ўвайшлі ў горад, мяне маглі адразу вывезці на працы ў Нямеччыну, але маці выправіла ў маім пасведчанні аб нараджэнні дату з 1926 на 1928 год. Так я застаўся ў Гродне".

Каб Чэслаў мог дапамагаць маці, сусед уладкаваў яго на завод "Індустрыверк" на тэрыторыі гета. Яно цягнулася ад Віленскай, уздоўж абрыву ракі і да пажарнай вежы. Завод месціўся ў былой навучальнай установе на сучаснай вуліцы Вялікая Траецкая, побач з універмагам. Хлопец працаваў у інструментальным цэху – выдаваў інструменты. Сам завод працаваў на фронт, толькі ў летні перыяд там рамантавалі сельгасмашыны.

"Побач са мной працавалі яўрэі – вязні гета, хтосьці з іх быў токарам. З яўрэямі я сябраваў яшчэ да вайны, яны жылі побач са мной і на святы запрашалі да сябе, мацой частавалі. У выпадку неабходнасці я дапамагаў людзям у гета. Гэта было нармальнай з'явай, бо працавалі разам. Калі мяне прасілі нешта прынесці з-за межаў гета,



*Бацькі Чэслава, 1930-я гг.*

я гэта прыносіў. Вядома, маглі расстраляць, але мы маладыя былі, вось і рызыкавалі. У гета я не бачыў, каб немцы расстрэльвалі людзей, іх, напэўна, ноччу вывозілі.

Чыста па-хлапчукоўску мы глядзелі на яўрэйскіх дзяўчат з гета, абмяркоўвалі – вунь якая прыгожанькая пайшла, цікавая, а вунь гэтая паглядзі якая, і падобнае. Ніхто не ўсведамляў, што ў яўрэяў будзе такі канец".

### *Калі б спусцілі штаны, то расстралялі б*

У Чэслава была адна прыкмета, паводле якой яго маглі прыняць за яўрэя. Праз медыцынскія паказанні ён быў абрэзаны. Гэты факт мог згуляць з ім злы жарт.

"Было страшна. Маглі затрымаць і праверыць. Неяк пасля камендацкай гадзіны мы вярталіся дадому з працы, і мяне спынілі для праверкі. А я чарнявы быў такі, як яўрэй, а калі б яшчэ штаны спусцілі, то ўсё – расстралялі б на месцы, бо знаходзіўся за межамі гета. Але пранесла. Праверылі дакументы і адпусцілі. Тады ў час акупацыі смерць была на кожным кроку".



*Яўрэйскія дзяўчаты ля гандлёвай школы, 1920–30-я гг.*



*Чэслаў Змейка, 2018 г.*

### *Прывёз першы экскаватар для горада*

Працаваў гродзенец на заводзе "Індустрыверк" амаль да апошняга. Але ў ліпені 1944 года, калі пачалося бамбаванне горада і савецкія войскі былі на подступах да Гродна, ён не выйшаў на працу.

"Я схаваўся, а калі б выйшаў, то сапраўды б пагналі разам з войскамі на захад. Немцы абсталяванне з завода вывозілі і працоўных маглі забраць разам. Я хаваўся ў вёсцы недалёка ад горада і бачыў, як немцы ўцякалі. Мы тады ў склепе сядзелі, і некалькі нямецкіх салдат таксама забягалі хавацца. Пасля таго як немцы сышлі, я вярнуўся ў горад. Цэнтр Гродна быў моцна разбураны. Асабліва пацярпелі дамы ад Старога моста да плошчы. Я пайшоў працаваць на будоўлю. У 1945 годзе адвучыўся на кіроўцу і ў 1950-я гады сам ездзіў у Маскву па першы экскаватар для горада".

# «МЫ З БАЦЬКАМ БЫЛІ ПЛЫТАГОНАМІ»

## (Рышард Далькевіч)

*Рышард Віктаравіч Далькевіч нарадзіўся ў 1933 годзе ў Гродне на вуліцы Прыгараднай. Каталік. Усё жыццё пражыў у Гродне. Памёр у кастрычніку 2019 года.*

***“Нёман быў іншы”***

Рышард Далькевіч нарадзіўся на вуліцы Прыгараднай, недалёка ад могілак і Нёмана. Паводле яго ўспамінаў, там жылі адны палякі. Каля дома была лесапільня, дзе працаваў бацька Рышарда.



*Плытагоны на Нёмане, пач. XX ст.*

“Неяк яго запрасілі плыты ганяць, бо ён добра ведаў Нёман, фарватар ракі. Ён і мяне часта браў на працу. На плытах з бярвеннем мы рабілі буданы з саломы і плылі ракой, бывала, і па некалькі дзён. Калі я быў вельмі маленькі, ён забараняў мне выходзіць з гэтага будана, баяўся за мяне. А калі я ўжо крыху падрос, то дарогай мы лавілі рыбу, любаваліся прыродай. Раней Нёман быў іншы – глыбакаводны, і рыбы там была вялікая колькасць, на любы густ”.

Рышард Далькевіч распавядае, што ў 1930-я гады яго сям’я жыла добра ў параўнанні з суседзямі. Усё гэта дзякуючы бацьку і Нёману, які быў побач з домам. Яны загружаліся бярвёнамі ў Гродне на левым беразе і, бывала, плылі да Друскенік.

“Аднойчы быў момант, што нас абакралі. Не ўпільнавалі сваіх рэчаў, і такое бывала. А былі моманты, што прыходзілася дзяліцца дрэвам з людзьмі. Напрыклад, калі плылі праз вёскі, людзі прасілі адвязаць некалькі калодак. Бацька дапамагаў за якое-небудзь узнагароджанне. Было гэта нелегальна, але людзям трэба было дапамагаць, асабліва пасля вайны. У летні перыяд бацька працаваў з лесам, а ў зімовы ішоў на піўзавод. Мама, як і кожная звычайная ў той час жанчына, была хатняй гаспадыняй. Займалася дзецьмі і гаспадаркай”.

### *“Пра Тадзіка Ясінскага – праўдзівая гісторыя”*

Пры першых саветах у 1939 годзе бацька Рышарда працягваў займацца лесам на Нёмане. Але жыць Далькевічам стала больш складана.

“Савецкую ўладу ў Гродне наша сям’я не сустракала. Гараджане самі зладзілі абарону. Тады была перастрэлка з двух берагоў. Маладыя гродзенскія пацаны ішлі на танкі. Аднаго такога хлопца, Тадзіка Ясінскага, савецкія салдаты прывязалі на танк – як шчыт. Гэта была праўдзівая гісторыя*. Хлапчук загінуў, і яго пахавалі на каталіц-

* Тадзік Ясінскі – 13-гадовы хлопец, які стаў адным з сімвалаў абароны Гродна ў верасні 1939 г. Паводле самай папулярнай версіі, Тадзіка схапілі савецкія жаўнеры, калі ён спрабаваў кінуць у танк бутэльку з запальнай сумессю, і прывязалі да танка. Ён быў выратаваны абаронцамі горада, але памёр ад ран. Дакументальна пацверджана толькі існаванне хлопца такога ўзросту і з падобнай біяграфіяй. Абставіны смерці застаюцца спрэчнымі, а ўся гісторыя Ясінскага грунтуецца перш за ўсё на ўспамінах і створанай гераічнай традыцыі.

кіх могілках*. Выбару не было, прыходзілася жыць гродзенцам за першымі саветамі, чакалі лепшага жыцця, але хутка пачалася вайна з немцамі".



*Рышард Далькевіч каля бернардзінскага касцёла, 1930-я гг.*

## *Цукровыя таблеткі ад немца*

Гродзенец кажа, што немцы прыйшлі ў горад нечакана для многіх. Не паспелі мясцовыя звыкнуць да саветаў, як у горадзе з'явілася новая ўлада.

"Разам з немцамі ў Гродне былі іспанцы. Гэта я добра памятаю, яны яшчэ гралі на гармоніках. Неяк нам, пацанам, давалі шчоткі, каб мы грывы іх коней часалі".

У 1940-х гадах бацька Рышарда працягваў сплаўляць лес. Толькі на рацэ было ўжо больш праверак, немцы асцярожнічалі, баяліся, каб на плытах не перавозілі выбухоўку або кантрабанду.

Праз некаторы час пасля прыходу немцаў нехта расказаў ім, што бацька Рышарда раней працаваў на піўзаводзе. Яму загадалі вярнуцца туды на працу, прыйшлося зноў стаць піваварам. "Я часта браў санкі і хадзіў туды да яго, а ён мне ў вядро наліваў рэшткі ад піва. Я вёз гэта дадому, а вечарам пілі ў сямейным коле".

За немцамі не дазвалялі трымаць гаспадарку ў двары, таму часам было цяжка з ежай. Даводзілася лавіць рыбу, добра, што Нёман быў за сто метраў ад дома. Рышард часта прыносіў маці дробную рыбу, каб яна смажыла.

"Памятаю, неяк выйшаў я да Нёмана з вудай, а на беразе немец стаяў з сяброўкай. Паклікаў ён мяне і папрасіў вуду. Я яму паказаў, як закідваць. А ён як замахнуўся, так і зачапіў сваёй паненцы сукен-

* Дакладнае месца пахавання невядомае, на могілках толькі кенатаф, сімвалічная магіла.



*Сям'я Далькевічаў (Рышард у цэнтры), 1930-я гг.*



*Гродзенцы адпачываюць пасля працы з лёдам на піўзаводзе, 1940-я гг.*

ку, яна апынулася ў яе на галаве. Жанчына крычала, а ён смяяўся. А я ж нічога дрэннага не зрабіў у гэтай сітуацыі, не вінаваты, у мяне толькі папрасілі вуду. Немец паклікаў мяне да сябе і даў скрыначку з чымсьці салодкім у выглядзе пілюль. Я спачатку не зразумеў, што гэта. Пакінуў вуду на беразе і пабег на эмоцыях дадому. Кажу маме – во, немец даў мне, а яна пачала казаць, што есці нельга – можа быць атрутна. Але ў выніку мы гэтыя пілюлі або, як іх тады называлі, пігулкі*, напэўна, тыдні два з гарбатай пілі. Гэта былі сапраўдныя цукровыя таблеткі, а да гэтага мы бачылі толькі сахарын".

***Кармілі вязняў гета***

Агулам Рышард не памятае нічога дрэннага пра немцаў, за выключэннем толькі некаторых момантаў.

"У час акупацыі было складана гродзенцам, асабліва яўрэям. Іх забралі ў гета. Адно было недалёка ад нас, на сучаснай вуліцы Антонава. Плот праходзіў якраз каля могілак. Неяк немцы выдалі ўказ,

* Pigułki (польск.) – пілюлі.



*Рышард Далькевіч, 2019 г.*

каб мясцовыя дапамаглі вязням. Мы дапамагалі. Памятаю, маці наварыла неяк паўвядра гароху, і мы з ёй прынеслі пад гета. Падышла нейкая яўрэйка, зняла завушніцы ці гадзіннік, не памятаю ўжо, і дала нам у знак падзякі. Пасля гета расфармавалі і ўсіх яўрэяў вывезлі. Сёння ў Гродне толькі адна памятная шыльда і толькі каля ўвахода ў другое гета, на Замкавай".

Пасля вайны ў горадзе засталося шмат зброі, некаторыя мясцовыя яе збіралі. У Рышарда Далькевіча быў цэлы чамадан гранат, якімі ён глушыў рыбу на Нёмане – і не паспяваў збіраць, так яе было шмат. Таксама яны з бацькам працягвалі сплаўляць лес Нёманам.

У 1946 годзе 13-гадовы Рышард пайшоў вучыцца ў польскую школу "батаруўку" (школа імя Стэфана Баторыя)*, але пасля яе расфармавалі і перавялі хлопца ў школу на вуліцу Паўночную.

* Сёння ў гэтым будынку на вул. Леніна знаходзіцца Гуманітарны каледж.

# «ГОРАД МАЙГО ЮНАЦТВА». ЖЫХАРКА СЛУПСКА ЎСПАМІНАЕ ГРОДНА І ЧАМУ ПАКІНУЛА ЯГО
## (Леакадзія Узнаньска)

*Леакадзія Станіславаўна Узнаньска (Сікорска) нарадзілася ў 1925 годзе ў Сувалках. У 1932 годзе прыехала з бацькамі ў Гродна. Каталічка. Пакінула Гродна з сям'ёй у 1945 годзе.*

### *Лазілі праз плот, каб паглядзець фільмы з Чаплінам*

"У Гродна мы пераехалі, калі мне было сем гадоў. Жылі на вуліцы Падольнай*, паміж каталіцкай і праваслаўнай часткамі [могілак]. Бацька быў сталяром. Працаваў сам на сябе – рабіў мэблю, рэстаўраваў фартэпіяна і іншае. Ён быў на 25 гадоў старэйшы за маму. Калі ён мяне праводзіў да школы, то каляжанкі думалі, што гэта мой дзядуля. Маці да 1939 года была хатняй гаспадыняй, даглядала мяне і брата".

Леакадзія вучылася пры бернардзінскім касцёле. За ім быў кляштар, дзе зрабілі школу. У клас Леакадзіі трэба было спускацца прыступкамі, быццам у падзямелле. У гэтай школе яна скончыла сем класаў.

Да вайны Гродна ёй вельмі падабаўся. Калі яна прыязджала сюды ў 2000-я, многае ўсё яшчэ было ёй знаёма.

«Гродна – гэта горад майго юнацтва. Мы жылі небагата, але бацькі стараліся нас усім забяспечыць. Памятаю, як любілі шпацыраваць над Нёманам, выязджаць за горад на маёўкі. Сябравалі

* Магчыма, маецца на ўвазе тагачасная вуліца Цмэнтарная (суч. 4-ы Падольны завулак), побач з Падольнай.

з яўрэямі, у мяне нават сяброўкі былі сярод іх. Хадзілі да іх у краму і бралі тавар "на картку". У тыя гады ў цэнтры было шмат розных крамаў. Памятаю, як у мануфактуру на плошчы Баторыя хадзілі. Там быў вялікі выбар.

Хадзілі ў кіно "Пацеха" на вуліцы Ажэшкі, там можна было глядзець два фільмы за 25 грошаў, але часам было магчыма і бясплатна, калі праз плот пралезці. Калі грошай не было і паказвалі які-небудзь цікавы фільм з Чаплінам, то даводзілася карыстацца такім спосабам. Былі ў Гродне кінатэатры "Апола" на Дамініканскай і на Брыгіцкай. У апошнім не толькі паказвалі фільмы, але і выступалі артысты».



*Леакадзія Узнаньска (злева) пасля першай камуніі, 1930-я гг.*

### *"Крыжы замянілі партрэтамі Сталіна"*

У 1939 годзе Леакадзія скончыла сем класаў бернардзінскай школы і паступіла ў гандлёвую школу*. Але скончыць яе ўжо не змагла – у Гродне памянялася ўлада.

«Распачалася вайна, мы думалі, у Гродна ўвойдуць немцы, але нечакана прыйшлі рускія. Мы былі ўражаны. Мой брат якраз перад вайной быў у "юнаках"** на Ерусалімскай. Ён удзельнічаў у абароне горада. У тыя дні нехта прыйшоў на Падольную і сказаў нам, што вядуць расстрэльваць людзей на Сабачую горку***. Мы з маці пабеглі

* Верагодней за ўсё, маецца на ўвазе Купецкая гімназія.

** Установа, дзе рыхтавалі моладзь да вайсковай службы.

*** Сабачая горка – пагорак каля сучаснай вуліцы Магістральнай, недалёка ад скрыжавання з Азёрскай шашой. Часам можна сустрэць назву Паляўнічая горка (польск. Myśliwska górka). Паходжанне назвы невядомае: паводле адной версіі, там паляваў з сабакамі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, паводле іншай, там былі сабачыя могілкі.

туды, а там – мноства людзей расстраляных: вайскоўцы і моладзь. Каб апазнаць брата, мы сталі пераварочваць целы. Плакалі і шукалі. Там былі не толькі мы, але і многія іншыя».



*Леакадзія Узнаньска, 1940-я гг.*

Брата Леакадзіі Сікорскія не знайшлі. Як выявілася пазней, ён уцёк. Быў у Рызе, а неўзабаве вярнуўся дадому. Ці закапалі расстраляных гродзенцаў на Сабачай горцы, жанчыне невядома. Целы маглі вывезці ў іншае месца.

“У гэтым жа годзе я здала экзамен у гандлёвую школу на Вітальдовай. Рыхтавалася ўжо пайсці з 1 верасня на заняткі – пачалася вайна. Пайшла праз некалькі месяцаў. Калі прыйшлі саветы, навучанне спачатку праходзіла на польскай, але пры гэтым пачалі вывучаць беларускую, рускую і нямецкую мовы. У 1940 годзе мяне ўжо пераводзяць у пяты клас, каб вывучаць новую праграму, толькі на рускай. У класах крыжы замянілі партрэтамі Сталіна”.

У 1939 годзе некаторыя гродзенцы думалі, што вернецца польскае войска і пагоніць саветы.

“Мы верылі ў гэта, але гэтага не адбылося. Пры саветах у крамах нічога не было, але людзі не паміралі з голаду. Проста не было такой разнастайнасці, як да вайны. У 1939 годзе маці пайшла працаваць на чыгунку – мыла вагоны. Была вельмі цяжкая праца. Яшчэ ў яе былі складанасці праз яе вядомае прозвішча – Сікорска. Саветы думалі, што яна сваячка вядомага палітыка*. Прыходзіла дадому заплаканая. Начальнік станцыі Маскаленка помсціў ёй за Сікорскага, казаў, што яна яго кузіна. А ў нас нічога не было агульнага з гэтым чалавекам. Проста мелі адно прозвішча”.

---

* Уладзіслаў Сікорскі (1881–1943) – польскі палітык і вайсковец, генерал. Пасля пачатку Другой сусветнай быў прэм’ер-міністрам польскага ўрада ў выгнанні і галоўнакамандуючым войск.

### *Прыйшлі немцы. “Прыгожыя хлопцы, як халера”*

З прыходам немцаў у Гродна Сікорскія перасяліліся на вуліцу Ажэшкі. І Леакадзія, і яе маці працавалі, каб пракарміць сям’ю.

“Калі прыйшлі немцы, я з сяброўкамі і сёстрамі выйшла пад чыгуначны мост, каб убачыць салдат. Жылі яшчэ тады на Падольнай. Цікава было паглядзець на іх. Нехта ехаў на машынах, нехта ішоў пешшу. Прыгожыя хлопцы, як халера. Чысцюткія, не параўнаць з савецкімі салдатамі, якія яшчэ нядаўна ўцякалі з горада. Немцы нас пачаставалі шакаладам. Хтосьці нават з кветкамі сустракаў салдат. Прыйшлі дадому, і мама спытала: ну як там немцы? А мы пачалі распавядаць, што ўбачылі прыгожых маладых хлопцаў”.

У 1941 годзе сям’я перасялілася з Падольнай у вялікі дом на Ажэшкі, каля сабора*. “Маці прыйшла дадому і сказала, што знайшла вольную кватэру. У гэтым раёне горада я нячаста была. Памятаю толькі, што ў сабор часам заходзіла, падабалася, як там спявалі. Калі маці сказала, што туды перасяляемся, то ўзрадавалася. Прыйшлі, там былі некаторыя рэчы, магчыма, жылі яўрэі, якіх забралі ў гета”.

### *Падчас акупацыі працавала ў краме*

У перыяд нямецкай акупацыі Леакадзію два разы ледзь не вывезі на прымусовыя працы ў Германію.

“Немцы адразу ўсталявалі ў горадзе свае законы – яўрэяў прымусілі насіць зоркі, а потым у гета іх забралі. Да мясцовых палякаў па-featureрознаму ставіліся. Неяк на плошчы Баторыя мяне злавілі салдаты і забралі ў машыну. Тады моладзь спынялі ў горадзе і вывозілі на працы ў Нямеччыну. Дзякуй Богу, што саветы ў 1940 годзе прымушалі нас вучыць нямецкую мову. Я ў машыне загаварыла з немцам на яго мове, і ён мяне адпусціў.

У другі раз, калі мяне хацелі вывезці, мяне выратавала жонка немца, які трымаў фабрыку, дзе рабілі рэчы на фронт. Яны мяне запісалі да сябе як працоўную”.

Маці Леакадзіі пры немцах гандлявала ў краме гароднінай, а ёй самой прапанавалі працу ў краме на Дамініканскай. Немцы плацілі, і на жыццё хапала.

* Сёння гэта Ажэшкі, 29.



*У краме на Дамініканскай (Леакадзія злева), 1942 г.*

Леакадзія двойчы заходзіла ў гета. Яе маці мела там знаёмага краўца, і дзяўчыну адпраўлялі да яго.

"Цікава было паглядзець, як там жывуць яўрэі. На Замкавай на ўваходзе правяралі дакументы і выпісвалі дазвол на ўваход у гета. Усярэдзіне было трагічна. Дзесьці трупы ляжалі, дзесьці людзі падыходзілі і прасілі аб дапамозе. Але ў некаторых месцах быў і парадак, крамы адчыненыя. Знайшла я гэтага краўца, перадала яму, што трэба рабіць, і сышла. Па гатовае паліто ўжо маці хадзіла, я не магла туды вяртацца. Некаторыя палякі дапамагалі яўрэям, хтосьці хаваў, а хтосьці ежу насіў. Да нас прыходзіў адзін такі хлопчык. Мама хацела яго пакінуць, але не атрымалася".

### *"Хай немцаў чорт пабярэ, тут палякі едуць"*

У перыяд нямецкай акупацыі Леакадзія пазнаёмілася са сваім будучым мужам Яўгенам, які працаваў пажарным. Яго бацька быў камендантам часткі. У 1943 годзе маладыя ажаніліся, а праз некалькі месяцаў у іх нарадзілася дачка.

«З Генэкам мы пазнаёміліся ў канцы 1942 года "на прыватках" у горадзе. Пайшлі да адной сваячкі на свята, а яна запрасіла хлопцаў. Ну і пасля маці спытала, хто мне спадабаўся, я ёй распавяла пра

высокага хлопца. Яна ацаніла выбар. У яго была сястра, а я з ёй у адным класе вучылася.

Генэк быў пажарным, жыў ля каланчы. Мы пакахалі адзін аднаго і вырашылі ажаніцца ў 1943 годзе. Зрабілі пышнае вяселле: уявіце сабе – 13 дарожак[*] ехала ад Ажэшкі да Фарнага касцёла. Усе прыгожыя і з кветкамі. Немцы дзівіліся, хто гэта так едзе. А мы казалі: "Хай немцаў чорт пабярэ, тут палякі едуць". І гэта ў акупацыю. Муж меў паблажкі, быў пажарным».



*Леакадзія Узнаньска са сваім мужам Яўгенам, 1943 г.*

Вяселле гулялі ў Сікорскіх дома на Ажэшкі, было 40 чалавек. Пасля Леакадзія перабралася жыць да мужа ў дом каля пажарнай часткі. У самым канцы 1943 года ў іх нарадзілася дачка Бася.

"Яшчэ калі мы былі на Ажэшкі, у адным з пакояў у нас жыў немец – дырэктар крамы. Ён зрабіў рамонт у кватэры, жылі сабе спакойна. Пазнаёміўся ён неяк з адной жанчынай, таксама немкай. Аднойчы быў з ёй на танцах, і калі яны вярталіся, то на мосце, недалёка ад дома, гэтага мужчыну застрэлілі. Аказваецца, вярнуўся муж жанчыны з фронту. Было страшна, мы спачатку не ведалі, хто яго забіў. Думалі, гэта зрабілі мясцовыя, а за забойства немца маглі расстрэльваць звычайных гараджан. Ужо потым да нас прыйшлі і ўсё распавялі".

[*] Фурманак, павозак.



*Гродзенскія хлопцы на "лесвіцы кахання", 1930-я гг.*
*Фота з архіва сям'і Узнаньскіх*

### *У Гродне заставацца баяліся*

«У 1944 годзе, калі прыйшлі ў Гродна рускія, мы яшчэ жылі на Замкавай. Мы тады хаваліся ў склепе. Муж першым выйшаў адтуль. Да яго падышоў савецкі афіцэр і папрасіў паказаць рукі. Генэк паказаў, а гэты яму ў адказ: "Ты не працоўны, ты ў нейкай партызанцы быў". Хацелі яго забраць і расстраляць, але выйшаў яго бацька і сказаў, што гэта пажарны. Тады яго адпусцілі».

З дома ля каланчы сям'ю выселілі, і яны зноў пайшлі жыць да родных Леакадзіі на Ажэшкі. Туды ўжо падсялілі расійскага афіцэра. "Ён адрозніваўся ад іншых, быў яшчэ з царскага перыяду. Інтэлігентны і добры чалавек. Цэлы месяц елі разам".

У Гродне заставацца сям'я баялася, іх маглі вывезці ў любы момант. "Нам сказалі з'язджаць у Польшчу, калі жадаем жыць. Так і паехалі ў 1945 годзе. Прыехалі спачатку ў Люблін, там сустрэлі ка-



*Леакадзія Узнаньска, 2019 г.*

нец вайны. У гэтым горадзе муж вучыўся на афіцэра. Потым мы вырашылі ехаць на захад. Казалі, што там ёсць свабоднае жыллё. Прыехалі ў Сопат, але ўсё было занята. Мы хацелі дом з крамай, каб можна было хоць неяк зарабіць на жыццё. У выніку паехалі ў Устку і з цяжкасцю знайшлі жытло там. Жылі ў гэтым горадзе на беразе мора 40 гадоў, а пасля пераехалі ў Слупск”.

# ТАТА ПАМЁР, МАЦІ АРЫШТАВАЛІ. ДЗЕЦІ ЗАСТАЛІСЯ АДНЫ

## (Тэрэса Барылава)

*Тэрэса Станіславаўна Барылава (Раманоўская) нарадзілася ў 1935 годзе на вуліцы Млынарскай*. Каталічка. Усё жыццё жыве ў Гродне.*

“Мая маці па прозвішчы Малышка, з Пушкароў, выйшла замуж за гродзенца Раманоўскага. Жылі яны ў Гродне на вуліцы Млынарскай, на левым беразе Нёмана. Было ў нас там тры дамы, усе стаялі побач. У адным з іх нарадзілася і я. Ёсць у нас такая сямейная легенда: аднойчы бабуля па татавай лініі гуляла каля замка і знайшла скарб. За знойдзеныя грошы сям’я і пабудавала тры гэтыя дамы на беразе Нёмана. У маіх бацькоў былі тры дзяўчынкі, я сярэдняя. Бацька працаваў на прыстані – тартак будаваў, а маці за палякамі не працавала – даглядала гаспадарку і дзяцей. У 1930-х раскошна мы не жылі, добра было тым, хто меў сталую працу”.

Раманоўскія жылі толькі ў адной кватэры з пакоем і кухняй, а ўсё астатняе жыллё здавалі іншым людзям. Усяго ў іх у трох дамах было пяць аднапакаёвых кватэр.

“Здымалі ў нас жыллё ў асноўным палякі, быў і адзін аўстрыйскі немец. У час вайны ён быў перакладчыкам. За атрыманыя грошы з арэнды мы, можна сказаць, і жылі. У краму хадзілі ў суседнюю хату да яўрэяў, яны ўмелі добра гандляваць. За палякамі я паспела пайсці ў дзіцячы садок, ён быў у доме адразу каля касцёла**”.

---

* Сучасная вуліца Чырвонапартызанская.

** Маецца на ўвазе францішканскі касцёл.



*Каля прыстані на Нёмане, 1920-я гг.*

### *“За саветамі сталі жабракамі”*

Незадоўга да пачатку Другой сусветнай вайны, у 1939 годзе, галаву сямейства Раманоўскіх забралі ў польскую армію. Цягнік, у якім ён ехаў, разбамбілі немцы. Салдаты разбегліся хто куды, а бацька Тэрэсы пайшоў дадому. Ішоў доўга, лясамі, галодны і слабы, ён дайшоў да Гродна толькі ў 1945 годзе. Пасля гэтага ён моцна хварэў, у яго адбылося звужэнне кішак, і праз год ён памёр.

У 1939 годзе яго жонка і дзеці засталіся ў Гродне, куды ўвайшлі савецкія войскі.

“Што тычыцца саветаў у 1939 годзе, то проста так ніхто не даў ім увайсці ў Гродна, гараджане зладзілі абарону. Я вам раскажу, як загінуў Гарнавых, у гонар якога названая вуліца каля моста. Ён ехаў на танку адным з першых, і выйшла дзяўчынка, якой далі кветкі. Яна кінула яму іх, а там у букеце была выбухоўка. Снарад бабахнуў, і Гарнавых загінуў. Ён тады на мосце адным з першых загінуў сярод рускіх*”.

* Паводле афіцыйнай версіі, Гарнавых загінуў у баі, калі яго танк заехаў на мост.



*Пасля першай камуніі, каля францішканскага касцёла. 1940-я гг.*

“Саветы як прыйшлі ў Гродна, то пачалі адразу ўсіх арыштоўваць. Людзі баяліся іх. Калі вуліцай ехала машына, то гараджане маліліся, каб не па тваю сям’ю. Потым ціха выглядалі ў акенца і глядзелі, каго вывезуць на гэты раз. Хапалі многіх, асабліва тых, у каго была радня за мяжой. Давалі гадзіну на зборы і вывозілі ў Сібір. Нас не вывезлі, але свае кватэры мы перасталі здаваць. Усё нацыяналізавалі. Дазволілі нам з маці жыць толькі ў адным пакоі. За саветамі мы сталі жабракамі, а каб пракарміць сям’ю, мама хадзіла ў вёску да сваякоў па ежу”.

### *Бясплатны садок каля касцёла*

Па ўспамінах Тэрэсы Барылавай, многія гродзенцы былі злыя на савецкую ўладу праз шматлікія рэпрэсіі, і таму, калі ўвайшлі немцы ў чэрвені 1941 года, некаторыя гараджане ім радаваліся.

“Яшчэ перад вайной з немцамі многіх павінны былі вывезці ў Сібір, людзей уносілі ў спецыяльныя спісы. І калі ўвайшлі немцы, то некаторыя людзі радаваліся ім, думалі будзе спакайней. Але ў выніку немцы сталі яшчэ горш для кагосьці – сталі сапраўднымі акупан-



*Дзеці з садка пры францішканскім касцёле, 1942 г.*

тамі, у параўнанні з рускімі, якія спрабавалі навязаць сваю культуру і мову, а непатрэбных вывезці. Пры немцах асабліва пацярпелі яўрэі, з нашай вуліцы ўсіх забралі".

За немцамі Тэрэса зноў пайшла ў садок ад касцёла. Там кіраваў святар Аркадыюш*, і бралі туды дзяцей, чыіх бацькоў забралі на вайну. "Аднойчы мы выйшлі з касцёла, у нас тады першая камунія была, і якраз побач па дарозе ехалі немцы на танках. Яны ўбачылі дзяцей са свечкамі і спыніліся, каб прапусціць нас. Гэты момант я запомніла".

У час акупацыі маці Тэрэсы хадзіла па прадукты ў вёску. Нешта несла дадому, а нешта прадавала. Часам сям'я пякла хлеб дома, яго таксама прадавалі. Старэйшая сястра Тэрэсы працавала ў шапачнай майстэрні ў доме Мураўёва. "Немец за ёй бегаў, спрабаваў заляцацца. Прыгожая была, але баялася гэтых кавалераў".

* Верагодней за ўсё, тут узгадваецца францішканін Аркадыюш Вальтось, які служыў у францішканскім касцёле ў Гродне ў 1941–1975 гг. (да сваёй смерці).



*Каля сямейнага дома (Тэрэса злева ад бабулі), 1942 г.*

“Былі моманты, што мы з мамай выходзілі ў горад, а там гета ў цэнтры было. Памятаю, дзеці праз калючы дрот рукі працягвалі і прасілі паесці. Мы ім хлеба давалі. У нас і саміх іншы раз не было чаго есці, але яны наогул галадалі. Вельмі шкада было. Я была там і бачыла гэта гета.

У 1944 годзе, калі савецкія войскі прыйшлі вызваляць Гродна, каля нашага падворка былі акопы. Немцы на нашым беразе, а саветы на правым. Так і абстрэльвалі адзін аднаго, мы тым часам сядзелі ў падвале. А мост ужо тады быў узарваны”.

Пасля вызвалення на вуліцы, дзе жыла Тэрэса, было шмат палонных немцаў, сярод іх і параненыя.

“Лагер у іх быў недалёка ад касцёла, дзе цяпер бальніца. Галодныя, усё прасілі есці. Хтосьці паміраў, і іх хавалі на мясцовых могілках на сучаснай вуліцы Міра, дзе цяпер стаяць гаражы”.

### ***Каб выжыць, пайшла працаваць на тытунёвую фабрыку***

Пасля вайны Тэрэса пайшла вучыцца ў польскамоўную школу на тагачаснай вуліцы Паўночнай. Неўзабаве яна мусіла спыніць



*Тытунёвая фабрыка, 1953 г.*

вучобу, бо пайшла працаваць на тытунёвую фабрыку, каб пракарміць сябе і сястру.

“Пасля вызвалення маці адзін час працавала прыбіральшчыцай на мэблевай фабрыцы. Сястра старэйшая памерла ад брушнога тыфу ў 1945 годзе, ёй было ўсяго 18 гадоў. Бацька памёр у 1946 годзе ад сваёй хваробы. Спачатку мы засталіся адны дома з мамай. Дзесьці ў канцы 1940-х яна папрасіла суседа насекчы дроў, бо не было каму. Заплацілі яму самагонкай, а пра гэта даведалася суседка і напісала ананімку на маці. Прыйшла міліцыя зператрусам у наш пакой і знайшла дзве-тры бутэлькі гарэлкі. Маму забралі ў турму і далі ёй шэсць гадоў. Я і сястра засталіся адны”.

Калі Тэрэса пайшла працаваць на тытунёвую фабрыку, ёй не было яшчэ і 16 гадоў. Яна пайшла ў аддзел кадраў і прасіла, каб узялі на працу, бо маму пасадзілі, бацька памёр, і ім з сястрой няма чаго есці. Ёй адмовілі, сказалі, што яшчэ малая і трэба ісці ў дзіцячы садок, а не на працу. Тады дзяўчына звярнулася да дырэктара фабрыкі, плакала, у выніку яе прынялі. На тытунёвай фабрыцы яна прапрацавала 40 гадоў.



*Тэрэса Барылава, 2019 г.*

«Пасля смерці Сталіна, у 1953 годзе, маці вызвалілі. На прымусовых работах яна прабыла чатыры гады. Калі яе вызвалілі, я ўжо працавала і памятаю, як да мяне падышла жанчына і сказала: “Ідзі сустракай маму, яе выпусцілі”. Цяжка было ёй далёка ад дома. Маму трымалі пад Масквой, капала дарогі. Казала, што замярзала там, і кармілі людзей вельмі дрэнна. Казала, што яе свіння нават такое б не ела. Усяго за некалькі бутэлек гарэлкі чалавеку прыйшлося так пакутаваць. Добра хоць вярнулася».

# «БАЦЬКА ІХ ЧАКАЎ, А ЯНЫ СТРАЛЯЛІ Ў ЯГО ДЗЯЦЕЙ». ЯК У 1939 ГОДЗЕ Ў ГРОДНА ЎВАЙШЛІ САВЕТЫ

## (Лідзія Івашчанка)

*Лідзія Кірылаўна Івашчанка нарадзілася ў 1931 годзе ў Гродне. Праваслаўная. Усё жыццё жыве ў родным горадзе.*

### *Бацька будаваў Дом афіцэраў*

“Мае бацькі пазнаёміліся ў вёсцы Крынкі, адкуль была родам мама. Бацька ў час Першай сусветнай трапіў у нямецкі палон і ўцёк. Апынуўся менавіта ў матчынай вёсцы. Сам ён украінец, а жыў у Расіі. А маці мая беларуска, і я сябе лічу такой”.

У 1919 годзе бацькі Лідзіі пераехалі ў Гродна, а ў 1931 годзе нарадзілася яна. Сям’я жыла недалёка ад вуліцы Падольнай, там, дзе арка пад чыгуначным мостам. Раней там была маленькая вулачка Флісацка, пры саветах яе называлі Плытагонаў*.

“Мой бацька быў добрым цесляром і сталяром. Ён будаваў у Гродне ў 1930-х гадах Дом афіцэраў, банк на сённяшняй вуліцы Карбышава і многае іншае. Узімку бацька, бывала, сядзеў без працы, бо ніхто тады так не будаваў, як цяпер. А маці не працавала ўвогуле, толькі часам у сезон магла хадзіць на падпрацоўкі на яўрэйскія агароды”.

---

* Сучасны 1-ы Падольны завулак.



*Падчас будаўніцтва Дома афіцэраў, 1930-я гг.*

### *Не дазволіў сыну стаць каталіком*

Сваёй кватэры ў сям'і Івашчанкаў у 1930-х гадах не было. Даводзілася здымаць жыллё ў прыватным доме. Побач з імі жылі суседзі розных нацыянальнасцяў.

"Былі палякі, яўрэі і праваслаўныя. Беларусамі нас ніхто тады не называў. Мой старэйшы брат Вікенцій скончыў сем класаў школы і паступіў у рамесную вучэльню. Да гэтага ён марыў пра лётную ўстанову ў Вільні. Але праз тое, што ён быў праваслаўным, яго не ўзялі. Бралі каталікоў, і яму прапаноўвалі перайсці ў іншую веру, але бацька сказаў, што якім нарадзіўся, такім і павінны быць. Можа і дарма, што не перайшоў да каталікоў, тады, магчыма, застаўся б жывы".

Сям'я Івашчанкаў здаўна была праваслаўнай і хадзіла маліцца ў сабор на Ажэшкі. Лідзія спявала там у хоры з сяброўкамі. "Памятаю,



*Бацькі і браты Лідзіі, другая пал. 1920-х гг.*

падчас акупацыі немцам так спадабаліся нашыя спевы, што яны два разы прасілі выступіць. Тады з намі ў хоры спяваў і Коля Вагнер*”.

### *Ляжала ў ваенным шпіталі*

Сям’я Лідзіі за палякамі была небагатай, але жыла нармальна. Бацькі імкнуліся забяспечыць сваіх дзяцей усім.

“Нас было трое ў бацькоў: я і два старэйшыя браты. Мы былі добра апранутыя і заўсёды сытыя. Усе вучыліся. Неяк у сярэдзіне 1930-х гадоў я захварэла на шкарлятыну, трэба было тэрмінова класціся ў бальніцу. А бацька мой неяк будаваў дачу ў Румлёва аднаму палкоўніку – галоўурачу вайсковага шпіталя. Шпіталь быў там, дзе Новы замак. Палкоўнік сказаў бацьку, што не пакладзе мяне ў цёмную бальніцу і прапанаваў месца ў шпіталі.

* Вядомы артыст Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра ў пасляваенны час, адрынуты савецкай сістэмай праз гомасэксуальнасць. Меў эпатажны для савецкіх часоў выгляд. У яго доме ў 1970-х гг. збіраліся гродзенскія хіпі. Памёр у галечы, атрымліваючы пенсію інваліда па здароўі.



*Вайсковыя вучэнні ў гродзенскай моладзі, 1939 г.*
*Сярод удзельнікаў – старэйшы брат Лідзіі. Фота з архіва сям'і Івашчанкаў*

Я там праляжала 45 дзён. Была адна ў пакоі, а побач ложак для салдата. Ён сачыў, каб я нікуды не бегала, бо хвароба была заразная. Але я салдата падманвала – казала, што яго кліча паручнік, і бегала па палатах. Там ляжалі афіцэры і салдаты. Яны любілі, калі я да іх заходзіла і песні спявала, нават казкі распавядала. А так да мяне ніхто не прыходзіў, бо нельга было. Толькі пад вокны часам бацькі і браты падыходзілі".

***Апынуліся на пагроме***

Незадоўга да пачатку Другой сусветнай вайны Лідзія была з бацькам у цэнтры Гродна на плошчы і стала сведкай пагрому. Але праз што ён адбыўся, жанчына дагэтуль не ведае.

"Тады быў нейкі мітынг, а пасля пачаўся пагром. У будынку насупраць Фарнага касцёла быў вялікі балкон, на ім часта выступалі ўсякія камуністы і сацыялісты. Нешта яны сказалі, і пасля мітынгу людзі пачалі чамусьці граміць яўрэйскія крамы і намёты на плошчы. Казалі, што набліжаліся нейкія выбары, і людзям нешта не спадабалася. Мы з бацькам ледзь прыбеглі дадому.

Але гэта не быў пагром на яўрэяў, нешта адбылося іншае. Бацькі распавядалі, што толькі ў 1935 годзе быў сур'ёзны пагром на іх. Тады нейкага марака ў рэстаране забілі і вырашылі, што гэта яўрэі зрабілі*. Вось тады мэтанакіравана ў Гродне білі яўрэяў і іх крамы".

"Былі і кур'ёзныя моманты з яўрэямі. Памятаю, што хадзілі палохаць іх з 31 кастрычніка на 1 лістапада, на Дзень усіх святых. Яны баяліся і закрывалі свае вокны аканіцамі. Брат у гэтую ноч выразаў у гарбузе вочы і нос, устаўляў свечку і хадзіў палохаць людзей. Так весялілася наша моладзь. Бацька лаяўся на брата і казаў, што так не трэба рабіць".

### ***Першая нямецкая бомба на плошчы Баторыя***

Яшчэ пры паляках Лідзія пайшла вучыцца ў бернардзінскую школу побач з касцёлам. Да пачатку Другой сусветнай яна правучылася там два класы.

"Мне падабалася вучыцца ў школе. 1 верасня 1939 года я павінна была ісці ў трэці клас, але праз ваеннае становішча на вучобу ніхто не пайшоў. З прыходам саветаў мяне пакінулі ў другім класе, казалі, што польская навука горшая за расійскую".

У дзяцінстве Лідзіі не было тэлевізараў, людзі сядзелі на лавачках і распавядалі адзін аднаму навіны, а дзеці падслухоўвалі размовы дарослых. Часам можна было паслухаць радыё ў суседа.

"У адзін момант пайшлі чуткі, што немцы могуць напасці на Польшчу, а потым наогул пачалася вайна. Першая нямецкая бомба на Гродна ўпала 1 верасня 1939 года на плошчы Баторыя. У школу мы не пайшлі, прыбег брат і сказаў, што ў цэнтры чалавека забіла снарадам. Яшчэ некалькі чалавек было паранена. Брат, бедны, нават і не ведаў, што праз некалькі дзён і яго не будзе".

Больш немцы горад не бамбілі, праляталі яшчэ два-тры самалёты. Пасля налёту ў Гродне пачалася агульная мабілізацыя.

"Праз некаторы час у горадзе стаяла магільная цішыня і безуладдзе. Крамы зачыняліся, людзі хаваліся. У Гродна нечакана ўвайшлі саветы, але каб хтосьці іх сустракаў, я не бачыла. А прыйшлі бедныя і абарваныя салдаты, не перадаць словамі. Яны ж былі нават

* Тут гаворка пра выпадак, калі польскі марак на танцах заляцаўся да дзяўчыны-яўрэйкі, а пасля яго за гэта забілі, што і справакавала пагромы.




*Старэйшы брат Лідзіі Вікенцій (справа) з сябрамі ў цэнтры Гродна, 1939 гг.*

не ў ботах, а ў абмотках і бедных чаравіках. Пасля польскай арміі яны здаваліся галечай”.

### *“Ты чакаў гэтых рускіх, а яны вось што табе зрабілі”*

Савецкія салдаты недалёка ад дома сям’і расстралялі братоў Лідзіі. Гэта адбылося 22 верасня, пасля абароны горада.

«Браты былі ўвесь час дома, калі стральба сціхла, яны выйшлі паглядзець, што адбываецца ў горадзе. У гэты час савецкія салдаты якраз недалёка ад нашай вуліцы вялі на расстрэл суседа-яўрэя, нехта сказаў, што ён страляў па рускіх. І калі мае браты выйшлі з завулка, гэты яўрэй сказаў: “Товарищ, это они стреляли!”».

Невядома, чаму браты ішлі ўдвох. Яны ніколі не хадзілі разам, аднаму было 18, другому 16, у іх былі розныя інтарэсы і розныя сябры. У выніку іх схапілі і павялі на расстрэл, а яўрэя адпусцілі.



*На беразе Нёмана побач з вуліцай Падольнай, 1930-я гг.*

«У гэты момант знаёмая жанчына пабегла да нас дадому і крычыць: “Бяжыце хутчэй, вашых сыноў расстрэльваюць”. Не паспеў бацька, братоў расстралялі амаль пад аркай чыгуначнага моста. Бацька пачаў крычаць на салдат: “Что вы сделали? Я же русский человек, я вас ждал!”. А яны яму ў адказ: “Ну прости, отец, мы не виноваты. Тот еврей сказал, что твои сыновья стреляли из пулемета по советским солдатам”. Бацька ім пачаў гаварыць, што ён сам з кулямёта не ўмее страляць, а адкуль дзеці яго маглі гэтаму навучыцца».

Людзі, якія бачылі расстрэл, распавядалі потым бацьку Лідзіі, што яго старэйшы сын, Вітэк, крыкнуў перад смерцю “Ратунку!”, і яму спачатку стрэлілі ў ногі, а потым падышоў салдат і стрэліў у галаву. Малодшы Уладзімір яшчэ трохі жыў, на самаробных насілках яго занеслі ў бальніцу, але не ўратавалі і пахавалі на наступны дзень пасля старэйшага.

“Калі ўвайшлі саветы ў Гродна, то некаторыя студэнты далі ім адпор. Я не ведаю, ці ўдзельнічалі браты ў абароне горада, ці не, цяпер пра гэта нікому не даведацца. Мама потым увесь час бацьку казала: ты чакаў гэтых рускіх, а яны вось што табе зрабілі. Бацька проста ведаў яшчэ царскую Расію, за якую ваяваў у Першай сусветнай, але савецкая Расія была ўжо іншай краінай”.

“Калі бацька паміраў, ён распавёў мне гісторыю, што сябар брата па прозвішчы Рогаш неяк напісаў ліст з Англіі на наш адрас. Бацьку выклікалі ў КДБ, але ліст не аддалі. Адзінае, што сказаў супрацоўнік, гэта тое, што Рогаш пытаўся: ці паставілі мы помнік яго сябру. Так, мы паставілі ўсім. А гэтага Рогаша вывезлі ў Сібір з сям’ёй, ён адтуль уступіў у польскую армію, а пасля трапіў у Англію”.

### *Далі яўрэям поўную волю*

Пры першых саветах сям’я Івашчанкаў чакала, што іх вывезуць у Сібір праз расстраляных сыноў. Сядзелі з сабранымі рэчамі і сухарамі.

“Саветы як прыйшлі, вывезлі ў Сібір сем’і многіх польскіх афіцэраў. Маглі і нас вывезці. Атрымліваецца, мы былі ворагамі савецкага народа. Але па нас не прыйшлі. Вось сям’ю майго сябра Кшыштафа забралі. З гэтым хлопцам мы шпацыравалі за руку і танцавалі, увогуле добра сябравалі. У адзін дзень я прыходжу ў школу, а яго няма. На другі і трэці ён таксама не з’яўляўся. Я кажу бацьку, што трэба схадзіць і даведацца, куды прапаў Кшыштаф. Можа, ён захварэў ці што”.

Лідзія з татам пайшлі на вуліцу, дзе жыў хлопец, – сучасную Свярдлова. Ім адкрыў вайсковец. “Тата адразу папрасіў прабачэння і сказаў, што, напэўна, памыліўся адрасам. А гэты салдат адказаў, што мы не памыліліся, і прапанаваў зайсці ў кватэру. Пачаставаў нас гарбатай і пра нешта размаўляў з бацькам. Ужо пасля мне стала ясна, што Кшыштафа і яго бацькоў вывезлі ў Сібір. У яго бацька быў адвакатам. Немец жа калі прыйшоў, ён не крануў сем’і савецкіх афіцэраў. Як жылі яны, так і жылі. Хто мог, той і працаваў”.

«За саветамі жыццё ў Гродне стала іншым. Чэргі ў крамах, а там толкам нічога і не было. Прыходзіць мама неяк у краму на Падольную і становіцца за яўрэйкай у чаргу, праз некаторы час перад ёй яшчэ 10 чалавек становіцца. А калі зробіш ім заўвагу, то яны адразу абурацца пачынаюць. Саветы далі яўрэям поўную волю, яны былі ўсюды. Ва ўсіх установах толькі яны і сядзелі, нашым людзям не было ніякага ходу. Майго хроснага бацькі брат неяк не вытрымаў і п’яны залез на краму, стаў крычаць: “Бі жыдоў, ратуй Расію”. Дык яўрэі выклікалі міліцыю, і яго забралі. Асудзілі на тры гады”.

### *Яўрэй, які выдаў братоў, знік у гета*

“Вайна з немцамі пачалася нечакана 22 чэрвеня, з суботы на нядзелю. Цёплая раніца, маці прачнулася і падумала, што гром удалечыні, але неяк па небе не было да гэтага падобна. Бацька сказаў, што гэта не гром, а вайна пачынаецца – стралялі з гармат. Толькі ён гэта прамовіў, як наляцела на горад 45 нямецкіх самалётаў. Мы ляжалі ў маліне і лічылі. Немцы спрабавалі бомбы скідаць на мост, але ніводная з іх не патрапіла”.

Пасля налёту гарэў Занёманскі фарштат і вуліца Падольная. У панядзелак раніцай Івашчанкі ўжо ўбачылі першых немцаў.

«Усе загарэлыя і з закасанымі рукавамі. Дзяцей цукеркамі частавалі, на матацыклах каталі. Тым часам да маёй маці прыбегла яўрэйка, жонка таго мужчыны, які выдаў саветам маіх братоў: “Пані, вы, напэўна, скажаце немцам, што мы вашых сыноў выдалі, калі так – нас тады паб’юць і расстраляюць”. А мама ёй у адказ: “Адчапіцеся ад мяне, вас Бог паб’е”. Гэтая сям’я знікла пры немцах, спачатку іх забралі ў гета, а потым не ведаю, куды павезлі».

«У горадзе ніхто не супрацiўляўся немцам, усе савецкія салдаты ўцякалі або здаваліся ў палон. З палоннымі салдатамі немцы абыходзіліся вельмі дрэнна, не давалі ім есці. Шмат палонных гінула, і хаваць іх везлі на Нямецкія могілкі каля Падольнай. Везлі целы, як дровы, і хавалі ў траншэях. Хто быў здаравейшы, той капаў магілы, а нашы жанчыны з вуліцы насілі ім есці. Можа, дзе і жывых закопвалі, хто быў вельмі слабы. Казалі, што целы везлі з Фолюша, там быў лагер для ваеннапалонных. А дзе сёння на Маставой “Прыёрбанк”, там быў шпіталь для палонных. Туды ўжо я хадзіла і кідала палонным хлеб і папяросы».

### *Падатак з яўрэяў*

За немцамі для гродзенскіх яўрэяў адразу былі вызначаны абмежаванні. Яшчэ да стварэння гета ім пад страхам смерці загадалі насіць асаблівыя адметныя знакі – белыя нарукаўныя павязкі з сіняй “зоркай Давіда”, якія затым у гета былі заменены на шасціканцовыя жоўтыя зоркі, нашытыя спераду і ззаду на вопратку.

“У Гродне былі два гета, мы жылі паблізу аднаго. Нават з раёнаў туды звозілі яўрэяў. Хто пешшу, хто на павозках туды ехаў. Відовішча жудаснае. А ў яўрэйскія кватэры засяляліся тыя людзі, чые дамы выкарыстоўвалі пад гета. Памятаю, як у горадзе часта ганялі яўрэяў на працы. Натоўпамі, і яны нікуды не ўцякалі. З імі ішоў адзін наглядчык з яўрэйскай паліцыі і немец. Не ведаю, чаму яны не ўцякалі, можа, баяліся за сям’ю. Але потым усё роўна іх усіх знішчылі”.

Бацька Лідзіі пры немцах працаваў у маёнтку Станіслававa, першы час яўрэяў прыганялі працаваць туды. Адзін з іх распавядаў яму, што немцы ў вызначаны дзень казалі паліцыі збіраць золата на здачу і абяцалі, што ў выпадку выканання ў гета будзе ціха. Яўрэі збіралі пярсцёнкі, завушніцы, ланцужкі, неслі, хто што меў, і верылі немцам. Пасля пэўнага падатку было ціха, але праз нейкі час немцы зноў патрабавалі золата. Так яны выманьвалі ў яўрэяў каштоўнасці перад знішчэннем.

“Адно гета было каля нас, недалёка ад сучаснага Скідзельскага рынку. Зімой немцы на лыжах яго аб’язджалі – правяралі. У адным месцы вясковыя людзі прыйшлі на абмен з яўрэямі, прынеслі ім сала і яшчэ чагосьці там. Немцы ўбачылі вясковых і расстралялі на месцы. Падтрымліваць сувязь з гета было забаронена. Мы баяліся туды падыходзіць”.

### *Нямецкаму салдату вайна была непатрэбна*

Па ўспамінах Лідзіі, у час акупацыі ў Гродне было шмат добрых нямецкіх салдат, з адным з іх яе сям’я пасябравала.

“Яшчэ ў першы год акупацыі мы неяк з бацькам ішлі ў царкву, а каля дарогі ляжаў чалавек п’яны. Немец паказваў на яго, а бацька загаварыў з салдатам на нямецкай і сказаў, што чалавек проста п’яны, не варта яго чапаць. Салдат тады прычапіўся да нас і спытаў, куды мы ідзём. Бацька сказаў, што на службу ў царкву, так ён з намі і пайшоў. Тады быў Вялікдзень, мы выйшлі з храма і запрасілі гэтага немца да нас дадому на абед”.

Пасля гэтага выпадку салдат стаў хадзіць да Івашчанкаў, прыносіў сахарын ды іншыя рэчы. Распавядаў, што ў яго ў Германіі засталася жонка, трое дзяцей і ўласны маёнтак. Казаў, што вайна яму зусім не патрэбна, але забіралі ўсіх.

“Адзін раз ён прыйшоў да нас і сказаў, што яго частку адпраўляюць на Сталінград. На развітанне прынёс бацьку шэры шалік і пальчаткі. Напэўна, недзе на фронце ён і загінуў”.

### *Ад немцаў даведалася пра Княства Літоўскае*

За немцамі Лідзія вучылася некалькі месяцаў у Беларускім таварыстве, якое стварыла нямецкая акупацыйная ўлада. Усе польскія і савецкія школы ў той час былі зачыненыя.

“Будынак гэтай арганізацыі быў на сучаснай вуліцы Урыцкага. Казалі, што там месца, дзе можна было вучыцца. Мы з трыма сяброўкамі вырашылі схадзіць туды. Памятаю, там вісеў на ўваходзе нямецкі сцяг і беларускі – бела-чырвона-белы. З намі пагаварылі і запісалі на заняткі.

Вывучалі мы там беларускую мову, матэматыку, гісторыю Германіі, Беларусі і Літоўскага Княства. Пра гэтую гісторыю мы нават паняцця не мелі. За саветамі вучылі гісторыю Расіі, за палякамі – Польшчы, а за немцамі – гісторыю Княства Літоўскага. Некалькі месяцаў туды хадзілі. А пасля школу зачынілі. Ужо як прыйшлі другія саветы, дзякуючы ведам, атрыманым у гэтай школе, мы адразу запісаліся ў шосты клас. Можна сказаць, пераскочылі два класы”.

### *Немцы казалі, што проста так Гродна не аддадуць*

Адзінае, чаго баялася сям’я Івашчанкаў пры нямецкай акупацыі – што нехта з вуліцы Падольной заб’е каля моста нямецкага салдата. Калі б гэта адбылося, немцы арыштавалі б усіх і маглі выбарачна расстраляць людзей.

“Салдаты нас не чапалі, і мы іх не чапалі, жылі сабе спакойна. За месяц да вызвалення немцы пачалі рыхтавацца да адступлення. Некалькі тыдняў прывязвалі тол на кожную жалезную апору моста і праводзілі правады.

Перад самым адыходам немцы сабралі ўсю нашу вуліцу і сказалі, каб мы сыходзілі, бо пачнецца бой на Нёмане. Казалі, што проста так Гродна не аддадуць. Так і адбылося. Мост чыгуначны ўзарвалі, і ён цалкам зваліўся ў Нёман. Вялікі пешаходны мост таксама ўзарвалі, але ён разбурыўся толькі пасярэдзіне”.

Бой на Нёмане ішоў дзесяць дзён: немцы на адным баку, саветы на другім. Івашчанкі хаваліся ў Пышках у знаёмых. Перад зыхо-



*Лідзія Івашчанка, 2019 г.*

дам бацька Лідзіі выкапаў у хляве яму, выклаў яе дошкамі і склаў там усю зімовую вопратку, потым усё закрыў і засыпаў зямлёй. У час баёў у іх кватэру трапіў снарад, і адзінае, што ўдалося выратаваць, – рэчы, схаваныя ў яме.

"Калі мы былі ў Пышках, там сустрэлі немцаў на танкетцы, і яны пыталіся дарогу, як праехаць да моста. Мы сказалі, але ён ужо быў на той момант узарваны. Яны, напэўна, не паспелі адступіць".

# ГІСТОРЫЯ СЯМ'І ЧЫГУНАЧНІКА З ВУЛІЦЫ СЛАВАЦКАГА

## (Марыя Гецэвіч)

*Марыя Дзянісаўна Гецэвіч (Дзежыц) нарадзілася ў 1937 годзе на вуліцы Славацкага. Каталічка. Усё жыццё жыве ў Гродне ў сваім доме, які пабудаваў яе бацька-чыгуначнік.*

***Славацкага – вуліца чыгуначнікаў***

"Мой тата працаваў на чыгунцы машыністам першага класа. Ездзіў у Варшаву і Вільню. Мама была хатняй гаспадыняй і часам шыла на замову. Бацькі пасля шлюбу спачатку жылі на прыватнай кватэры, недалёка ад заапарка, але пасля вырашылі пабудаваць уласны дом".

Як чыгуначніку бацьку Марыі далі ўчастак на ўскраіне горада, на вуліцы Славацкага. Па крэдыт на будаўніцтва ён адмыслова ездзіў у Варшаву. Будаўніцтва дома пачалі ў 1934 годзе. На зямлі, якую атрымалі, была гара, таму ён наймаў рамізнікаў, каб вывозілі непатрэбны грунт.

"За палякамі на нашай вуліцы жылі адны чыгуначнікі. Былі Рэйдак, Гайдановічы, Старун, Нічыпарукі і іншыя. Спачатку бацька планаваў пабудаваць аднапавярховы дом, бо ў іх з мамай была адна дачка. А потым я нарадзілася, тады пачалі ўзводзіць і другі паверх. Жылі мы нядрэнна, хоць і быў крэдыт. Тады бацька нармальна зарабляў, а мама займалася гаспадаркай. У нас на ўчастку былі свінні, куры і свой агарод".




*Бацькі Марыі Гецэвіч, 1930-я гг.*



*Гродзенскія чыгуначнікі, 1920-я гг.*
*Бацька Марыі ў ніжнім шэрагу першы справа*

### *"Вялікі дом маеш – значыць кулак"*

У 1939 годзе, калі ў Гродна ўвайшлі часткі савецкай арміі, у доме ў Дзежыцаў пасяліліся два афіцэры. Гаспадар тым часам працягваў працаваць машыністам і пры новай уладзе.

«Калі прыйшлі саветы, то нас не кранулі, мы працягвалі жыць у сваім доме. Але аднойчы да нас прыйшлі і сказалі: "Вялікі дом маеш – значыць кулак. Гэта не тваё". А што ў нас раскулачваць? Дом і тое недабудаваны быў, мы былі звычайнай сям'ёй. У выніку сталі да нас людзей падсяляць. Адзін час на кватэры жылі яўрэі, а пасля да нас падсялілі двух афіцэраў. Ніхто не хацеў іх браць на кватэру, але прыходзілася браць. Нашых звалі Саша і Лёша. Жылі спакойна яны, нам не грубілі. Неяк аднойчы прыйшлі і сказалі: "Усё, гаспадыня, мы адступаем". Яшчэ перад самай вайной з немцамі сталі да нас у дом сяліцца людзі і на другі паверх, хоць і нічога не было гатова. Там жыла сям'я Жыўнаў, хтосьці з іх быў стваральнікам музея прыроды ў Гродне*».

* Музей прыроды ў Гродне быў створаны ў 1926 г. Ініцыяваў стварэнне, перадаў у дар гораду сваю багатую калекцыю і захоўваў яе аматар прыроды і калекцыянер Station Станіслаў Жыўна.

### *Самае страшнае падчас акупацыі – закладнікі*



*Марыя (злева) з сястрой у гарадскім парку, пач. 1940-х гг.*

З прыходам немцаў у 1941 годзе бацька Марыі Гецэвіч першы час яшчэ працаваў на чыгунцы машыністам, але пасля адмовіўся – баяўся за сваё жыццё, бо многія цягнікі партызаны спускалі з рэек.

“Бацька ведаў нямецкую мову, пра гэта пачулі і прапанавалі яму быць перакладчыкам. Тата заўсёды знаходзіўся на станцыі, быў нейкім дзяжурным, а таксама займаўся дачыненнямі з насельніцтвам – перакладаў для немцаў. Яшчэ ён дапамагаў сем’ям чыгуначнікаў. Калі прыйшлі немцы, многія з іх засталіся без кармільцаў, то ён з калегамі збіраў грошы для іх. На вуліцы стараліся размаўляць толькі са сваімі. На Славацкага ў адным доме быў радыёпрымальнік, то тата часта хадзіў туды з сябрамі слухаць амерыканцаў. Пра гэта ведалі адзінкі, толькі самыя блізкія людзі”.

І за немцамі ў сямейным доме працягвалі жыць іншыя людзі. Праз некаторы час пасля пачатку вайны туды заехала нямецкая сям’я. “Яны да нас нармальна ставіліся, іншы раз дзяліліся сваім пайком, там было масла і іншыя прадукты. Мы не галадалі. Памятаю, у іх быў хлопчык Фрыдрых, мы з ім гулялі”.

Афіцэр, які ў іх жыў, прапаноўваў дабудаваць дом, а пасля перасяліць сям’ю Дзежыцаў на другі паверх. Але пабудову адстаялі, бацька сам жадаў дабудаваць дом пасля вайны.

“З маіх успамінаў самае страшнае падчас акупацыі – гэта калі немцы бралі людзей у закладнікі. Бывала, дзесьці заб’юць якога-небудзь немца ці пусцяць з рэек эшалон, то тады прыязджалі ноччу на матацыклах салдаты, заходзілі ў дом і бралі закладнікаў. Нашу



*Дом сям'і Дзежыцаў, 1943 г.*

гродзенскую інтэлігенцыю так і расстралялі. Таму іншы раз мы спалі апранутымі. Казалі, што калі прымеш на кватэру немцаў, то гаспадароў не возьмуць у закладнікі. Можа, гэта нас і ратавала".

### *Прыезджыя збівалі гродзенцаў*

Пасля вызвалення Гродна ў ліпені 1944 года галаву сям'і арыштавала савецкая ўлада. Яму прысудзілі 25 гадоў лагераў і выслалі ў глыб Расіі.

«Калі саветы прагналі немцаў, некаторыя палякі з'язджалі адразу на захад. Бацька ж мой казаў: "А чаго я паеду, калі нікому нічога дрэннага не зрабіў. Заўсёды дапамагаў людзям, абараняў іх". Але выйшла інакш, расейцы на бацьку данеслі, і яго ўзялі. Сказалі, што ён працаваў на немцаў. Спачатку ён быў у нашай турме, то мама насіла яму пасылкі. Ён нават перадаваў нам запіскі, а пасля яго выслалі ў Сібір».

Дзесьці ў 1948 годзе ён адмарозіў ногі, ляжаў у шпіталі і там памёр. "Вось так нізашто добры чалавек страціў жыццё. Тады проста



*Каля дома на вуліцы Славацкага, 1943 г. Фота з архіва сям'і Дзежыцаў*

за глупства маглі арыштаваць, нават за анекдот, калі белы певень перамог чырвонага".

"Дзікунства было першы час пасля вайны. Прыязджалі сюды сем'і савецкіх афіцэраў, яны не мелі ніякага паняцця пра культуру. Гэта цяпер яны сталі культурнымі, а тады ў пасляваенныя гады нас – мясцовых гродзенцаў – яны сустракалі і збівалі. Са школы іншы раз спакойна не магла дайсці да дома. Бралі партфель і выкідалі сшыткі. Абзывалі нас пшэкамі, а мы іх называлі кацапамі. Яны прыехалі і пачалі панаваць у нашым горадзе, вывозілі людзей, зачынялі польскія школы, прымушалі ўступаць у піянеры і камсамол".

### *З'ехаць у Польшчу не паспелі*

Маці Марыі Гецэвіч вельмі перажывала праз страту мужа. Жанчына засталася адна з двума дзецьмі, яна не ведала, што ёй рабіць і чым займацца.

"Пасля вайны многія гродзенцы, у тым ліку і нашы сваякі, з'язджалі ў Польшчу. Мы таксама планавалі. Частку рэчаў адправілі



*Марыя Гецэвіч, 2019 г.*

са сваякамі на Памор'е. Засталіся ў Гродне з некалькімі скрынямі, чакалі нейкага моманту, але так нікуды і не паехалі. Мама не прыняла канчатковага рашэння".

У 1949 годзе ў маці Марыі здарыўся інсульт, яна памерла. Сёстры засталіся адны ў сямейным доме. "Жылі неяк паўгода, са сваякоў ніхто не хацеў нас браць. Пасля да нас прыйшла апякунка, яна са сваёй сям'ёй пасялілася на другім паверсе, а мы працягвалі жыць на першым. У сваім доме я жыву дагэтуль".

# «МЫ БЫЛІ ПАТРЫЁТАМІ»
## (Стэфан Хацей)

*Стэфан Віктаравіч Хацей нарадзіўся ў Гродне на вуліцы Маставой у 1927 годзе. Каталік. Удзельнік абароны горада ў верасні 1939 года. Пры першых саветах быў вымушаны пераехаць у вёску. Жыць у Гродна так і не вярнуўся.*

Бацькі Стэфана былі не з Гродна, прыезджыя. Першы час сям'я жыла над Нёманам на вуліцы Маставой, там і нарадзіўся Стэфан. Яго маці працавала на тытунёвай фабрыцы – сачыла, каб працоўныя не выносілі папяросы. Бацька першапачаткова працаваў на яўрэйскай лесапільні.



*Сям'я Хацей, 1920-я гг.*

“Побач з намі жыў дэпутат па прозвішчы Красінскі, ён мяне яшчэ хрысціў у францішканскім касцёле. Гэты паважаны чалавек аднойчы запрасіў майго бацьку ў праўладную партыю OZN*. А праз некаторы час бацька наогул стаў сакратаром гэтай партыі ў Гродне. Добра зарабляў, і спачатку мы пераехалі на вуліцу Златарскую**, а пасля купілі камяніцу на рагу вуліц Вітальдовай і Брыгіцкай”.

Спачатку Стэфан вучыўся ў школе каля заапарка. У пяты клас пайшоў у школу імя Адама Міцкевіча. “У мяне таксама былі дзве старэйшыя сястры, адна з іх вучылася ў гімназіі”.

### *Добрае жыццё ў Гродне*

У 1930-я гады бацька Стэфана атрымліваў у Гродне каля 1000 злотых. Яго сям’я, акрамя ўласнага дома ў горадзе, пабудавала добрую дачу ў вёсцы, а таксама мела агароды і вырошчвала гародніну.

«Вельмі добра ў Гродне нам жылося. Я памятаю, як хадзіў у заапарк, гарадскі парк, музеі і кіно. У нас тады ў Гродне было пяць кінатэатраў, як цяпер памятаю: “Геліёс” на Брыгіцкай, “Апола” на Дамініканскай, на Паштовай*** “Пан”, на Гараднічанскай “Малы люкс”, а на Ажэшкі “Уцеха”. Я хадзіў туды глядзець фільмы, калі хацеў, бо быў у класе скарбнікам, і ў нас былі спецыяльныя пасведчанні. Школьнікі хадзілі па горадзе ў сваіх мундзірыках з рыскамі. Ва ўсіх школаў рознага колеру. Мая “міцкевічуўна” – жоўтага, “батаруўка” – чырвонага і гэтак далей».

У Хацей у доме была служанка, якая насіла кнігі Стэфана ў школу. Не тое, каб яму было цяжка, проста ён быў хуліганістым, і маці адпраўляла яе з хлопцам, каб той нікуды не ўцёк.

«Жыццё ў Гродне да вайны была цікавае і насычанае. Пры жаданні я мог з сябрам пайсці на Нёман і пакатацца на каяках, а зімой на каньках на лёдзе каля дома. Побач быў яўрэйскі спартыўны клуб “Макабі”».

Сям’я жыла добра і магла многае сабе дазволіць. Стэфан часта хадзіў з бацькам у рэстаран на абеды да пана Заянчкоўскага, які

* Obóz Zjednoczenia Narodowego (польск.) – “Лагер нацыянальнага аб’яднання”.

** Частка сучаснай вуліцы Калючынскай.

*** Частка сучаснай вуліцы Сацыялістычнай.

знаходзіўся пры тагачаснай плошчы Баторыя. Часта бывалі ў кавярнях і цукернях на Даміканскай.

«Мой тата вельмі любіў гродзенскае піва, памятаю, як ляжаў на ложку і піў. У нас жа ў Гродне піўзавод быў. І там рабілі такое піва “Horacy Heller”*, любімае ў бацькі.

Памятаю, на Гувера** быў афіцэрскі рэстаран, і там недзе ў 8 раніцы мы ішлі ў школу, а афіцэры яшчэ пілі, а побач з будынкам стаялі курвы***, нават, бывала, біліся паміж сабой за кліента. Казалі, што некаторыя з іх нават мелі нейкія дакументы на працу».

### *Яўрэйскія пагромы*

У восем гадоў Стэфан стаў як сведкам, так і ўдзельнікам вялікага яўрэйскага пагрому ў Гродне. Ён заходзіў у яўрэйскія крамы і выкідваў тавар на вуліцу, а нешта браў сабе.

«Тады ў горадзе пражывала шмат яўрэяў, можа нават больш, чым палякаў. Цэнтр дакладна яўрэйскі быў. Самы вялікі пагром на жыдоў адбыўся недзе ў 1935 годзе, калі ў Гродне нейкі яўрэй забіў прыезджага марака. Дзесьці на танцах марак прыгледзеў сабе яўрэйскую дзяўчыну і пайшоў з ёй, а яго дагнаў нейкі хлопец у браме і даў у плечы. Забіў.

Як хавалі гэтага паляка, ксёндз выступіў з патрыятычнай прамовай****. І пасля пахавання ўсе пайшлі на жыдоў. Тры дні маладыя хлопцы 18–20 гадоў хадзілі з палкамі і білі яўрэйскія вітрыны, а мы, дзеці, хадзілі за імі. Казалі нам усё з крамаў выкідаць на вуліцу. Памятаю, на плошчы Баторыя была добрая крама з роварамі, радыё, музычнымі інструментамі, то мы ўсё выкідалі. Крычалі тады: “Бі жыда”, а на кожным куце пісалі: “Не купляй у жыда”. У цэнтры стаяла паліцыя і салдаты, але ніхто не спрабаваў спыніць пагром. Была поўная свабода. Хто хацеў, той мог выносіць усё што заўгодна з яўрэйскіх крамаў. Адзінае, што я ўзяў, дык гэта цукеркі ў шкляной банцы. Дадому не панёс, схаваў каля дрэва». Стэфан баяўся,

* “Horacy Heller” – варшаўскае гандлёва-прамысловае таварыства, якое ў 1933 г. выкупіла гродзенскі бровар Марголісаў пасля банкруцтва ўласнікаў. Гэтая фірма валодала гродзенскім піўзаводам да 1939 г.

** Сучасная вуліца Тэльмана.

*** Kurwa (польск.) – прастытутка.

**** Паводле іншых версій, ксёндз, наадварот, хацеў супакоіць натоўп.



*Пасля пагрому. Каля моста праз Нёман, 1935 г.*

што даведаецца маці: яго не пускалі на пагромы, ён уцякаў. На трэці дзень пагромы ў Гродне спыніліся, людзі супакоіліся.

“Я б не сказаў, што палякі дрэнна ставіліся да яўрэяў у Гродне, усе жылі разам у адным горадзе. Але часам былі моманты на мяжы, праз гэта і адбываліся нейкія канфлікты. Была ў мяне яўрэйская суседка, Аняй клікалі. Малодшая за мяне, але яна мне падабалася – такая чорная, прыгожая. Вазіў яе на ровары, да лесу нават даязджалі. Не было ў нас праблем, што я – паляк, а яна – яўрэйка. Мы сябравалі і падабаліся адзін аднаму. Толькі пры немцах усё змянілася. Калі я прыехаў у горад, то бачыў яе. Яна ішла па дарозе і плакала, у той момант, калі я ішоў, як чалавек, па ходніку. Пасля яе забралі ў гета, і ўсё. Больш мы ніколі не бачыліся”.



*Барыкады на Старым мосце, зробленыя абаронцамі Гродна, 1939 г.*




*Савецкія танкі на подступах да Гродна, 1939 г.*
*Ілюстрацыя ў часопісе "Аганёк"*

### *"Гатовыя былі жыццё аддаць за Польшчу"*

У верасні 1939 года добрае жыццё сям'і Хацей у Гродне скончылася. Пачалася Другая сусветная вайна, бацька Стэфана пайшоў ваяваць супраць немцаў. А ў Гродна тым часам увайшлі савецкія войскі, якія папросту маглі вывезці Стэфана, яго маці і сясцёр у Сібір або расстраляць, але гэтага не адбылося.

"Бацьку забралі ў польскую армію яшчэ да пачатку Другой сусветнай. Тое, што немец будзе нападаць на Польшчу, мы ведалі, але ўсе казалі, што наша краіна моцная і зможа даць адпор ворагу. Войска было шмат, асабліва ў Гродне. Але немцы ў першы дзень вайны зрабілі налёты самалётамі. Даляцелі яны і да нашага горада, скінулі бомбы на масты і на склад пораху ў лесе. Але ў горад так і не ўвайшлі. А аб тым, што ў Гродна прыйдуць саветы, то мы нават і паняцця не мелі. Гэта цяпер ёсць тэлевізар і радыё, і інфармацыя імгненна перадаецца. А тады ніхто нічога не ведаў. Толькі камуністы і яўрэі рыхтаваліся да прыходу саветаў. Апраналі чырвоныя павязкі, стваралі сваю міліцыю і паказвалі, як праехаць. Казалі, што на

іншай частцы берага Нёмана, каля тытунёвай фабрыкі, яны нават паставілі прывітальную браму саветам”.

Калі некаторыя яўрэі збіраліся сустракаць рускіх, то палякі-патрыёты пачалі рыхтавацца да абароны горада. Разам з рэшткамі войскаў на вуліцах горада з’явіліся і маладыя студэнты, харцэры*.

“Мае старэйшыя сёстры пайшлі да абароны, вось яны і мяне прыцягнулі. Мы былі патрыётамі, і гатовыя былі жыццё аддаць за Польшчу. Абарона ў Гродне была ў некалькіх месцах. Калі ў горад увайшлі рускія, я быў на Ажэшкі, недалёка ад школы, дзе вучылася адна з сясцёр. Там у іх было некалькі стрэльбаў і іншая зброя, таксама яны налівалі бензін у бутэлькі і рыхтаваліся чакаць танкі. Мы стаялі пад мостам. У нас было некалькі бутэлек з запальнай сумессю. Калі першы танк пачаў ехаць, мы выбеглі і пачалі кідаць у яго гэтыя бутэлькі. Падпалілі адзін. Са мной тады былі сябры, сярод іх і Рышард Нойман – пратэстант, сын камісара паліцыі. Так яго на месцы забілі салдаты з другога танка, яны стралялі з кулямётаў. Потым, магчыма, і праехалі па ім. А я быў паранены ў руку, пашанцавала, што нават у жывых застаўся. У мяне была шапка прастрэленая і адзенне. З другім хлопцам мы ўцяклі з вуліцы і здолелі схавацца.

Спачатку боль ад ранення я не адчуваў, толькі потым убачыў, што здарылася. Мяне падхапіла сястра і яшчэ нейкі хлопец і павялі да доктара. Наклалі мне гіпс, і пасля гэтага я больш нікуды не выходзіў з хаты”.

### *“Усе мы баяліся”*

Стэфан кажа, што пасля абароны горада ён не выходзіў на вуліцу, бо людзі маглі пазнаць яго, а пасля выдаць савецкім салдатам.

“Страшна было, калі б які-небудзь яўрэй даведаўся, што я ўдзельнічаў у абароне, то здаў бы мяне хутка. Але нам пашанцавала, нашу сям’ю ніхто не выдаў. Дзесьці два тыдні мы яшчэ пажылі на Брыгіцкай і з’ехалі. Не было што есці нават, крамы зачыненыя. Сапраўдны голад быў, і тады мама прыняла рашэнне пакінуць Гродна. Яна на цягніку даехала да Саколкі і звярнулася па дапамогу да дзядулі. Праз некаторы час ён з фурманкай прыехаў у Гродна і забраў нас у вёску Паганіца. Так я пакінуў родны горад. Усе рэчы забраць не паспелі, але і ў вёсцы быў нядрэнны дом з усім выгодамі.

* Польская нацыянальная скаўцкая арганізацыя.

Бацька вярнуўся ў Гродна яшчэ пад канец 1939 года. Ён быў два месяцы ў саветаў у палоне, але яго адпусцілі, бо добра казаў на рускай мове. Ён прыехаў да нас у вёску і хаваўся там, баяўся, што па яго зноў прыйдуць. Усе мы баяліся".

### *У Гродна вярнуўся толькі пры немцах*

У 1940 годзе Стэфан ужо пайшоў вучыцца ў вясковую школу, вывучаў там рускую і нямецкую мовы. Наведаў родны горад ён толькі ў час нямецкай акупацыі.

«Вёска знаходзілася не так ужо і далёка ад Гродна, але там было бяспечна. Увосень 1941 года ў вёсцы быў пажар, і я выратаваў маленькае дзіця з хаты, якая палала. Сам пацярпеў, з апёкамі быў. Два месяцы ляжаў і нічога не бачыў. Скура злазіла, прыходзіла сястра і даглядала мяне. Пасля мы прынялі рашэнне з бацькам паехаць у Гродна. Як прыехалі, то пайшлі на Замкавую да знаёмага яўрэйскага лекара. Гета яшчэ тады не было. Прыйшлі да яго, а ён як за галаву ўзяўся і кажа: "Гэта добра, што вы да мяне гэтага хлопца прывезлі". За сеанс яўрэй браў 2–3 маркі. Бацька сам паехаў у вёску, а мяне пакінуў у Гродне ў сямейным доме, тады там жыў вартаўнік. Мне трэба было каля дзесяці разоў наведаць гэтага яўрэйскага лекара. Пакуль быў у Гродне, то сустракаўся са знаёмымі. Так адзін з іх мне сказаў: "Ты што, дурань, навошта платна да жыда ходзіш лячыцца. Немцы адчынілі на Маставой бальніцу". На наступны дзень я пайшоў туды. Прыняў мяне доктар у вайсковай вопратцы і белым халаце. Паглядзеў мае раны, нешта зрабіў і заклеіў. Мне нават балюча не было, і ён грошай не запатрабаваў. Бясплатна лячылі, а да яўрэя я ўжо не пайшоў. Пасля некалькіх працэдур я пакінуў Гродна і на веласіпедзе паехаў у вёску. Жыць у Гродна з тых часоў я больш і не вярнуўся. Жылі на вёсцы, на сваёй зямлі. Страх не дазваляў вярнуцца ў родны горад».

### *"Калі б адкрылі мяжу, на каленях прыпоўз бы"*

З 1941 года Стэфан Хацей толькі аднойчы быў у Гродне, у савецкія гады, па запрашэнні знаёмых. Зараз жа ён гатовы вярнуцца ў гэты горад.

"Саветы спачатку ў Гродне шукалі інтэлігенцыю, а пасля і немцы. Вывозілі і расстрэльвалі такіх людзей. Можа, нас і ўратавала,



*Стэфан Хацей, 2019 г.*

што мы з’ехалі з Гродна. Вярнуўся я ў родны горад толькі ў 1984 годзе, разам з жонкай прыязджалі.

Яшчэ да паездкі мне часта начамі снілася, як я іду ў нейкім касцёле і націскаю на педаль аргана, і дзьмуць мяхі ад яго. Але я не разумеў, дзе гэта. А як зайшоў у францішканскі касцёл і падняўся наверх, зразумеў, што менавіта гэтае месца мне сніцца. Там, дзе мяне хрысцілі. Уяўляеце, цэлае жыццё адзін і той жа сон, і гэта быў гродзенскі касцёл. З дзіцячых гадоў…

У той час наш дом на Брыгіцкай яшчэ стаяў, але там жылі вайскоўцы. Я сёння сумую па Гродне, калі б адкрылі мяжу, на каленях прыпоўз бы. Больш за ўсё сумую па Нёмане, нават па ўсім. Гэта мой родны горад, я б нават хацеў у ім памерці”.

# РЫМАРЧУКІ – КАРЭННАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ СЯМ'Я З ГРОДНА
## (Таццяна Саветкіна)

*Таццяна Аляксееўна Саветкіна (Рымарчук) нарадзілася ў 1935 годзе ў Гродне на вуліцы Вітальдовай. Праваслаўная. У канцы 1950-х пасля вучобы ў інстытуце пераехала ў Мінск, дзе жыве дагэтуль. У роднае Гродна прыязджае некалькі разоў на год.*

“Я карэнная гродзенка, мая сям’я ў гэтым горадзе жыве ўжо вельмі даўно. І мы праваслаўныя беларусы, заўсёды такімі былі. Гэта нягледзячы на тое, што многіх запісвалі пад іншай нацыянальнасцю. Гэта як мясцовыя каталікі сталі палякамі. Наогул, да вайны ў Гродне не называлі нацыянальнасць, проста казалі: праваслаўны, каталік або яўрэй”.

Таццяна Саветкіна нарадзілася ў сям’і карэнных гродзенцаў, якая жыве ў Гродне з першай паловы XIX стагоддзя (а можа, і больш, архіўныя звесткі не вызначаныя). Жанчына – стрыечная сястра вядомага гродзенскага калекцыянера Аляксандра Сяргеевіча Рымарчука. Іх агульны прадзед, Максім Тэадор Фёдаравіч Рымарчук, быў унтэр-афіцэрам Віленскага гарнізоннага батальёна. У сям’і захаваўся ўнікальны дакумент – указ Аляксандра II ад 20 снежня 1857 года аб адстаўцы унтэр-афіцэра Рымарчука М.Т., у якім на шасці старонках распавядаецца пра этапы баявога шляху прадзеда Таццяны Саветкінай, пра тое, што ён уступіў на службу рэкрутам 16 лістапада 1836 года, а 30 мая 1843 года яму было нададзена званне унтэр-афіцэра, што ён быў узнагароджаны “бронзовой медалью



*Таццяна Саветкіна з бацькамі на Ажэшкі, 1930-я гг.*

в память войны въ 1853, 1854, 1855, 1856 годах на Андреевской ленте и за безпорочную 20тилътнюю службу тремя нашивками изъ желтой тесьмы на лъвомъ рукавъ полукафтана".

З сярэдзіны XIX стагоддзя Рымарчукі пражывалі ў Занёманскім фарштаце, а з 1906 года на сучаснай вуліцы Бялінскага, дзе дзедам Таццяны Мікалаем Максімавічам "был возведен жилой дом, с хозяйственной постройкой и земельным участком 170 саженей".

"Ужо пры паляках мой бацька Аляксей Рымарчук быў кіроўцам, як і яго брат Сяргей. Апошні падпрацоўваў таксістам, ён меў сваю машыну, а бацьку запрасілі вазіць архірэя, уладыку Антонія. Тату ў царкве ведалі добра. Калі я нарадзілася, ён ужо працаваў у кансісторыі пры Свята-Пакроўскім саборы, не толькі вазіў уладыку, але і прыслужваў клірыкам. Маці не працавала, спявала пры саборы ў архірэйскім хоры. Там жа і з бацькам пазнаёмілася, ён таксама




*Бацька Таццяны (злева) у Архірэйскім падворку, 1930-я гг.*

хадзіў на хор. Усе жылі побач, а Гродна тады маленькім было, і ўсе адзін аднаго ведалі”.

### *“Старыя людзі былі незадаволеныя палякамі”*

Пасля нараджэння Таццяны яе сям’я першы час жыла ў падвальным памяшканні на Вітальдовай. Там былі два пакоі і кухня. Астатнія яе сваякі жылі ў раёне Новага Свету, на Красінскага і Жэромскага*.

“Мы часта туды хадзілі, я там і вырасла. Там жылі дзядуля з бабуляй з боку бацькі, а з боку маці бабуля жыла каля Архірэйскага падворка. Таты бацька працаваў у мясцовым магістраце, быў нейкім чыноўнікам. Нават неяк дзіўна, што праваслаўны чалавек займаў такую пасаду, бо за Польшчай складана некаталікам было прабіцца на высокую пасаду. Неяк на гэтую тэму ў сям’і мы ніколі не размаўлялі. Гэта цяпер думаю, чаму мала цікавілася сям’ёй, нават не задумваліся на гэты конт. Як і пра тое, чаму разабралі царкву

* Сучасная вуліца Ватуціна.



*Разбор царквы Аляксандра Неўскага, 1938 г.*

Аляксандра Неўскага* ў Гродне. Яна была там, дзе цяпер у парку вечны агонь.

Жыццё за польскім часам я нават і не памятаю, толькі з апавяданняў бацькоў. Казалі, што старыя людзі былі незадаволеныя палякамі праз разбурэнні цэркваў, як Аляксандра Неўскага, так і Сафійскага сабора, які перабудавалі ў каталіцкі храм. За палякамі ўціскалі праваслаўных. Таму, калі прыйшлі саветы ў Гродна ў 1939 годзе, то некаторыя праваслаўныя людзі былі рады, што нарэшце свае людзі прыйшлі".

### *"Свае ж расстралялі дзядзьку"*

У 1939 годзе пасля прыходу савецкай улады рэпрэсіі Рымарчукоў не закранулі, але іх сямейныя дамы нацыяналізавалі.

"Нашы сваякі працягвалі там жыць і сёння нават жывуць. У 1939 годзе тата ўладкаваўся працаваць кіроўцам у хуткай дапамозе

---

* Царква была пабудаваная ў 1869 г. У міжваенны час была гарнізоннай царквой для праваслаўных вайскоўцаў. У 1938 г. яе разабралі нібыта праз тое, што яна замінала руху. Замест яе мусілі пабудаваць новую царкву ў іншым месцы, але да верасня 1939 г. гэтага зрабіць не паспелі.

і прапрацаваў там да прыходу немцаў. У першыя дні вайны ў чэрвені 1941 года ён ездзіў па горадзе з калегамі і падбіраў параненых людзей. У гэтым жа годзе мы пераехалі да цёткі Соні на Жэромскага”.

Пры першых саветах брат бацькі Таццяны, дзядзька Сярожа, быў асабістым кіроўцам начальніка Дома афіцэраў на Ажэшкі. Калі пачалася вайна, ён дапамагаў яго сям’і ўцячы. “Яны пагрузілі рэчы і паехалі, трапілі ў акружэнне. Выбраліся, але іх расстралялі свае ж, праз тое, што ўцякалі. Лічылі здраднікамі і стралялі нават тых, хто з канцлагера вяртаўся, лічылі іх нядобранадзейнымі людзьмі. А потым многіх рэабілітавалі, такая наша гісторыя. Дарэчы, дзядзька Сярожа – гэта бацька вядомага гродзенскага калекцыянера Аляксандра Рымарчука”.

### *Немцы называлі Гродна Гартэнам*

За немцамі, калі сям’я Таццяны жыла на Жэромскага, на вуліцы размясцілася інфекцыйная бальніца. Туды часта прыводзілі палонных савецкіх салдат, якія хварэлі. З гэтай прычыны нямецкія салдаты сталі баяцца з’яўляцца на гэтай вуліцы, каб не заразіцца.

“Да гэтага немцы хадзілі па дамах і забіралі каштоўныя рэчы. У нашага бацькі забралі ровар і фотаапарат, якім было зроблена шмат здымкаў з нашай сямейнай калекцыі”.

«Падчас акупацыі мы, дзеці, стараліся з вуліцы нікуды не сыходзіць. Было небяспечна. Побач з намі, на сучаснай вуліцы 17 верасня, там, дзе раней жылі польскія афіцэры, пасяліліся нямецкія сем’і. Яны думалі, навечна сюды прыехалі. Наш горад яны называлі сваёй назвай “Гартэн”*. Дзеці з гэтых сем’яў прыходзілі часам да нас, а іх бацькі прыходзілі і забіралі іх, не дазвалялі з намі гуляць. А дзеці паміж сабой хутка знаходзілі агульную мову і гулялі».

### *Дапамога палонным*

У Гродне было шмат савецкіх палонных салдат. Па магчымасці сям’я Таццяны іх падкормлівала.

“Па вуліцах у горадзе часта вадзілі ваеннапалонных. Калі суправаджалі нямецкія салдаты, то можна было падкормліваць іх. Нямецкія салдаты былі звычайнымі людзьмі, якіх прызвалі ў армію. Прымушалі, як і нашых. З іх боку не было ніякага гвалту. Але

* Garten (ням.) – сад.



*Бацька Таццяны Аляксей Рымарчук, 1930-я гг.*

калі палонных суправаджалі мясцовыя паліцаі, то лепш было да іх не падыходзіць. Маглі і стрэліць".

Насупраць кірхі быў высокі плот з калючым дротам, там пакідалі ежу палонным. А яны, каб аддзячыць, выстаўлялі самаробныя цацкі або сувеніры. Маці Таццяны неяк назад выкінулі драўляны самалёцік у знак падзякі.

"Памятаю і яўрэяў. Іх чамусьці вадзілі па 17 верасня калонай, гналі кудысьці. Яны ціха і пакорліва ішлі. Адны дарослыя, дзяцей не было. Сумная карціна".

### *Радаваліся савецкім вызваліцелям*

У час акупацыі сям'я Таццяны не галадала. У большасці выпадкаў мясцовых ратаваў лес, дзе было шмат грыбоў.

Савецкіх вызваліцеляў яе сям'я сустракала з вялікай радасцю, як і іншыя жыхары вуліцы.

"Каб пракарміць сябе, мы пастаянна хадзілі па грыбы. Сушылі, асабліва баравікі. Хадзілі ў лес, які называлі Сольная Баля, гэта за Пышкамі, або ў Грандзіцкі, за горадам. У апошні часцей за ўсё. Там хвойнік быў і заўсёды шмат грыбоў".

У час вызвалення Рымарчукі былі на Жэромскага. Быў налёт, беглі ў падвал, там чакалі. Савецкая выведка страляла ноччу. "Бліжэй да раніцы грукаюць у акенца падвала – суседка Качанова крычыць, што нашы прыйшлі. Усе выбеглі, радаваліся".

Нямецкія афіцэры з 17 верасня ўцякалі з сем'ямі ноччу. Для іх стала нечаканасцю, што савецкія войскі так хутка ўвайшлі ў Гродна. "Немцы тым часам паспелі замініраваць шматлікія будынкі горада, але гарэла ў Гродне толькі адна пошта і нешта ў раёне вакзала. Гродна – гэта адзіны горад у Беларусі, які амаль не пацярпеў ад вайны".

### *Пасля вайны бацька пайшоў служыць святаром*

Пасля вызвалення Гродна Таццяна пайшла вучыцца адразу ў другі клас. А яе бацька Аляксей пайшоў служыць у царкву.

"Я пайшла ў школу № 7 на вуліцы Дзяржынскага. У розныя гады са мной вучылася ўся гарадская эліта, дзеці савецкіх чыноўнікаў. Усе яны жылі побач, у тым самым раёне на вуліцы 17 верасня, дзе спачатку жылі польскія афіцэры, потым сем'і немцаў, а за саветамі – гарадскія ўлады".



*Таццяна Саветкіна, 2019 г.*

У 1945 годзе бабуля Таццяны прапанавала яе бацьку ісці служыць у царкву. Казала, у горадзе няма мясцовых святароў. “Сям’я ў нас была вельмі набожная. Бацька паслухаў сваю маці і пайшоў служыць. Спачатку на самую нізкую прыступку – дыяканам. Служыў у Свята-Пакроўскім саборы да пачатку 1980-х гадоў. Быў протадыяканам. У савецкі час набажэнствы ў саборы праходзілі толькі на выхадных”.

Таццяна Саветкіна скончыла ў Гродне інстытут, адпрацавала размеркаванне ў вёсцы, а пасля пераехала ў Мінск да мужа. “Пра роднае Гродна ніколі не забывала, заўсёды прыязджаю. Тут мая сям’я і мае карані”.

# БАЦЬКА ПРЫ ПАЛЯКАХ ПРАЦАВАЎ У ТУРМЕ, ПРЫ САВЕТАХ СЯДЗЕЎ, А ПРЫ НЕМЦАХ ВАЯВАЎ І ЗАГІНУЎ

## (Люцына Владарчык)

*Люцына Францішкаўна Владарчык нарадзілася ў занёманскай частцы Гродна ў 1935 годзе. Каталічка. Усё жыццё жыве ў Гродне.*

### *Вескаўня і інтэлігент*

Маці Люцыны Владарчык была праваслаўная з роду Скрабко. Звычайная непісьменная дзяўчына, жыла ў вёсцы Лаша. У Першую сусветную яе сям'ю эвакуявалі ў Адэсу, але пасля вайны яны вырашылі вярнуцца на радзіму. Ад сямейнага дома нічога не засталося, рэчы, якія хавалі ў склепе, скралі. Бабуля Люцыны памірае, яе маці са сваім братам засталіся сіротамі. У вёсцы іх забралі да сябе сваякі. Маці Люцыны з ранняга ўзросту насіла жыта ў Гродна і прадавала яго там. У 14 гадоў яна са сваякамі перабралася ў Гродна, дзе яны пачалі будаваць дом на левым беразе Нёмана.

"Бацька з Владарчыкаў, сапраўдны інтэлігент. Ён прыехаў працаваць эканамістам у гродзенскую турму з Варшавы. Яго калега пачаў сустракацца з мамінай сяброўкай, і яна з ёй плялася пастаянна. На танцах мама горш за ўсіх была апранутая, але ўсе на яе глядзелі. Бацька яе ўгледзеў і аднойчы, калі быў у камандзіроўцы, прыйшоў да яе пад дом. Кліча Ганну, а паклікалі іншую жанчыну – брата жонку, таксама мела такое імя. Пасля паклікалі ўжо і маму, тады бацька пазнаёміўся з ёй бліжэй і прапанаваў, каб яна правяла яго на вакзал.




*Бацькі Люцыны Владарчык на вуліцах Гродна, 1930-я гг.*



*Люцына Владарчык, 1930-я гг.*

Дамовіліся сустрэцца на плошчы Баторыя. Прыйшла яна своечасова, а яго ўсё няма. 30 хвілін прастаяла, але не сыходзіла. У адзін момант падышоў бацька ў прыгожай ваеннай форме і сказаў, што ён за ёй назіраў з-за вугла – правяраў, ці будзе яна яго чакаць. Дачакалася. Пасля гэтай сустрэчы ён зрабіў ёй прапанову. Мама пагадзілася, але казала, што ёй было нейк няёмка, бо ён інтэлігентам быў. Да замужжа яна мела дачыненні толькі з вясковымі хлопцамі, якія і рукі маглі заламаць, і галаву выкруціць. Яшчэ да шлюбу бацька пісаў маці лісты на польскай мове, а яна не ведала яе і бегала да сяброўкі, каб тая перакладала".

### *Ішла вуліцай і прапала. Знайшлі ў яўрэяў*

Калі бацькі Люцыны ажаніліся, яны пайшлі жыць у дом да вялікай яўрэйскай сям'і. Здымалі там кватэру. Жанчына кажа, што нарадзілася ў яўрэяў і нават адзін час размаўляла на ідыш.

"У гэтых гаспадароў была вялікая сям'я, і мы ўсе разам некалі жылі ў іх доме. Усё было мірна – сябравалі. Пасля мы з бацькамі пераехалі на Млынарскую і жылі там недалёка ад дома вядомага доктара Нічыпарука. Мама трымала дома парсючкоў, а бацька нічога не разумеў у гэтым. Яна распавядала, што ў хаце ніколі не падвышалі голас. Бацька быў вельмі выхаваным і паважаным чалавекам. А калі вывозіў мяне ў вазку на вуліцу, то ўсім суседскім дзеткам пастаянна купляў марозіва. Жылі мы ўжо тады добра.

Памятаю, нейк гулялі з дзядулем у горадзе. Зайшлі да бацькі ў турму, пасля пайшлі на вуліцу Брыгіцкую, і я згубілася. Божа, што было тады. Бацька падняў усю турму, вайсковых і паліцыю ў горадзе, каб мяне знайшлі. А мне тады было дзесьці тры-чатыры гады.

Знайшлі мяне ў яўрэйскай сям'і. Баяліся, што на мацу яны мяне забралі, а тады ў горадзе так і казалі. Як усё было насамрэч, я не памятаю. Яўрэі казалі, што знайшлі мяне на вуліцы, а ў палякаў былі думкі зусім іншыя. Дзяўчынка ішла вуліцай і прапала… Галоўнае, што ўсё скончылася добра".

### *Бацьку арыштавалі, маці і дзяцей не чапалі*

Люцына Владарчык распавядае, што напярэдадні вераснёўскіх падзей 1939 года яе бацька паехаў у Варшаву да сваіх бацькоў. Там ён застаў вайну. Вяртанне ў Гродна для яго стала фатальным.

"Бацька ведаў, што будзе вайна з немцамі, і ў 1939 годзе паехаў у Варшаву да бацькоў. Тым часам у Гродна ўвайшлі рускія і сталі вывозіць сем'і польскіх ваенных і дзяржслужбоўцаў. Маці баялася, што прыйдуць і па нас. Мы доўгі час спалі ў зімовых валёнках і паліто, каб у выпадку чаго ўжо былі з цёплай вопраткай. Бо ўначы прыязджалі, загружалі ў кузаў і вывозілі. Калі ў адзін з дзён прыйшлі да нашага дому, то хтосьці аддаў загад, каб нас не чапалі. Дзіўна, але спасылаліся на тое, што тут жыве добрая сям'я, і гаспадар – асаблівы чалавек".

Пад канец 1939 года бацька Люцыны спрабаваў вярнуцца ў Гродна, яго схапілі за незаконнае перасячэнне савецкай мяжы і пасадзілі ў гродзенскую турму, дзе ён яшчэ нядаўна працаваў эканамістам. Але доўга ён там не прабыў, яго пачалі перавозіць з аднаго месца ў іншае. Ён стараўся пісаць жонцы запіскі. На шматку газеты або паперы, часам ён проста кідаў іх з тэкстам: "Хто знойдзе, то перадайце па адрасе…", і людзі падымалі і адпраўлялі ў Гродна. Апошняя такая запіска была з Брэста.

Пасля заканчэння Другой сусветнай маці Люцыны прыйшла тэлеграма з маскоўскай бальніцы, у якой гаварылася, што яе муж быў паранены, захварэў на тыф і памёр.

"Выявілася, тата ваяваў супраць немцаў. Яго як турэмшчыка адправілі на перадавую, і загінуў ён недзе пад Масквой. Мы не ведалі гэтага і чакалі яго, спрабавалі ў Гродне неяк выжываць. Ад таго багатага польскага жыцця практычна нічога не засталося. Пры першых саветах мама неяк круцілася, каб нас з сястрой пракарміць. Памятаю, яна купляла гарэлку і тут жа перапрадавала яе п'яніцам, быў невялікі заробак. А чэргі па алкаголь былі тады велізарныя.



*Люцына падчас нямецкай акупацыі, 1943 г.*

Яшчэ нас ратавала печка. Мама пякла булачкі і хадзіла на кірмаш іх прадаваць. Дзесьці ў 1940 годзе мама здала сястру ў дзіцячы дом праз тое, што не было чым яе карміць. Мы хадзілі да яе часта. Але прабыла сястра там усяго два тыдні, моцна хварэла, і мы яе забралі. Ляжала ў ізалятары. Ужо дома ёй стала лепш, вельмі рада была, што вярнулася да сям'і".

### *"Здзекаваліся з людзей фашысты, а не звычайныя нямецкія вайскоўцы"*

У 1941 годзе ў час нямецкай акупацыі Люцына з маці перабралася жыць да сваякоў, якія жылі паблізу ад Леванабярэжнай. Недалёка ад той пабудовы быў дом з добрым падвалам, і падчас бамбавання многія жыхары там хаваліся.

Пры немцах сям'і было цяжка выжываць, і яны пайшлі ў дом да дзядзькі Люцыны. Ён працаваў машыністам на чыгунцы і актыўна дапамагаў камуністам падтрымліваць сувязь з горадам. Але ў адной з паездак яго цягнік спалілі, і ён загінуў. Хто гэта зрабіў – невядома.

"У нас на вуліцы ў дамах рассяляліся нямецкія салдаты. Мама магла з імі спакойна размаўляць, бо ведала ідыш. Памятаю, як на



*Люцына Владарчык, 2019 г.*

вуліцы хтосьці забіў салдата, і прыйшлі аўтаматчыкі, сталі людзей выводзіць на вуліцу і хацелі ўжо расстрэльваць. Ім важна было знайсці чалавека, які страляў. Мама выйшла і загаварыла з імі, неяк атрымалася дамовіцца".

"Немцы даволі добра ставіліся да нас, дзяцей, увесь час нечым частавалі, напрыклад, цукеркамі. Мама лаялася і казала, каб не бралі, а то пакладуць атруту. Забараняла хадзіць у лес да іх, а яны стаялі недалёка ад яўрэйскіх могілак. Але ніхто нас не крыўдзіў з салдат. Ніколі. Там былі маладыя хлопцы, якіх прызвалі ў войска. Здзекаваліся з людзей фашысты – карныя атрады".

Побач з домам былі палі, сям'я Люцыны садзіла там бульбу і харчавалася гэтым. Так яны працягнулі цэлую вайну. У час бамбавання яны спачатку сядзелі ў хованцы, якую зрабілі на гарышчы, а пры адступленні немцаў схаваліся ў склепе суседзяў. Прабылі там шмат часу, а калі выйшлі, на вуліцах ужо хадзілі савецкія салдаты, якія вызвалілі горад.

# ПАДПАЛІЎ РАТУШУ, КАБ УРАТАВАЦЬ ГРОДЗЕНЦАЎ
## (Караль Калвейт)

*Караль Ігнацьевіч Калвейт нарадзіўся ў Граеве[*] ў 1929 годзе. У Гродна з бацькамі пераехаў у 1933 годзе. Пасля вайны рэпатрыяваўся ў Польшчу.*

Першае знаёмства Караля з Гроднам было звязана з вуліцай Цмэнтарнай[**] паміж старымі праваслаўнымі і каталіцкімі могілкамі. Яго сям'я жыла там у драўляным доме, недалёка быў Нёман. Бацька Караля быў польскім афіцэрам, ротмістрам[***]. Ён рэдка бываў дома. Маці Караля працавала краўчыхай на вуліцы Ерусалімскай. Неўзабаве сям'я перасялілася ў дом побач з гарадскім тэатрам.

«У той момант маці з бацькам разышліся, гэта былі справы дарослых, і я не ўмешваўся. Пасля гэтага маці складана стала мяне ўтрымліваць, і яна аддала мяне ў дзіцячы дом на вуліцы Пілсудскага[****]. Там было добра, дзяцей усім забяспечвалі, на выхадныя яна магла мяне забіраць. Былі ў гэтым доме дзеці з розных польскіх і беларускіх сем'яў. Апека вельмі добрая, кармілі і апраналі. З гэтага прытулка я пайшоў вучыцца ў школу "батаруўку". Часам на выхадныя і вакацыі з аднакласнікамі нас вадзілі ў Пышкі. Там быў каменны дом для дзяўчынак і драўляны для хлопчыкаў. Была і каплічка, спецыяльна прыязджаў ксёндз для службаў».

---

[*] Горад у сённяшнім Падляшскім ваяводстве ў Польшчы, да вайны – цэнтр павета Беластоцкага ваяводства.

[**] Сучасны 4-ы Падольны завулак.

[***] Званне ў польскім войску.

[****] Сучасная вуліца Леніна.



*Караль (першы злева ад жанчыны)*
*з сябрамі пасля першай камуніі, 1930-я гг.*

## *Залазілі на дах Фарнага касцёла, каб уразіць сяброўку*

У выхаванцаў дзіцячага дома быў вольны час: можна было займацца ў спартыўных секцыях, а пры жаданні ісці з выхавацелямі або бацькамі прыслужваць у касцёлах ці цэрквах. Караль быў міністрантам* у Фарным і Гарнізонным касцёлах, часам хлапчукоў запрашалі прыслужваць і ў іншыя храмы.

“У дзяцінстве мы былі хуліганамі, і часам праз нашую дурасць ксяндзам даводзілася нас выганяць. Але праз некаторы час яны ўсё роўна па нас прыходзілі. Аднойчы, каб уразіць сваю сяброўку Гертруду, якая жыла на Віленскай, мы з сябрам Збышкам залезлі на дах Фарнага касцёла. Гэта цяпер думаеш: як гэта магчыма, але тады пра гэта не думалі. Гертруда сказала, што гэта адважны, але дурны ўчынак. Можна было ўпасці, але ўсё з намі было добра”.

«Мы паважалі дзяўчат і хацелі ім спадабацца. Не дай бог, калі хтосьці пры дзяўчыне скажа слова “халера”, гэта было некуль-

* У каталіцкай традыцыі – прыслужнік ксяндза на набажэнствах.



*Караль (справа) з сябрамі ў гарадскім парку, 1940-я гг.*

турна. Яшчэ да вайны многія з нас былі харцэрамі, і калі нехта хацеў папаліць, то здымаў спецыяльны крыж у кішэню і толькі тады курыў. Харцэры не павінны былі паліць, мы былі прыкладам для іншых.

Наогул, мы стараліся сябе паводзіць як дарослыя. Калі заляцаўся да Гертруды, то і торбу насіў за яе, і запрашаў на шпацыры. Гэта было за шчасце – правесці яе дадому або над Нёманам на Замкавай гары разам пасядзець. Гэта быў найлепшы час у Гродне».

## *“Лепш польскую булку, чым жыдоўскую”*

Хуліганіў Караль з сябрамі не толькі ў касцёлах, але і на вуліцах. Часта іх дзіцячыя жарты былі звязаны з яўрэямі.

«У Гродне перад вайной было шмат яўрэяў. Гандлявалі яны ў цэнтры актыўна, хадзілі да іх, і гэта нягледзячы на палітыку “не купляй у жыда”. Бо танней было. Паліцыя карала за антыяўрэйскія надпісы ў горадзе. Памятаю, адзін час мы білі з рагаткі вітрыны аднаму яўрэю. Ён нерваваўся, а побач хадзіў паляк і ўсё крычаў, што ўстаўляе шкло. У нас была дамова з гэтым шкляром – якую вітрыну паб’ём, такі і заробак. У сярэднім ён даваў 5 грошаў, за іх можна было купіць салодкую булку, цукерку ці шакалад. Яўрэй жа зразумеў, у чым справа, і неяк падышоў да нас і сказаў: “Вы як б’яце шкло ў жыда, то маеце грэх у пана ксяндза. Вам за гэта плацяць 5 грошаў, але я гатовы 10 даць і вы больш біць мне не будзеце. Тады ў вас не будзе і граху”». Часам хлопцы згаджаліся з яўрэем, а часам пасылалі яго куды падалей і казалі, што лепш будуць есці польскую булку за 5 грошаў, чым жыдоўскую за 10.

«Яшчэ памятаю выпадак, як жартавалі з яўрэяў. Яны ж у сінагогах маліліся і часта вокны адчынялі. А мы туды неяк варону запусцілі і крычым: “Вось ваш месія!”. У сінагозе крык і шум, а мы ўцякаем. Яўрэі крычалі нам у адказ: “Вы – хуліганы з Пагулянкі*!”. Ну гэта так, дзіцячыя забавы, а наогул з яўрэямі мы сябравалі. Побач некаторыя жылі, то ў футбол разам гулялі. Напрыклад, Юрэк і Мойша за адну каманду, а Алёша і Янак за другую. Нармальна было. Так і жылі да вайны».

### *Чакалі вайну з немцамі і збіралі грошы*

У дзіцячым доме Караль прабыў да пачатку Другой сусветнай вайны. 1 верасня 1939 года, калі ў небе над Гроднам з’явіліся нямецкія самалёты, група Караля знаходзілася ў Пышках.

«Праз некалькі гадзін пасля налёту авіяцыі па мяне прыехала маці і забрала мяне. А так выхавальнікі дзяцей не адпускалі. Казалі, што ў Пышках бяспечней, чым у горадзе. Натуральна, у школу мы не пайшлі праз вайну. Вайны з немцамі мы чакалі і збіралі грошы для войска. Яшчэ пасля заканчэння навучальнага года перад намі выступаў дырэктар “батаруўкі” і казаў пра складаны час і цяжкасці, якія чакаюць нашу краіну».

Маці забрала Караля з Пышкоў у дом каля тэатра. Першы час нямецкія самалёты яшчэ лядалі над горадам, але бліжэй да сярэдзіны верасня перасталі. У Гродне з’явіліся чуткі, што рускія прыйдуць дапамагаць палякам у вайне з немцамі, але выйшла інакш. “Яны ішлі забіраць нашы землі сабе. У Гродне некаторыя яўрэі сустракалі камуністаў, будавалі брамы вітальныя. Пачыналі страляць у польскіх салдат”.

“Мы з мамай у адзін з дзён ішлі Дамініканскай, і нас спыніў польскі афіцэр. Сказаў, каб мы тут не хадзілі, бо яўрэі страляюць. А тады яшчэ ў Гродна не ўвайшлі савецкія войскі. Адзін такі яўрэй страляў з акна па салдатах, дык яго падлавілі і падстрэлілі”.

### *Бралі зброю і беглі на крык*

Паводле ўспамінаў Караля, барацьба з бальшавікамі ў 1939 годзе ў Гродне пачалася з вуліцы Скідзельскай. Там былі першыя баі, пасля пачалася абарона каля моста.

* Да вайны – раён прыватнай забудовы ў ваколіцах вуліц Лідскай і Татарскай, сённяшні раён кінатэатра “Усход”.

“Не пускалі ў Гродна рускіх. Потым яны пачалі прарывацца праз Нёман. Спачатку танкамі, а пасля пяхотай. Гродна абаранялі вайскоўцы, студэнты, моладзь і падлеткі. Усе, хто хацеў абараняцца, беглі на стрэлы. Пасля саветы прарваліся праз мост і ўвайшлі ў горад вуліцай Маставой, але і там абарона працягнулася. На вуліцах з’явілася французская гармата, якую знайшлі ў адной з казармаў. Было для яе некалькі патронаў. У горад уехала каля пяці савецкіх танкаў”.

У падвале дома каля тэатра дзеці налівалі ў бутэлькі бензін. Пыталіся ў старэйшых хлопцаў, для чаго гэта, а тыя адказвалі: “Гэта не вашая справа, а наша”. Гатовыя бутэлькі выносілі на вуліцу, старэйшыя кідалі іх у танкі.

«Мяне маці не пусціла на вуліцу, я праз акно глядзеў, што адбываецца. Памятаю, як машына пад'язджала на вуліцу, адтуль выйшаў паліцэйскі і выдаваў зброю добраахвотнікам, там былі і маладыя дзяўчаты. Бралі зброю, а пасля беглі туды, дзе крычалі, што б’юць саветаў. Казалі, што савецкія салдаты крычалі абаронцам: “Мы вас прыйшлі вызваліць”. Але людзі абараняліся і некалькі танкаў здолелі падпаліць. У выніку рускія адолелі абаронцаў і ўвайшлі ў горад. Усіх, хто прымаў удзел у абароне, вылоўлівалі і расстрэльвалі, паводле некаторых дадзеных, расстралялі каля 300 абаронцаў. У палон не бралі нават тых, хто забарыкадаваўся ў Доме афіцэраў. Яны спачатку адстрэльваліся, а пасля здаліся. Іх расстралялі».

### *Жонкі камандзіраў везлі бульбу і сухары*

Абарона Гродна доўжылася тры дні. Паводле Караля, калі скончыліся арышты і расстрэлы абаронцаў, пачаліся савецкія мітынгі і агітацыйныя праграмы.

«Калі ішоў вуліцай, камуністы вылоўлівалі і запрашалі ў кіно ці тэатр. Там выступаў нейкі яўрэй: распавядаў, як палякі іх мучылі, што было вельмі дрэнна за Польшчай, і як стала добра з саветамі. Усё хутка змянялася, яўрэі пачалі казаць так: “Ну ўсё, палякі нас больш не будуць мучыць. Цяпер мы не жыды, а яўрэі”. З часам савецкая ўлада пачала людзей вывозіць. Цэлымі сем’ямі ў вагонах на Сібір. Не рускія людзі былі нашымі ворагамі, а савецкая ўлада. Былі і добрыя салдаты, некаторыя жонкі камандзіраў дапамагалі мясцовым».



*Караль (злева) з сябрам каля Фарнага касцёла, 1940-я гг.*

Калі саветы прыйшлі, яны шмат чаго не разумелі. «Ім распавядалі, што яны едуць на захад вызваляць народ ад польскіх паноў, думалі, голад у нас. Савецкія камандзіры прывозілі з сабой у Гродна свае сем'і. Жонкі іх везлі да нас сухары і бульбу, каб дапамагчы. З іх дзяцей мы смяяліся. Былі выпадкі, што савецкія дзеці насілі ў кішэнях "маскаліка" – малога селядца, якога на вуліцы даставалі і пасмоктвалі. Прапаноўвалі мясцовым, а нам дзіка было на гэта глядзець. Гналі іх».

Рускім падабаліся польскія тавары. "Памятаю, як адзін прасіў у нас гарэлкі мясцовай. Мы вады ў бутэльку налівалі, лакам абводзілі манету польскую з арлом і ставілі пячатку, дзе-небудзь нешта дапісвалі. Калі салдат бачыў на бутэльцы арла, то адразу думаў, што добры тавар. Бывала, давалі ім і добрую гарэлку, але за гэта нас падвозілі ў пэўныя месцы або дзяліліся якой-небудзь інфармацыяй".

### *Агітавалі ўступаць у піянеры*

Дзесьці ў кастрычніку 1939 года ў дом сям'і Калвейтаў прыйшлі супрацоўнікі НКУС і далі распіску, што яны павінны пакінуць жыллё каля тэатра. Узамен сям'і далі пакой на Парахавой.

«На гэтай вуліцы мы жылі ўтрох: маці, бабуля і я. Побач былі казармы. За саветамі я пайшоў яшчэ вучыцца ў "батаруўку". Усяго адзін дзень там правучыўся, бо прымушалі размаўляць на рускай мове. Дзеці плакалі і казалі, што хочуць вучыцца на польскай. Пасля таго, як я атрымаў па твары і пачуў абразы ў свой адрас, я больш не пайшоў у гэтую школу. Маці запісала мяне ў іншую, на вуліцы Вітальдовай. Там нам выкладалі па-польску, але і агітавалі ўступаць у піянеры. Я не ўступіў, але сваё абяцанне да гэтага часу памятаю: "Я, юный пионер, даю пример: курить табак, гонять собак, ловить котов и бить жидов"».

«Яўрэі таксама з нас смяяліся, казалі: "Ты, польская морда, дзе ваша Польшча? Ужо вашай Польшчы няма". Тады мы прапаноўвалі яўрэям ехаць у Палестыну: "Варшава і Кракаў для палякаў, а вы жыды і свінні, вон да Палестыны". Мы былі дзецьмі: спачатку лаемся паміж сабой, а потым гуляем у футбол або іншыя гульні. Але калі нас абражалі, мы заўсёды адказвалі».

У той час на вуліцах стараліся гаварыць на польскай мове, а калі прымушалі размаўляць па-руску, адказвалі салдатам: "Това-

рищ Сталин не запрещает разговаривать на польском языке”. Гэта была найлепшая абарона: супраць Сталіна ніхто не ішоў.

“Маладыя яўрэйкі тым часам стараліся спадабацца савецкім камандзірам, нейкія з іх выходзілі замуж. За маёй маці спрабаваў бегаць адзін такі, запрашаў нават у кіно. Неяк ён пераапрануўся ў цывільную польскую вопратку і прыйшоў да нас, але мама сказала, што нікуды з ім не пойдзе, бо суседзі будуць смяяцца.

Цяжка было за першымі саветамі, вельмі. Бабуля ўладкавалася ў чыгуначнае дэпо. А маці не працавала, у асноўным займалася хатнімі справамі. Бацька як з’ехаў у жніўні 1939 года на вайну, так і не вярнуўся”.

### *Пераезд на Паўночную*

Пасля двух гадоў жыцця з саветамі ў Гродна ўвайшлі нямецкія часткі. Гэта стала нечаканасцю для Караля. Тады кватэра яго сям’і пацярпела ад налёту нямецкай авіяцыі.

“Немцы як напалі, то адразу скідалі бомбы на Гродна. Шмат кідалі, і адзін са снарадаў трапіў у наш дом на Парахавой. Побач былі казармы, і сцяна адной з іх звалілася на нашу кватэру. Мы моцна не пацярпелі. Толькі пыл патрапіў мне ў вочы, я першы час нічога не бачыў. Усё балела. З хаты нас выцягвалі суседзі. Калі стаў мыцца, толькі потым патроху бачыў. Праз некаторы час пайшлі да лекара, і мне выпісалі акуляры”.

Калі пачалася вайна, маці Караля стала шукаць новую кватэру. Знайшлі нядрэннае жыллё на Паўночнай: яўрэйскую кватэру, уладальнікаў якой забралі ў гета. Там былі два пакоі, кухня, засталіся некаторыя яўрэйскія рэчы.

«У гэтым двухпавярховым доме жыло пяць сем’яў. На першым паверсе – румын Маймеска і сям’я маёй дзяўчыны Надзі, яны былі ўкраінцамі. З ёй мы адзін для аднаго на “вы” былі. У нас з Надзяй каханне было. Калі хтосьці казаў, што Надзя непрыгожая, то я гатовы быў у морду даць. Вельмі прыгожая дзяўчына. Пасля вайны ў нас сувязь абарвалася. У Надзі быў брат Алёша. Ужо за другімі саветамі яго ў армію адпраўлялі. Усім домам. Гэта быў наш сябар, наш сын, наш брат Алёша». У доме ўсе сябравалі.

“Дарэчы, саветы як уцякалі з Гродна, то выраблялі страшныя рэчы. Напрыклад, да прыходу немцаў усіх вывезці і расстраляць

з турмы яны не паспявалі, таму шукалі хуткія спосабы знішчэння вязняў. Казалі, што нават адчынялі дзверы і кідалі гранаты ў камеру з людзьмі. А былі там і крыміналісты, і добрыя людзі, якіх пасадзілі за палітыку. Людзі, якія не падабаліся саветам. Гродзенцы пасля сыходу рускіх хадзілі ў турму і шукалі сваіх сваякоў, але шматлікіх ужо не было сярод жывых".

### *За таемную вучобу – у працоўны лагер*

Падчас нямецкай акупацыі Караль дапамагаў яўрэям у гета на вуліцы Скідзельскай, насіў ім ежу. Праз некаторы час малады гродзенец і сам апынуўся ў працоўным лагеры, дзе прабыў два з паловай гады.

"За немцамі ўжо было не да жартаў, яўрэі апынуліся не ў найлепшым становішчы. Людзі ім дапамагалі, насілі ежу. Я сам некалькі разоў кідаў перадачкі ў пэўнае месца, а потым ужо малыя яўрэі забіралі іх. Вязняў калі лавілі, то вешалі на браме дамоў. Небяспечна было мець зносіны са знешнім светам".



*Караль Калвейт, 1940-я гг.*

У час нямецкай акупацыі маці Караля працавала на закрытай кухні, гатавала ежу для салдат. Пасля – на іншай кухні, на вуліцы Скідзельскай, дзе было паселішча вясковых людзей пасля гета.

Караль хадзіў на таемныя заняткі, непадалёку ад дома на Паўночнай. Там вывучалі розныя прадметы па-польску. "Нехта данёс, і нас усіх злавілі. Дзяцей адправілі ў былую рамесную вучэльню на Падольную, там быў працоўны лагер, а настаўніцу – у турму. На Падольнай я працаваў спачатку токарам, потым займаўся іншай працай. Там-



*Караль Калвейт на вежы Фарнага касцёла, 1940-я гг.*

сама і жыў. Побач са мной былі як хлопцы 12 гадоў, так і дарослыя мужчыны. Тэрыторыя была агароджаная калючым дротам з боку моста. Недалёка была крама, там працавалі дзве маладыя немкі, Эма і Эрыка, можа, гадоў па 16 ім было. З Эмай я пасябраваў, яна мяне вучыла нямецкай, а я яе – польскай".

### *Уцёкі з лагера*

Летам 1944 года, калі Чырвоная армія ўжо ішла на Гродна, Эма дапамагла Каралю ўцячы з лагера.

"Яна мне сказала, што ўначы будуць эвакуяваць лагер, напэўна, у Германію. Сказала мне ўцякаць з боку чыгуначнага моста. Там будзе стаяць нямецкі салдат, але ён не абыходзіць лагер, яго цікавіць мост. Уцякалі мы ўначы з сябрам Яцэвічам. Пралезлі праз калючы дрот і выйшлі да дамоў, схаваліся ў хляве. Думалі, хто там жыве, палякі ці немцы?".

Раніцай з'явіліся гаспадары, пачалі гаварыць па-польску, тады хлопцы выйшлі і прадставіліся. Гаспадары схавалі іх у сябе і далі цывільную вопратку замест працоўнай. "Прасілі гэтых людзей па-

ведаміць нашым родным, што мы ўцяклі, але яны адмовіліся гэта рабіць, сказалі, што на гэтым этапе лепш сядзець ціха і нікому нічога не казаць".

У гэтым доме каля моста хлопцы прабылі да таго моманту, пакуль у Гродна не ўвайшлі рускія. "Страляніна была вельмі блізка, а мы ўжо з сябрам праз цэнтр вярталіся дадому. Саветы на адным баку горада стаялі, а немцы на другім беразе Нёмана акопы капалі. Дзякуй гэтай Эме, інакш бы вывезлі нас куды-небудзь. Эму я спаткаў пасля вайны ў Польшчы, сустракаліся як добрыя прыяцелі. Потым яна з'ехала ў Германію".

### *Спаліў дакументы ў былой ратушы*

Пасля вызвалення Гродна Караль з маці некаторы час яшчэ працягваў жыць у горадзе, але пасля яны вырашылі з'ехаць у Польшчу як рэпатрыянты.

"Мы думалі, Гродна будуць вызваляць польскія салдаты, і горад вернуць Польшчы, але не. Вельмі пераймаліся праз гэта, і мала хто хацеў пакідаць родны горад, але трэба было ехаць. Калі з'язджалі, то казалі сабе, што вернемся ў Гродна, але ніхто не вярнуўся".

Перад ад'ездам Караль з сябрамі падпаліў скрыні з дакументамі ў былым будынку гродзенскай ратушы, які стаяў на сучаснай Савецкай плошчы. У час першых саветаў там былі ўсе паперы на гараджан. Улады ведалі, хто кім быў за польскім часам, і карысталіся гэтым: арыштоўвалі людзей, пасля вывозілі. Пасля вайны гэты будынак зноў сталі выкарыстоўваць і зноў пачаліся арышты.

"Некалькі падлеткаў, у тым ліку і я, падпалілі скрыні, але прыехалі пажарныя і залілі ўсё вадой. Як мы падпальвалі: бралі каністру і шнурок, вымачаны ў бензіне. Адзін загаворваў ахоўніка, другі падпальваў. Першы раз не атрымалася, толькі на другі раз здолелі падпаліць. Як гарэла ратуша, мы глядзелі з вежы Фарнага касцёла. Другі раз ужо кінулі гранату. Страшна не было, мы былі маладымі і дурнымі. Мы нездарма гэта рабілі, так трэба было"*.

* Гісторыя з падпалам ратушы К.Калвейтам не пацвярджаецца гістарычнымі крыніцамі.



*Караль Калвейт у польскім войску, канец 1940-х гг.*

## *“Пакідаю роднае месца і еду ў невядомы мне свет”*

«Палякі сталі з’язджаць з Гродна адразу пасля вайны. У Доме афіцэраў быў польскі рэпатрыяцыйны пункт. Там нам далі даведку на выезд у Польшчу.

Мы з маці выехалі з Гродна, бо баяліся, што даведаюцца пра маю дзейнасць і вывезуць у Сібір. Хто-небудзь мог выдаць, трэба было тэрмінова з’язджаць. За дзень да ад’езду я падняўся на вежу Фарнага касцёла і цвіком напісаў: “Я, Караль Калвейт, пакідаю роднае месца і еду ў невядомы мне свет”».

У студзені 1945 года сям’я пакінула Гродна і прыехала ў Саколку. Ехалі два тыдні. Спачатку цягнік паехаў на ўсход, людзі сталі хвалявацца, плакаць і думаць, што іх вязуць у Сібір. «Праехалі да нейкага дэпо, там некалькі дзён стаялі, потым – назад у Гродна, і ўжо адтуль паехалі ў бок Польшчы. Праехалі Караліно і Ласосна. Праязджаем яшчэ трохі, і стаяць чырвонаармейцы, правяраюць дакументы, а ўдалечыні – польскія салдаты. Той момант, калі быццам ты і ў Польшчы, але яшчэ могуць вярнуць. Праверылі дакументы, і цягнік праехаў яшчэ каля 500 метраў. Увайшлі палякі і гучным голасам: “Dzień dobry państwu! Witamy w Polsce!”*. Усе пачалі плакаць і цалавацца з гэтымі жаўнерамі. Паехалі далей, там Кузніца і Саколка. У Польшчы на кожнай станцыі стаялі пункты з лекарам і кухняй. Таксама рэпатрыянтам давалі грошы і пыталіся: куды хочаш ехаць, дзе маеш сваякоў у Польшчы і гэтак далей. Мы планавалі ехаць да Эльблонга, але прабылі ў Саколцы каля шасці месяцаў».

Там Караль пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай, якая таксама была родам з Гродна. Толькі потым, ужо разам, яны паехалі ў Элк і Эльблонг. Караль пайшоў у польскае войска, пасля ўладкаваўся міліцыянтам і ездзіў па розных гарадах. Цяпер ён жыве ў Слупску – горадзе-пабраціме Гродна.

## *“Дзе ўсе тыя гродзенцы…”*

Вярнуўся Караль у Гродна толькі ў пачатку 1990-х, калі развалiўся Саюз і з’явілася Рэспубліка Беларусь.

“Праз столькі гадоў я вярнуўся ў родны горад. Гродна быў тым жа старым месцам, знаёмыя вуліцы, але вось людзі ўжо былі іншымі.

* “Добры дзень! Вітаем у Польшчы!” (польск.).



*Караль Калвейт, 2019 г.*

Калі ішоў Дамініканскай, мяне парадаваў звон нашых храмаў, адразу ўспомніў дзяцінства. Схадзіў да замка на сваё любімае месца. Сеў на старыя муры і глядзеў на Нёман, як у дзяцінстве з Гертрудай. Сядзеў і ўспамінаў тыя добрыя гады, як плавалі на Нёмане і спявалі на набярэжнай. І думаў – дзе ўсе тыя гродзенцы, якія вымушаныя былі пакінуць родны горад?”.

# ФОТАЗДЫМКІ З АРХІВАЎ ГРОДЗЕНЦАЎ



*Доктар Іван Нічыпарук (у цэнтры), 1930-я гг. У першыя дні вайны, ратуючы чужыя жыцці ў Гродне, ён не раз рызыкаваў сваім уласным. Фота з архіва сям'і Закшэўскіх*



*Пасля першай камуніі, 1930-я гг. Фота з архіва сям'і Далькевічаў*



*Від на Гродна з аркі разбуранага дома, 1944 г.*



*Будынак кляштара бернардзінак, 1944 г.*
*На яго месцы сёння стаіць Гродзенскі абласны драматычны тэатр*



*Руіны вуліцы Мяшчанскай, 1944 г.*



*Дзіцячы садок пры францішканскім касцёле, 1942 г.*
*Фота з архіва сям'і Раманоўскіх*



*Рэканструкцыя Гарнізоннага касцёла, 1930-я гг.*



*Вайсковыя вучэнні ў гродзенскай моладзі, 1939 г.*



*Падчас маршу гродзенскай моладзі на вайсковых вучэннях, 1939 г.*
*Фота з архіва сям'і Івашчанкаў*




*Юны гродзенец у касцюме польскага ўлана, 1930-я гг.*
*З архіва сям'і М. Шчэнснага*



*Марыя Гецэвіч з маці ў заапарку, 1930-я гг.*
*Фота з архіва сям'і Дзежыцаў*



*Марыя Гецэвіч (справа) з сястрой, пач. 1940-х гг.*
*Фота з архіва сям'і Дзежыцаў*



*Люцына Владарчык (на руках, у цэнтры ) з маці ў гродзенскім шпіталі, 1930-я гг. Фота з архіва сям'і Владарчыкаў*



*Будаўніцтва Чырвонага моста праз Нёман у раёне Румлёва, 1920-я гг. Фота з архіва сям'і Владарчыкаў*



*Маці Люцыны Владарчык (злева) з сяброўкай на Дамініканскай, 1930-я гг.*
*Фота з архіва сям'і Владарчыкаў*



*Таццяна Саветкіна, 1930-я гг.*



*Таццяна Саветкіна (у цэнтры) ідзе па Ажэшкі з маці і цёткай, 1930-я гг.*
*Фота з архіва сям'і Рымарчукоў*



*Караль Калвейт са сваім настаўнікам па скрыпцы,*
*1940-я гг. Фота з архіва сям'і Калвейтаў*



*Сям'я Мінючыц каля дома на Міцкевіча, 1930-я гг. Фота з сямейнага архіва*



*Вяселле ў цэнтры Гродна ў час нямецкай акупацыі, чэрвень 1944 г.*
*Фота з архіва сям'і Кідзюн*



*Гродзенкі на набярэжнай Нёмана, 1930 г. Фота з архіва сям'і Кідзюн*

# ІМЯННЫ ПАКАЗАЛЬНІК

# ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

## *Вуліцы Гродна*

## *Вёскі*

***З'яўленню гэтай кнігі паспрыялі фундатары:***

Віктар Паканечны, Аляксей Лук'янчык, Кацярына Радзько, Аліцыя Тодуа, Артур Басак, Дзмітрый Скок, Ілона Радзюкевіч, Аксана Пуш, Сяргей Сідаровіч, Вікторыя Голуб, Анастасія Астаф'ева, Віктар Камягін, Юрый Карпач, Лізавета Гаўкалюк, Таццяна Казак, Таццяна Лобань, Віталь Папко, Эла Дудзіна, Павел Цыдзік, Іван Лісіцын, Вольга Гаўрылік, Мікалай Грэцкі, Павел Зубкоў, Людміла Кервяк, Hello Grodno Hostel, Яўгеній Валовіч, Ігар Петрушка, Ганна Дудзіч, Цімафей Вялічка, Анастасія Вялічка, Кацярына Шымковіч, Дзмітрый Князеў, Андрэй Ціхаміраў, Ірына Урагава, Максім Паўлоўскі, Ціхан Бaброў, Лізавета Літвінава, Таццяна Крушава, Алена Цімошчанка, Марына Касіцкая, Міхаіл Зяленка, Віталь Богдзель, Станіслава Коцкая, Віктар Самусенка, Павел Сальнікаў, Андрэй Шупіца, Сяргей Змітрукевіч, Уладзімір Малышаў, Зміцер Грахоўскі, Аляксандр Стрыжак, Аляксей Сак, Настасся Седач, Эла Прадко, Павел Тысьлацкі, Андрэй Шавель, Аляксандра Озаль-Вараб'ёва, Кацярына Алкевіч, Алена Махнева, Аляксей Іконнікаў, Дзмітрый Ражко, Аляксей Саладуха, Леанід Дзенісюк, Мікалай Дзенісюк, Усевалад Шамардзін, Ганна і Дзмітрый Зіновікі, Настасся Штоп, Кацярына Анікеіч, Сяргей Тарас, Алена Якута, Алена Здановіч, Аляксандр Чароўскі, Яўген Бачышчаў, Дзмітрый Мандрык, В. Гацкевіч, Наталля Мякшыкава, Уладзімір Галак, Павел Агейчык, Валянціна Лебядзевіч, Яўген Калодзін, Віктар Шумель, Дзмітрый Бандарчук, Аляксей Апімах, Таццяна Навіцкая, Аляксей Пралейка, Юлія Сіцько, Любоў Грахольская, Вадзім Талочка, Аляксей Шцін, Юрый Коваль, Рут Маркус, сям'я Гарднер, Аляксандр Балоннікаў.

*Навукова-папулярнае выданне*

**Кулевіч** Руслан Часлававіч

# Гісторыі з гродзенскіх вуліц

Гродна 1930–40-х вачыма жыхароў. Працяг

Рэдактары *Аляксей Шота, Надзея Вішнеўская*

Дызайн вокладкі *Канстанцыя Калінушкіна*

Макетаванне *Алесь Рыжы, Ілля Рыжы*

Карэктар *Аксана Данілевіч*

